УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Д43

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 67.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Дзядзенка, З.**
Д43 Гісторыі ў прыцемках / Зміцер Дзядзенка. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 148 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 67).
ISBN 978-985-7119-90-5.

Творы Змітра Дзядзенкі, якія ўвайшлі ў кнігу «Гісторыі ў прыцемках», вызначаюцца цікавасцю да таямнічага і неспазнанага, а таксама вострасюжэтнасцю. Героі твораў спрабуюць разгадаць загадкі, паходжанне якіх губляецца ў прыцемках гісторыі. Гэта характэрна як для містычнага апавядання «Яйкі птушкі Рух», так і для дэтэктыўных аповесцяў «Голем з Малой Мар'ямпольскай» і «Вуаерыст».

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-90-5**

# ЯЙКІ ПТУШКІ РУХ

Слаўка Мангол нахіліў галаву і паглядзеў на чалавека, які ляжаў перад ім на цэментовай падлозе. Упёрты, сука! Зрэшты, Мангол ведаў, што «халяўных» грошай не бывае і ўсе іх трэба адпрацоўваць.

Голая лямпачка пад невысокай столлю хіснулася ўбакі, і ў жаўтлявым няроўным святле ў істэрычным танцы замітусіліся святло і цені. Мангол пабачыў, што ў збітага ім на горкі яблык чалавека заварушыліся раскрываўленыя вусны. Ён штосьці шаптаў, звяртаючыся ці то да свайго ка́та, ці то да невядомага анёла-ахоўніка. Рукі збітага бяссільна драпалі падлогу. Але цэмент не прашкрабеш!

Мангол не збіраўся забіваць сваю ўпёртую ахвяру. Яму далі заданне «раскалоць», прымусіць загаварыць. Гэта значыць, збіваць трэба было так, каб настрашыць больш, чым нанесці непапраўнае шкоды.

І тут Манголу прыйшла ў галаву думка. Ён пасадзіў чалавека, паклаў яго руку на стол і ўзяў малаток. Мангол загаварыў павольна, каб да збітага дайшоў сэнс словаў. Ён жа, здаецца, скульптар? Значыць, рукі яму патрэбныя для працы. Ён, Мангол, забіваць скульптара не будзе — ён зробіць так, каб той усё жыццё шкадаваў пра сваё неабдуманае рашэнне. Ну што, усё ясна? Будзем далей гуляцца ў маўчанку ці скажам урэшце, дзе ляжаць тыя яйкі?

Чалавек паглядзеў на Мангола і раптам... Раптам ён рассмяяўся! Глядзець на тое, як смех вырываецца бурбалкамі з крывавых чырвона-чорных вуснаў, было непрыемна. Мангол загадаў, каб той сціх.

Смех абарваўся на высокай ноце:

— Дык, значыць, яны табе нічога не сказалі? Не патлумачылі?.. Ну, яны, тыя, хто замовіў мяне... Я раскажу, але гэта доўга. Можна вады?

Спярша чалавек гаварыў перарывіста, з доўгімі паўзамі. Потым яны сталі крыху карацейшымі.

* * *

Я не скульптар, я мастацтвазнаўца. Дакладней, займаюся гісторыяй мастацтва. У тым сэнсе, што я хутчэй архіўны чарвяк. Мой занятак — не стварэнне карцін і скульптураў, а словы і вобразы, якія нанізваюцца на гэтую рукатворную аснову. Калі параўнаць мастака з чарупінай, якая дорыць нам перліну, то я — дыядэма, у якую гэтая перліна ўстаўляецца. Разумею, нясціпла, але...

У маёй працы, падрабязнасцяў якой я зараз расказваць не буду, каб не нагаворваць лішняга... дык вось, у маёй працы ёсць свая спецыфіка — я працую са старымі дакументамі. Не часоў вайны — старэйшымі. І не царскімі — маім дакументам па 300–400 гадоў. Я ж кажу — архіўны чарвяк, спажывальнік зжаўцелых шаматкіх паперак... Так-так, не пераключаюся.

Неяк, корпаючыся ў гэтых старых дакументах і разбіраючы мудрагелістыя завітушкі старадаўняга пісара, я сустрэў нечаканы запіс. Ён апісваў падарункі, якія павезла з сабой вялікакняскае пасольства да двара французскага караля. У тым пераліку былі футры медзвядзёвыя, мёд гарцамі, а таксама ўсялякія цікавосткі — напрыклад, бурштынавы бранзалет, на якім былі выразаныя карціны з гісторыі Францыі. У ліку тых цікавостак згадваецца «яек птушкі Рух пара».

Калі я пабачыў гэта, дык не даў веры сваім вачам. Яйкі птушкі Рух — гэта ж нешта казачнае! Гэта Сіндбад-мараплаўца і «Казкі тысячы і адной ночы». Як? Як у нашыя шыроты маглі трапіць яйкі птушкі Рух? І ці тая самая гэта птушка, пра якую мы чыталі ў дзіцячых казках? А можа, проста нядбайнасць перапісчыка? Хто зараз разбярэ праз 400 гадоў...

Але з таго часу «яйкі птушкі Рух» не давалі мне спакою — я стаў шукаць згадкі пра іх у апісаннях іншых пасольстваў. Я гартаў таўшчэзныя тамы і чхаў ад векавога пылу. Пад маімі

пальцамі праплывалі чужыя лёсы, чые гаспадары даўно ўжо спрахлі ў сваіх магілах. Яны звярталіся да мяне з нябыту, ажываючы на кароткія імгненні, калі я чытаў іх словы, занатаваныя спрытным судовым пісарам. І той шляхціч Гізыцкі, які скардзіўся, што на яго жыццё двойчы рабілі замах хцівыя суседзі, ды паказваў судовым чынам сляды ад куляў у сценах свайго дома. І той мешчанін Капыцька, які даносіў на свайго суседа, што яшчэ 10 гадоў таму, калі быў пажар у Траецкім манастыры, скраў пры пажары з царквы пацір срэбраны... Вось чаму ён дзесяць гадоў маўчаў?!

Але я мала зважаў на гэтыя гісторыі — я шукаў згадкі пра яйкі птушкі Рух. Пару разоў я пабачыў іх зноў — і зноў у пераліку падарункаў. На гэты раз атрымальнікамі запаветных яек мусілі стаць Папа Рымскі Урбан VIII ды імператар Святарнай Рымскай імперыі. У пасольстве да Папы іх была зноў жа пара, а імператару дасталося адно. Але і гэтым адным яйкам, паведамлялі Вялікаму князю паслы, імператар застаўся дужа задаволены.

Выглядала на тое, што яйкі птушкі Рух былі асаблівым дарункам, які давалі нават не ў кожнае пасольства. Але гэтае разуменне не праясняла для мяне таямніцы тых яек — ані іхнага паходжання, ані мэтаў, з якімі іх вазілі ў далёкія краіны.

Не, вядома ж, я разумеў, што яйкі маглі быць проста дзівацкімі штучкамі, якімі ўсцешваліся тагачасныя людзі. З гэткай самай дзіцячай непасрэднасцю збіраў пазней разнастайныя звыродствы ў сваю куншт-камеру расійскі імператар Пётр Вялікі. Гэта яшчэ і ў XIX стагоддзі не было чымсьці выключным: людзі стаялі бліжэй да прыроды, таму ўсялякія звыродствы і дзівацтвы лічылі цікавымі для сузірання. Адступленне ад нормы было нечым незвычайным, а не альтэрнатыўным развіццём, як прынята казаць цяпер...

Вой, пардон! Я зноў збіўся... Вяртаемся да яек, якія так зацікавілі некалі мяне, а цяпер настолькі цікавяць маіх невядомых пераследнікаў, што яны нават не паленаваліся наняць вышыбалу звестак з маёй галавы.

Адкрыццё напаткала мяне нечакана, як тая табліца, якую прысніў нецвярозы расійскі хімік. Як цяпер памятаю, я пра-

глядаў альбом «Замкі Францыі». Погляд з вышыні птушынага палёту — стваральнікі ніколі не бачылі гэтыя замкі такімі! Побач — фотаздымкі асобных пакояў, асобных элементаў дэкору: нізкія столі пакояў суседзілі на старонках з высознымі сценамі парадных залаў, статуі рыцараў (неад'емны атрыбут калідораў у такіх замках!) перамяжаліся з габеленамі, чые фарбы былі ці не старэйшымі за тых самых рыцараў, партрэты ўладальнікаў чаргаваліся з барэльефнымі сцэнамі палявання ці бітвы... І нечакана я пабачыў выяву барэльефа, ад якога ў мяне проста заняло дыханне.

Гэта быў вядомы антычны сюжэт на тэму спароўвання Леды і Зеўса, які прыняў аблічча лебедзя. Сюжэт, вядома, не для дзяцей, што называецца, але старажытныя эліны непрыстойнасцяў у такіх адносінах не бачылі — яны ўсё ўспрымалі як абсалютна нармалёвую, прыродную з'яву. Гэтак жа прырода выяўляецца сама па сабе, па-за межамі нашага этычнага ўспрымання ў фільме «Легенда пра Нараяму» — бачылі?..

Так-так, я не адхіляюся, я працягваю. Барэльеф, пабачаны мной, належаў, вядома ж, ужо не антычнасці, а Рэнесансу — тады творцы толькі вярталіся да адкрыцця прыгажосці чалавечага цела!.. На барэльефе было некалькі сцэнаў. Там было спароўванне Леды і Лебедзя, потым было яйка, якое з'явілася ў выніку гэтага саюзу, а фінальная сцэна паказвала нараджэнне з яйка Алены Прыўкраснай — той самай, якая стала прычынай Траянскай вайны. І мармуровая статуя Алены вянчала фінал гэтага барэльефа — яна нібыта нараджалася не толькі з яйка, але і з папярэдняга барэльефа! Гэта была задуманеверагодна прыгожая, дый увасабленне не горшае.

Але яйка! Яно найперш прывабіла маю ўвагу. Я даведаўся, што імя скульптара невядомае, а мясцовая легенда кажа, быццам бы скульптара, які стварыў гэтую прыгажосць, і не было зусім. Паводле легенды, мясцовы барон прывёз з крыжовага паходу з далёкіх усходніх земляў не толькі золата, але і яйка птушкі Рух! І з дапамогай свайго прыдворнага алхіміка ён стварыў з гэтага яйка скульптуру Алены Прыўкраснай. Легенда нахвальвала здольнасці алхіміка, які здолеў вывесці

з яйка такі цуд, і проціпастаўляла яго няздарам, што з яек птушкі Рух панастваралі адно гаргульяў ды іншых пачвараў, якіх можна бачыць не толькі на Саборы Парыжскай Божай Маці, але і на мностве іншых сабораў ды замкаў.

Маё ўзрушэнне было настолькі моцным, што я проста не мог уседзець на месцы — я пайшоў бадзяцца па горадзе. Перада мной адкрыўся цуд! Я фактычна быў у нечым уладальнікам легенды, і адзін я ва ўсім свеце ведаў, што легенда існавала насамрэч. А магчыма... Магчыма, яна існуе і дагэтуль!

Толькі позна ўвечары, вяртаючыся дадому, я заўважыў, што ў той зусім не спякотны кастрычніцкі дзень я сышоў з дому ў пінжаку і хатніх тапачках. Падазраю, што сустрэчныя на мяне касавурыліся, але прынамсі нікога са знаёмых я не напаткаў.

Цяпер мяне больш не цікавіла, у якія краіны пасольствы вывозілі яйкі птушкі Рух. Іншае сталася маёй ідэяй фікс — цяпер мне карцела знайсці самое яйка. Як апантаны, я перагортваў старонкі манускрыптаў і тоўстыя старонкі судовых кніг — у гэтым папяровым моры я шукаў сваю перліну, адгадку сваёй таямніцы. Адкуль браліся яйкі таямнічай птушкі? Калі іх вывозілі раз-пораз, значыць, аднекуль іх бралі! Адкуль? Ці жылі ў нас птушкі Рух? Альбо недзе захавалася цэлае радовішча тых яек? Калі яны захаваліся з нейкіх дагістарычных часінаў, то, магчыма, гэтым і тлумачыцца тая акалічнасць, што з яек з'яўляліся каменныя статуі? Безліч пытанняў апанавала мяне, і я не мог даць адказы на іх.

* * *

Мангол моўчкі слухаў, зрэдзьчас згодна ківаючы. Інструкцыі, дадзеныя яму, былі дакладныя. Калі акулярнік захоча гаварыць — хай гаворыць: усё сказанае ім запісваецца на ўключаны магнітафон. Пакуль акулярнік гаворыць, Мангол не павінен замінаць яму...

* * *

Чытанне старадаўніх манускрыптаў апанавала мяне. Цяпер я чытаў уперамешку: мемуары магнатаў ішлі следам за судовымі справамі, алхімічныя зборнікі ляжалі ў адным стосе з кнігамі па вядзенні гаспадаркі, трактаты па мастацтве ў маіх руках змяняліся трактатамі для паляўнічых. Мне адкрываўся нечуваны сусвет! Я нават не ўяўляў, колькі астролагаў і алхімікаў жылі ў нашым краі. У іхных кампэндыумах і грымуарах я раз-пораз сустракаў згадку пра яйка птушкі Рух: разам з ім абавязкова згадвалася саламандра — сімвал агню. У кнігах па гаспадарцы таямнічае яйка фігуравала толькі мімаходзь: маўляў, яно можа стаць цудоўнай аздобай шляхецкага палацыка альбо сядзібы — і больш ані слова!

Самымі багатымі на згадкі былі, вядома ж, мемуары і судовыя кнігі. Не скажу, каб гэтыя дакументы нагадвалі даведнік па птушкагадоўлі, але прынамсі патрэбныя мне згадкі там можна было знайсці даволі часта. Якія гісторыі траплялі мне ў рукі! Напрыклад, Багуслаў Радзівіл ахвяраваў віленскім езуітам залаты каўчэжац італійскай работы і яйка птушкі Рух. Князі Друцкія-Любецкія судзіліся з магнацкім родам Стэткевічаў за валоданне яйкам птушкі Рух і лесам каля Баркалабава, прычым яйка ацэньвалася даражэй за лес. У скарзе каралю і вялікаму князю амсціслаўскі шляхціч Мядзвецкі даносіў на свайго суседа Сапешку, што той Сапешка гвалтоўным чынам на яго маёнтак учыніў наезд і пабраў майна каштоўнага багата. А між таго майна было яйка птушкі Рух, што перадавалася як радавая каштоўнасць ужо цягам некалькіх каленаў ад часоў Жыгімонта Старога, калі продак Мядзвецкага Юры тое каштоўнае яйка прывёз як паходную здабычу...

Я дзякаваў Богу за тое, што беларуская шляхта так любіла судзіцца! Інакш бы мне ніколі не даведацца пра чарнакніжніка Бальтазара Буцкага, які жыў пры двары Агінскіх на пачатку XVIII стагоддзя. Яго звінавацілі ў чорнай магіі ды зласлоўі на Духа Святога — дастатковы грэх, каб апынуцца на вогнішчы. На судзе збянтэжаны алхімік тлумачыў, што шукаў філасофскі камень, каб ператвараць металы ў зола-

та, і нічога агіднага Богу ў тым няма. Ён казаў, што д'ябла не ўшаноўваў, а тая істота, якую напалоханыя шляхецкія служкі бачылі ў яго, называецца саламандра, яна жыве ў агні. Менавіта яе ён, названы Бальтазар Буцкі, кідаў у агонь дзеля сваіх алхімічных пошукаў. І менавіта дзякуючы ёй з'явіліся тыя мармуровыя статуі, што аздабляюць палац ягамосцяў Агінскіх. Бо саламандра дапамагае падтрымліваць цягам некалькіх дзён бесперапынны агонь, нават калі сам алхімік ад стомленасці засне. А апаленыя на бесперапынным агні яйкі птушкі Рух, на якія так багатыя мсціслаўскія ўладанні Агінскіх, урэшце расколваюцца і спараджаюць на свет тыя статуі нечуванай анёльскай прыгажосці. Іншага спосабу атрымаць іх няма, бо расколатыя ўручную, без агню, яйкі рассыпаюцца дробным друзам — пра гэта вядома здавён.

І далей казаў Бальтазар Буцкі, што не ўзносіў ён праклёны на імя Духа Святога і не выклікаў д'яблаў, а сам сабе паўтараў услых рэцэпты рэчываў, які трэба дадаваць у агонь пад яйкам птушкі Рух, пакуль яно награецца. І няма ў тых словах нічога шатанскага: сульфур — гэта сера, мэркурыё — азначае ртуць, салетра... Але вымушаны быў замоўкнуць на патрабаванне суда, бо суддзя палічыў гэта за магчымае чарнакніжніцтва.

Словам, не ўдалося алхіміку пераканаць суд у сваёй невінаватасці: расплаўлены свінец навек запячатаў горла, якое выяргала агідныя блюзнерствы...

Затое я з гэтай гісторыі атрымаў амаль цэласную тэхналогію на абыходжанне з яйкам птушкі Рух.

Прыкладна ў той жа час я адчуў, што за мной сочаць: разпораз я бачыў, як мяне зранку ад дома да архіва праводзіць адзін і той самы каржакаваты чалавек у скуранай курткы, а ўвечары ён жа ідзе за мной назад. Потым я заўважыў, што ў маю адсутнасць кватэру наведалі пабочныя госці: яны нічога не забралі, аднак мае выпіскі, датычныя яек птушкі Рух, былі перагледжаныя, бо складзеныя крыху не ў тым парадку, як гэта рабіў я. Я памяняў замкі дома, але мала ўстурбаваўся гэтым візітам: красці ў мяне не было чаго, а яйкі птушкі Рух маглі зацікавіць толькі такога ж фанатыка, у якога я на той

момант ператварыўся. Візіцёры — гэта, вядома, непрыемна, але я разумеў, што міліцыя імі займацца не будзе: у газетах столькі пішуць пра іхную марную барацьбу з арганізаванай злачыннасцю і рэкецірскімі групоўкамі, што дарма было б спадзявацца, быццам яны кінуць усё і стануць займацца маёй кватэрай, з якой нічога не знікла.

Потым здарылася штосьці незвычайнае. У адзін з красавіцкіх дзён у сваёй паштовай скрыні я знайшоў часопіс, які не выпісваў. Гэта было нейкае прамыслова-індустрыйнае выданне пра арганізацыю працы, назву якога ўжо і не згадаю. Я падумаў, што паштарка памылкова ўзбагаціла мяне за кошт кагосьці з суседзяў. Але гэтая думка цешыла мяне толькі да таго часу, пакуль я не зазірнуў усярэдзіну часопіса. На старонцы з глыбакадумнай пазнакай «Змест» назва аднаго артыкула была абведзеная чырвоным стрыжнем — «Да гісторыі адной авантуры 1930-х. Прамысловая вытворчасць паркавых скульптураў па саматужніцкіх тэхналогіях».

Аўтар, чыё імя мне ні пра што не казала, распавядаў пра эксперымент, пастаўлены ў самым канцы 20-х гадоў. Паводле ягоных звестак, тады ў Смаленску спрабавалі наладзіць прамысловую вытворчасць скульптураў даўнімі метадамі. Сыравінай для гэтых паркавых статуяў акурат і былі яйкі птушкі Рух — дакладней, аўтар называў іх яйкамі дагістарычных птушак. У тэксце распавядалася, як нейкі прайдзісвет і махінатар Абрыкосаў угаварыў чыноўнікаў з Наркамата асветы рабіць з гэтых яек статуі, якія мусілі ўпрыгожыць савецкія паркі. Ну, вы ж ведаеце ўвесь гэты бэстыяр — розныя там дзяўчаты з вёсламі, піянеры з горнамі і барабанамі, рабочы і сялянка... Для пачатку яму дазволілі адкрыць невялікую майстэрню, і ёй жа ўрэшце ўсё абмежавалася.

Абрыкосаўскія скульптуры, як ён ні стараўся, атрымліваліся не тое што нягеглымі... Яны былі папросту антысавецкімі, яны былі пародыяй на абвешчаную задуму. Дзяўчына замахвалася вяслом, каб адвесіць сваймў візаві добрага кухталя, піянер з горнам стаяў сагнуўшыся, быццам яму балеў жывот, а рабочы і сялянка з дапамогай сімвалаў пралетарскай еднасці відавочна меліся вырашаць сваю сямейную

спрэчку. І пры гэтым ва ўсіх быў такі зверскі выскал на тварах, што ставіць гэтыя скульптуры ў парках, прызначаных для сямейнага адпачынку, было прызнана немэтазгодным. Невялікія бякла-шэрыя фотаздымкі на глянцавых старонках часопіса паказвалі, як выглядалі творы майстэрні. Скажу па праўдзе, яны мала чым саступалі кадрам з сучасных фільмаў жахаў.

У пастанове камісіі атрыманыя скульптуры былі названыя яркімі прыкладамі дэгенератыўнага буржуазнага мастацтва, чужога пазітыўнаму светагляду савецкіх людзей. Майстэрню закрылі, усе яе работнікі адправіліся ўзводзіць Беламорска-Балтыйскі канал, сам Абрыкосаў праз год быў расстраляны як трацкісцкі шпіён і брытанскі агент. Альбо трацкісцкі агент і брытанскі шпіён — даслоўна я ўжо не памятаю. Дакументы ж, датычныя дзейнасці майстэрні, надоўга былі засакрэчаныя.

* * *

Мангол заўважыў, што гутарка акулярніка становіцца больш павольнай. Ён рабіў паўзы, спыняўся, цяжэй дыхаў. Часам здавалася, што словы спыняюцца ў яго на языку і не хочуць з яго саслізгваць. Акулярнік рабіў намаганні і выштурхоўваў непаслухмяныя словы...

* * *

Аўтар артыкула да ідэяў Абрыкосава паставіўся адмоўна: маўляў, цемрашальства нейкае, угрунтаванае на алхіміі. Што праўда, дадаваў ён, гэта ўсё адно не нагода для рэпрэсіяў.

Але мяне больш за ўсё зацікавіла дэталь, якую аўтар падаваў між іншага, не надаючы ёй нейкай увагі. У артыкуле раскрывалася метадалогія, якой карыстаўся Абрыкосаў: гэта былі ўсе тыя самыя алхімічныя дзеянні, але наваяўлены творца-Франкенштайн абышоўся без чытання заклёнаў і кідання ў агонь саламандры — палічыў гэта бабскімі забабонамі. Я адчуваў, што менавіта тут і была ягоная памылка! Ну, вядома, у чытанне заклёнаў я і сам не веру, але сала-

мандра — гэта ж абсалютна матэрыяльны складнік, рукамі памацаць можна.

Я быў так усхваляваны, што не адразу задумаўся, адкуль у маёй паштовай скрыні ўзяўся гэты часопіс і хто яго туды закінуў. Зрэшты, варыянтаў было няшмат: гэта той мой пераследнік у скураной куртцы або нехта з ягоных напарнікаў. Але навошта яны гэта зрабілі? І чаму так сочаць за мной і маімі пошукамі?

Адказу чакаць давялося нядоўга. Праз некалькі дзён у сваёй паштовай скрыні я знайшоў... Не, гэтым разам быў не часопіс, а ліст. Звычайны ліст — адно што выдрукаваны, а не напісаны ад рукі. Аўтары ліста пісалі, што ведаюць усё пра мае пошукі, што яны зацікаўленыя ў іх поспеху, бо таксама шукаюць яйкі птушкі Рух, і што яны прапануюць мне ўзнагароду. Калі я высветлю, дзе застаюцца паклады гэтых выкапнёвых яек, то мне дадуць энную суму — за знаходку і маўчанне.

Акурат калі я дачытаў гэты ліст і яшчэ трымаў яго ў руках, не ведаючы, што з ім зрабіць, у мяне зазвінеў тэлефон. Незнаёмы густы голас спытаўся, што я думаю наконт іх прапановы. За мной сачылі нават дома! У спалоху я кінуў слухаўку і больш у той вечар не падыходзіў да тэлефона.

Наступныя пару дзён я не выходзіў з дому: пакуль было магчыма абысціся без закупкі прадуктаў, я стараўся не паказвацца на вочы маім пераследнікам. За гэты час я ўпарадкаваў свае запісы, і гэта нечакана мне дапамагло: я зразумеў, дзе трэба пачынаць пошукі яек птушкі Рух! Я спаліў свае паперы, каб па маіх слядах не змаглі прайсці гэтыя невядомыя мне людзі. Хто яны — я не ведаў, але ўжо асабліва гэтым і не пераймаўся: калі б намеры іхныя былі чыстымі, мне б не сталі падкідваць ананімныя лісты.

Дзякуй Богу, мне не было патрэбы паліць абсалютна ўсе свае запісы — гэта заняло б занадта багата часу. Я знішчыў толькі ключавыя. Агонь прагна паглынаў аркуш за аркушам, а я ў гэты час адчуў сябе маленькім дзіцем — гэтак жа зачаравана я глядзеў на вогнішча ў дзяцінстве, спрабуючы зра-

зумець душу агню. Я не зразумеў яе і цяпер, затое мне ўдалося спаліць усе масты, якія вялі ад мяне да таямнічых яек.

Як бачыце, я ўсё паспеў. Вашым гаспадарам не ўдалося нічога знайсці, іначай бы мы не размаўлялі тут так доўга...

І яшчэ. Ведаеце, я баюся болю. Дакладней, не так: я занадта шмат чытаў пра катаванні нават сярэднявечныя, каб не зразумець, што практычна для кожнага чалавека можна знайсці балючую кропку і зламаць яго. Я не супергерой, я не зроблены са сталі... Але мне хапіла часу, каб не толькі спаліць паперы, але і з'есці з дзясятак пігулак перад вашым уварваннем. Падзейнічаць адразу яны не маглі, але мы размаўляем ужо дастаткова доўга...

* * *

Мангол агаломшана глядзеў, як акулярнік зваліўся ў курчах на падлогу і пачаў хрыпець у агоніі. Потым ён падскочыў і стаў біць, біць, біць нагамі ў сляпой раз'юшанасці, аж пакуль цела не заціхла пад ягонымі ўдарамі.

# ГОЛЕМ З МАЛОЙ МАР'ЯМПОЛЬСКАЙ

* * *

Забойцу нічога не павінна было спыніць. Ён усё разлічыў, вывучыў дом як свае пяць пальцаў. Дзякаваць богу, часу на гэта было дастаткова. Вось тут трэба ступаць асцярожна: гэтая маснічына рыпіць. Пераступіў. Ён, вядома, зможа патлумачыць, чаму ходзіць тут у такі позні час. Але ўсё ж лепей не рызыкаваць. Іначай давядзецца адкладаць справу ды вынаходзіць новы спосаб: другі раз гэтак ісці ўжо не варта.

На вуліцы цяпер светла, амаль як удзень. Аднак зачыненыя аканіцы не дадуць прабіцца ў пакой нават месяцоваму святлу. Толькі вузенькі прамень пралез у шчыліну. Халодны спакойны прамень, што супакойваў думкі.

Ён лёгенька пастукаў пазногцем у дзверы. Яна адчыніла амаль адразу.

— Ты? — у голасе было непадробнае здзіўленне. — Чаму так позна прыйшоў? Справа якая важная, каб апоўначы хадзіць?

Ён моўчкі хітнуў галавой. Тузануў за сабой дзверы: яны нягучна стукнулі аб вушак. Клямка шчыльна і надзейна прычыніла дзверы. І гэтак жа хутка, шчыльна і надзейна сышліся рукі на дзявочым горле.

Яна не паспела закрычаць. Сіпела, спрабавала расціснуць мёртвае кола, што ўсё мацней сціскалася, не давала ёй дыхнуць.

Забойца апусціў мёртвае цела на падлогу. Падышоў да вакна, расчыніў. Халоднае свежае паветра рванулася ў пакой, нервова здрыгануліся фіялетавыя фіранкі. Яны кінуліся ў твар забойцу, ён прытрымаў іх.

Ціхенька закрываючы за сабой дзверы, ён выйшаў з пакоя.

* * *

Доктар Скарына адразу спадабаўся Вітушынскаму. Такім, як Сяргей Раманавіч, і павінен быць сапраўдны хірург — высокім, шумным, упэўненым у сабе. Кожны ягоны прыход у палату дадаваў пацыентам аптымізму. Што праўда, выгляд доктара цяпер многія назвалі б старарэжымным: акуратная дагледжаная бародка-эспаньёлка, залатое пенснэ, гарнітур-тройка светла-пясочнага колеру. Аднак доктару гэта пасавала і выклікала да яго большы давер у хворых. Дый у жанчын гэты кучаравы прыгажун, відавочна, карыстаўся папулярнасцю. Правінцыйны донжуан...

Вітушынскі адклаў на прыложкавую тумбачку альманах. Старонку Антон закрываць не стаў, бо яшчэ не дачытаў: у тлуме абавязковага штодзённага агляду гэта ўсё адно не ўдасца.

— Ну, як пачуваецеся? Як настрой? — доктар зірнуў на адкрытую старонку. — Можна паглядзець? О, «Краязнаўчы альманах»! Цікавіцеся тутэйшым друкам?

Ён зірнуў на зеленкаватую вокладку, што колерам нагадвала недаспелы яблык. Спехам перагарнуў колькі старонак.

— Ведаеце, папрасіў сястрычку купіць што-небудзь пачытаць мне. Вось яна і прынесла, — нібы апраўдваючыся, сказаў Вітушынскі.

Скарына кінуў яшчэ адзін чэпкі позірк на адкрытую старонку. «Рукапісны траўнік XVIII ст.» — вялікія літары загалоўка здалёк кідаліся ў вочы.

— А цяпер чытаеце пра травы. І як? Падабаецца? Тут жа, відаць, пра цемрашальства якое-небудзь.

Доктар уважліва паглядзеў на пацыента. Вітушынскі адчуў сябе так, нібы яму пачынаюць ставіць дыягназ. «Як карась на патэльні», — недарэчна падумалася яму.

— Ды не тое каб вялікае ўжо там цемрашальства было — гэта ж навуковы артыкул. Пра знойдзены старадаўні рукапіс. Вось глядзіце, колькі нашыя продкі ўжывалі розных траваў для медычных мэтаў. Баркуном сцябалі па нагах, каб яны не балелі. Руту ўжывалі пры сардэчных, нервовых і жаночых хваробах. Трыпутнік — пры запаленнях ды пашкоджаннях

скуры. Святаяннік — ад малакроўя, пры крывацёках, ад крывавай бягункі, для гаення ранаў, пры лекаванні апёкаў. Узвар ад яго, ад святаянніка, атрымліваецца чырвоны, «родны» з кроўю. Таму і карысталіся ім для «прыбаўлення крыві».

Скарына скептычна ўзяў альманах:

— І вы верыце гэтаму траўніку-страўніку? Асабліва калі ўлічыць, што пры карыстанні ўсімі гэтымі травамі абавязкова трэба прыгаворваць што-небудзь гэткае: «На моры, на лукамор'і стаіць вярба, на той вярбе сем сот галля, а ў том галлі звіта лапухова гняздо, а ў тым гняздзе ляжыць Евацарыца...» Гэта ж чорт ведае што такое! Вы ж адукаваны чалавек... Няўжо вы сапраўды верыце ў існаванне пералёт-травы, якая выконвае ўсе жаданні? Ці ў разрыў-траву, якая адчыняе ўсе замкі ды засовы? Гэта ж усё казкі, прыдуманыя ад людской неадукаванасці. Вунь у вашым траўніку пішуць, што цыбуля ды часнык адганяюць ліхія чары ды нячыстую сілу... У дваццатым стагоддзі жывём! Эпоха тэхнічнага прагрэсу!

Антон на скептычную доктараву ўсмешку не зрэагаваў, запярэчыў сур'ёзна:

— Можна ж не браць пад увагу ўвесь гэты старэчы фальклор. А вось вам як доктару, пэўна, было б цікава пра ўсе гэтыя травы даведацца.

— Мне? Нецікава! Я ж хірург, а не тэрапеўт, — перавёў размову на жарт Скарына. — Давайце агледзім вашу нагу.

Сённяшні агляд быў нядоўгім.

— Ну вось, правая ў вас цяпер амаль такая ж, як і левая. Варта было б вас выпісаць, а то, лічы, здаровы чалавек ляжыць, займае месца.

— Дык я б не супраць, — Вітушынскі пажвавеў. — А што, можаце выпісаць?

Доктар задуменна агледзеў яшчэ раз нагу Вітушынскага:

— Выпісаць можна, але паназіраць за вашым станам я б яшчэ хацеў. Вы калі атрымалі гэтае раненне? На фронце? Франтавая разведка? Ах, яшчэ ў пятнаццатым годзе... Ведаеце, я вам вось што прапаную. Вы ж у нас праездам,

так? У нас у горадзе, як ведаеце, ёсць гатэлі «Адэскія нумары», «Кіеўскія нумары». Але я вам не раю туды сяліцца: прусакі, ведаеце, клапы, рэдка мяняюць пасцельную бялізну, дый увогуле... Ёсць яшчэ гатэль «Брыстоль». Аднак, мне здаецца, чым больш гучную назву даюць гатэлю, тым менш дбаюць пра ўтульнасць і чысціню. Пажывіце тыдзень-другі ў мяне ў доме. Ён, праўда, амаль на самым краі горада. Але вялікай бяды тут няма: горад у нас невялікі, таму заўсёды зможаце дабрацца куды захочаце.

— Нават не ведаю. Неяк гэта няёмка, — пацыент сумеўся.

— Няма тут нічога няёмкага. Лічыце, я забіраю вас пад свой нагляд. Пагатоў, у мяне вы зможаце паглядзець яшчэ процьму такіх кніг, пра якія вы тут толькі чытаеце. Можа, знойдзеце што-небудзь цікавае для сябе і для іншых. А не толькі «На моры, на лукамор'і стаіць вярба»...

Прамовіўшы гэта, Скарына лёгка ўзняў сваю выносістую фігуру. І пераходзячы ўжо да суседняга ложка, кінуў цераз плячо Вітушынскаму:

— Збірайцеся, у абед паедзем да мяне.

* * *

Дом Скарыны стаяў на вуліцы, парослай старавечнымі ліпамі. Усе тутэйшыя дамы — невялікія. Доктарскі будынак хаваўся ад дарогі ў глыбіні, за невялічкім «паркам» — высаджанымі ў шахматным парадку ясенямі. Там-сям паміж дрэваў былі відаць невялікія кветнікі з наготкамі, касачамі.

Найманы экіпаж давёз іх вельмі хутка. Павятовая Ворша наогул выглядала горадам невялікім: з брукаванай Пецярбургскай, дзе стаяла амбулаторыя, да ўтравелай Малой Мар'ямпольскай вуліцы дабраліся менш чым за чвэрць гадзіны. Можна было б прайсціся пешшу, але доктар не хацеў пакуль празмерна перагружаць нагу Вітушынскага. Дарогай Антон звярнуў увагу на першыя знакі нядаўняга вяртання Воршы да Беларусі: раз-пораз ужо траляліся шыльды па-беларуску. У моры расійскамоўных яны выглядалі рэдкімі экзатычнымі цікавосткамі.

На дарожку, што вяла да дома, сустрэць іх выбегла каротка стрыжаная невысокая брунетка ў попельна-шэрай сукенцы. Расцягваючы словы, нізкім голасам яна ўсклікнула:

— Ах, Серж, як цудоўна, што ты прыехаў! Я ўжо стала хваляваццa. Ведаеш, так страшна быць адной дома. Заходзіла Наталля Андрэеўна («Нашая суседка», — патлумачыў напаўголаса Скарына Вітушынскаму), расказвала такія страхоцці!

— Леначка, пазнаёмся: гэта Антон Валер'евіч Вітушынскі, ён пажыве ў нас крыху. Ён мой пацыент, я нейкі час буду даглядаць яго.

— Вельмі прыемна! — дзяўчына ўважліва паглядзела Вітушынскаму ў вочы. — Серж, што ж ты не папярэдзіў, што прыедзеш не адзін? І я зусім-зусім не падрыхтава-аная...

— Так атрымалася, даруй, — Скарына пацалаваў сястру ў шчаку. Скіраваўшыся ў дом, ён запытаўся: — Дык што ж табе расказвала гэтая старая пляткарка, якой не сядзіцца дома? Здаецца, у яе ў жыцці такі дэвіз: «Не пакінь без нагляду ні блізкага свайго, ані жонкі ягонай, ані каня ягонага, ані вала ягонага».

— Ах, Серж, ты несправядлівы да яе: жанчыне проста вельмі сумна. Вось яна і заходзіць да мяне пагаварыць, па-суседску... — Дзяўчына паспрабавала пакрыўдзіцца, але, відаць, доўга маўчаць і крыўдаваць папросту не ўмела: — Яна казала, што каля суседніх дамоў надоечы бачылі нейкага падазронага бадзягу. Нейкі ён страшны, казала, звыродлівы. І паводзіць сябе дзіўна: нібы нешта выглядае ўвесь час — можа, скрасці што хоча. А я тут акурат пераглядала старыя рэчы: вопратку, абутак — і ўбачыла, што некуды зніклі боты. Памятаеш, такія чорныя, старыя, гумовыя? Яны былі велікаватыя нават табе...

Доктар адказаў, што не памятае, дый нявартыя ўвагі старыя боты, якія некуды згубіліся:

— Займіся, калі ласка, абедам. А я пакуль пакажу нашаму госцю бібліятэку: ён цікавіцца ўсялякай старасветчынай.

— Ну вядома, жаночая справа — займацца кухняй. А мужчыны тым часам будуць гаварыць свае разумныя размовы пра высокія матэрыі, — Алена ўсур'ёз укрыўдавала.

* * *

Бібліятэка Скарыны сапраўды ўражвала. Вітушынскаму падалося, што ён трапіў у пячору Алі-Бабы. Толькі заміж перлінаў, золата, срэбра, смарагдаў і дыяментаў тут былі кнігі. Томікі, тамы, тамішчы... Здавалася, тут ёсць кнігі з усіх галінаў веды: фізіка, хімія, астраномія, гісторыя, багаслоўе, філасофія, біялогія, геаграфія. Найбольш выданняў, вядома, было па медыцыне. Некалькі паліцаў займалі мастацкія творы. Цёмныя карэньчыкі, пацёртыя вокладкі, месцамі бліскае нявыцвілае золата літараў... Асобная шафа адводзілася пад інкунабулы і старадрукі — захоўваліся ў Скарыны і такія цікавосткі.

Доктар пакінуў Вітушынскага сам-насам з кнігамі, спаслаўшыся на тое, што яму неабходна дапамагчы сястры. Антон з гэтай нагоды не перайма́ўся: яму было дастаткова бібліятэкі. Спярша ён абышоў пакоі ўздоўж сценак, проста аглядаючы палічкі. Кнігі былі расстаўленыя па тэматыцы: геаграфія не блыталася з гісторыяй, філасофія — з хіміяй, медыцына — з фізікай. Суседзілі тут выданні расійскія з нямецкімі, ангельскія — з французскімі, лацінскія — з грэцкімі, польскія — з іспанскімі. У невялікай колькасці траплялiся кнігі беларускія ды літоўскія. Запомніўшы прыблізны парадак размяшчэння кніг, Вітушынскі падышоў да шафы з старадрукамі. Узяў адну наўгад, раскрыў — рукапісная. Старадаўні аўтар ці перапісчык старанна выводзіў літаркі ў кожным слове. Чытаць, аднак, усё ж было цяжкавата: шматлікія скарачэнні ды састарэлыя словы перашкаджалі лёгка ўспрымаць напісаны тэкст. Божае імя, як вялося ў такіх рукапісах, пісалася скарочана, пад значком-цітлам, аднак паўсюдна пазначалася чырвонай фарбай. На глосах там-сям сустракаліся тлумачэнні замежных словаў. А вось малюнкі адсутнічалі зусім.

*«Заклінаем ця, стварэнне солі, у імя Айца Уседзяржыцеля, дабраславеннем Госпада нашага Ісуса Хрыста і сілаю святога Духа. Заклінаю ця Богам жывым, іжэ ця дзеля патрэбы чалавечае сатварыў ёсць: будзь усім верным, хто спажывае ця, на здароўе душы і цела, і хай пазбегне і адыдзе ад цябе*

*ўсялякае зло і ліслівасць д’ябальская і ўсялякая шкодная ўлада, на цябе ад паслугачоў шатанскіх наведзеная. Дзеля таго молімся: Госпадзе, Божа наш, хай тое стварэнне солі ў імя Святое Тройцы сатворыцца выратавання душы тайна. Ты, Госпадзе, свенцячы — пасвенці, бласлаўляючы — блаславі, усім, хто прымае яе, спраўнае лекаванне ва ўтробе іхнай хай будзе. У імя Госпада нашага Ісуса Хрыста, іжэ прыйдзе судзіці жывых, і мёртвых, і свет агнём. Амэн».*

Ясна, тут замовы на ўсялякія выпадкі жыцця. Будзем лічыць гэты рукапіс умоўна «медычным».

Вітушынскі зірнуў на гадзіннік. Божачкі, ён тут ужо ладныя паўгадзіны гуляе вакол кніжных паліц, а там, мабыць, яго чакаюць на абед. Паспее яшчэ вярнуцца да кніг: доктар жа абяцаў яму колькі дзён гасцявання. Ён выйшаў з бібліятэкі, пайшоў у бок веранды, дзе абяцалі накрыць абедзенны стол.

Там было яшчэ пуста. Толькі доктар Скарына сядзеў каля акна ў крэсле-качалцы з газетай у руках.

— Ранавата вы вярнуліся, Антон Валер’евіч. Ах, не хацелі прымушаць, каб вас чакалі... Што ж, тады пачакаць давядзецца вам. Вось-вось павінен падысці яшчэ адзін наш кампаньён — мой асістэнт, Шумскі Уладзімір Уладзіміравіч. А я пакуль вось чытаю свежую газету. Нашу павятовую — «Камуністычны шлях». Пішуць, што неўзабаве нас чакае навіна: плануюць каля горада пабудаваць ільнозавод. Хоць будзе які занятак сённяшнім беспрацоўным.

У гэты момант на веранду ўвайшла Алена Скарына разам з маладым чалавекам. Валасы на яго галаве адсутнічалі: чэрап быў акуратна паголены, нібы маладзён усё яшчэ жыў у мінулай вайне з яе невыводнымі вошамі, тыфусам і іспанкай.

Доктар задаволена прагаварыў:

— А вось і наш Уладзімір Уладзіміравіч. Знаёмцеся, гэта мой персанальны госць Антон Валер’евіч Вітушынскі. Ён нейкі час будзе жыць у нас. Сядайце за стол, нешта мы і так прыпазніліся сёння.

— Ну што ты зноў мяне ганяеш? Нібыта я вінаватая ва ўсім... — Алена цяжка ўздыхнула і з немай мальбой паглядзе-

ла на Антона. Яму падалося, што ў дзявочых вачах бліснулі слёзы незаслужанай крыўды.

Тым часам Вітушынскі з Шумскім пацiснулі адзін аднаму рукі і прадставіліся. Антон звярнуў увагу на дзіўнаваты акцэнт у гаворцы новапрыбылага: ён гаварыў, заўважна расцягваючы свісцячыя. З-з-з, с-с-с, ц-с-с — загулі ў паветры пагрозлівыя авадні.

— Паслухайце, тут такі артыкул ёсць. Магчыма, Аленачка, гэта якраз пра твайго падазронага бадзягу: «*Учора каля рынку затрымалі падазронага чалавека. Пры спробе затрымання ён пачаў страляць. Паказаўшы ўзор мужнасці, супрацоўнікі Аршанскага акруговага аддзелу міліцыі В. і М. затрымалі злачынцу. Ім выявіўся вядомы палітычны бандыт Гозіюш, вядомы таксама як атаман Вецер. Апошнія месяцы менавіта яго банда ўчыніла дзёрзкі напад на валаснае праўленне ў Пугляях, дзе скрала валасную касу. Мяркуецца, што Гозіюша бліжэйшым часам адправяць у Менск, дзе расследаваннем поўнага спісу яго чорных злачынстваў зоймуцца жалезныя рыцары АДПУ*». Бачыш, Леначка, можаш цяпер не баяцца нічога. Будзем абедаць?

— Ой, не кажы! Жахі якія! — Алена зазірнула брату праз плячо. — А вось тут бачыш, што пішуць: «*У вёсцы Браздзечына невядомыя бандыты напалі на мясцовага селькора і актывіста Паўла Верасніцына. Яго моцна збілі на вачах сям'і, прыгаворваючы, што цяпер селькор павінен пісаць пра Саветы без камуністаў. Верасніцын патрапіў у бальніцу. Супрацоўнікі акруговай міліцыі падазраюць, што на яго напала банда Моніча*». А ты кажаш — не баяцца...

На абед падалі мяса па-французску, гарнірам да яго была фасоля, перамяшаная з смажанай цыбуляй ды маслам. Размова, аднак, не клеілася. Шумскі сказаў, што з самага ранку нядобра пачуваецца і зусім не мае апетыту. Ад прапанаванай Скарынам чаркі аперытыву для апетыту адмовіўся.

Неўпрыкмет за сталом размова пайшла пра старажытнасці. Завёў гаворку Скарына, спытаўшыся ў Вітушынскага, ці знайшоў той што-небудзь цікавае ў бібліятэцы.

— Вельмі багатая і разнастайная калекцыя кніг, — зазначыў Антон. — У мяне склалася ўражанне, што іх падбіралі не адно пакаленне. Верагодна, нават не два і не тры.

— Так, у нас у сям'і даўняя любоў да кнігі. Як юдэі называюць сябе народам Кнігі, так мы можам назваць сябе родам Кнігі.

Скарына крывавата пасміхнуўся. Вочы ягоныя, аднак, заставаліся сур'ёзнымі і засяроджанымі. Пацягнуўшы з сподка карнішон, ён казаў далей:

— Зрэшты, калі працягваць нашую ранішнюю гаворку, то варта зазначыць, што без Еўропы, без немцаў не было б не толькі нашага роду Кнігі. Не было б значна большага — славянскага кнігадруку.

— Гэта вы пра Гутэнбергава вынаходства? — да гаворкі з відочнай неахвотай і скепсісам далучыўся Шумскі.

— Не толькі. Можаце згадаць сюды ж, да кучы, яшчэ першага друкара, які пачаў выдаваць свае кнігі кірыліцай, — немца Швайпольта Фіёля. Калі не памыляюся, выходзілі тыя выданні ў Кракаве, недалёка ад нас. Адсюль і ўзнікае пытанне наконт вашае зацікаўленасці беларускім: ці магчыма вывучаць беларускую культуру (падкрэсліваю: усялякую культуру — хоць духоўную, хоць матэрыяльную) у адрыве ад Заходняй Еўропы? Нават кнігадрук — гэта найперш тэхналогія, а не духоўны прарыў. А тэхналогіі да нас спрадвеку прыходзілі з Захаду. Нездарма ў нашай бібліятэцы, як вы маглі заўважыць, так мірна суседзяць распоўзлы, круглы славянскі алфавіт з рэзкай, спічастай гатычнай лацінкай.

— Але ж нават з-пад напластавання заходніх цывілізацыйных набыткаў можна паспрабаваць вылучыць уласна беларускія карані, — паспрабаваў запярэчыць Вітушынскі.

— Ды кінце вы дурное! — Скарына адмахнуўся, нібы ад надакучлівай мухі. — Гэта ўсё казачкі для прафанаў. Вось Ластоўскі, які сядзіць у Коўне, у сваім часопісе «Крывіч» таксама ўсё прапануе такія тэорыі — пра беларусаў як самую чыстую славянскую нацыю, якая не зазнала моцнага чужынскага ўплыву.

— Дык а хіба ён не мае рацыі? — Шумскага зачапіў безапеляцыйны тон Скарыны. Колішняй абыякавасці ў паглядзе ўжо не адчувалася.

— Гледзячы ў чым. Калі даследаваць чысціню крыві, то для гэтага пакуль мала звестак. Магчыма, што тут ён і не памыляецца: беларусы — самая чыстая з славянскіх нацыяў. Магчыма... Але што тычыцца культуры і цывілізацыі, дык тут я толькі паўтаруся: кім бы мы былі без уплываў як з Захаду, так і з Усходу? Вы згадайце хіба толькі тое, што грамату для славянаў прыдумалі грэкі — Кірыла і Мяфод. Нашыя продкі, можа, на той час і не былі абсалютнымі дзікунамі, але ўсё ж мала ад іх адрозніваліся.

Для Вітушынскага ягоныя словы гучалі калі не абсалютнай ерассю, то прынамсі досыць дзіўным цверджаннем. Але пакуль што ён не мог знайсці ў вычварнай логіцы Скарыны слабога месца. А так хацелася знайсці — і ўдарыць. З усяе моцы. Самымі забойчымі аргументамі.

— Ну вось, пра жанчыну ніхто і не думае: завялі сваю катрынку пра навуку ды вынаходствы, — Алена спрабавала ўвязацца ў размову. — Ясна, што ў нас шмат чужога, прывезенага. Нават мяса, і тое гатуецца па-французску!

Тым часам Скарына, не зважаючы на сестрыны словы, працягваў:

— Вось і атрымліваецца, што без замежных уплываў мы самі па сабе нічога не можам паказаць. Няма ў нас нічога свайго.

Вітушынскі, які спярша хацеў падтрымаць Алену якім-небудзь жартам, ад доктаравых словаў завёўся і адказваў ужо яму, абмінаючы ўвагай дзявочую рэпліку:

— Але ў такім разе мала хто можа паказаць нешта сваё: французы пазычалі ідэі ў італьянцаў, немцы — у ангельцаў. Чаго варты быў бы французскі Рэнесанс без італьянскага? Ці быў бы магчымы нямецкі пратэстантызм без таго выпадку, калі брытанскі кароль абвясціў сябе кіраўніком англіканскай царквы?

— Дык і я ж пра тое вяду гаворку, — Скарыну відавочна забаўляла тэма. — Мы не можам разглядаць нашую гісторыю ў адрыве ад еўрапейскай — ад яе ўплываў, ад яе падзеяў.

Антон набычыўся і прывёў аргумент, які падаваўся яму важкім і неаспрэчным:

— Аднак жа не варта механічна пераносіць на нас іх падзеі. Напрыклад, рэлігійныя войны, якія скаланалі Еўропу, нас не закранулі. Не было ж у нас такой Баўтрамеевай начы, падчас якой у Парыжы кроў залівала вуліцы!

— Ці дакладна вы гэта ведаеце? А калі я дакажу вам іншае? — з твару доктара не сыходзіла скептычная самаўпэўненая ўсмешка. — Гісторыю пра Язафата Кунцэвіча ведаеце? Яго ж проста не пускалі ў гарады: у Магілёве і Воршы з гарматаў стралялі, каб не заехаў уніяцкі казаннік у горад. І што гэта, на вашу думку, калі не рэлігійная вайна? А такіх прыкладаў безліч. Кунцэвіч — хіба што самы вядомы і самы вымоўны. Былі ж яшчэ і выгнанні з цэркваў, смяротныя бойкі паміж уніятамі й праваслаўнымі. Вы мне скажаце пра дыспуты. Канечне, было і такое. Але хіба не тое ж самае — з дыспутамі і адначаснымі крывавымі закалотамі — дзеялася ва ўсёй Еўропе? Магу вам нагадаць толькі, што забойства Кунцэвіча — гэта гадоў праз сорак пасля Баўтрамеевай начы і гадоў за дваццаць да аблогі Ля-Рашэлі. Немцы гэтым часам рэжуць адзін аднаго ў Трыццацігадовай вайне, у ангельцаў выспявае антыманархічная рэвалюцыя...

Задаволены сваімі аргументамі, Скарына адкінуўся на спінку крэсла.

— Але цяпер жа ў нас не так, як у Еўропе, — Вітушынскаму ўсё ж карцела настаяць на сваім.

— Чаму вы так упэўнены ў гэтым? — Скарыну, здаецца, нават здзівіў факт, што нехта імкнецца аспрэчыць ягоныя тэзісы. Ён выцер насоўкай лоб і працягваў: — Мы цяпер жывём паводле дактрыны Карла Маркса, народжанай у Нямеччыне. Канцэпцыі, на якіх спрабуюць збудаваць сваю дзяржаву тыя ж чэхі, палякі ці балгары, — таксама карэняцца ў Заходняй Еўропе: ідэя нацыянальнай дзяржавы прыйшла да нас адтуль, і досыць нядаўна. Зрэшты, і ў саміх францу-

заў альбо ангельцаў яна выкрышталізавалася параўнальна не так даўно — гадоў трыццаць-сорак. Час пакажа, наколькі гэта жыццяздольная ідэя.

— Думаю, вельмі разумная, прадуктыўная і жыццяздольная. Гэта прызнала нават новая ўлада: нездарма ж яна правяла ўзбуйненне Беларусі! — выдыхнуў Шумскі з відавочным раздражненнем. Вітушынскаму зноў драпнула слых вымаўленне Шумскага.

Алена яўна ўстурбавалася тым, які кірунак атрымала гутарка. Было відаць, што яна сумнявалася, ці варта дазваляць мужчынам спрачацца далей. Спрабуючы перавесці размову на іншае, яна ціха заўважыла брату, што, магчыма, злоўлены бандыт усё ж не той бадзяга, пра якога распавядала суседка:

— Але я пабойваюся. Раптам ён не адзін такі тут хадзіў? Лепш за ўсё, відаць, будзе пільнавацца ўсякіх чужых...

Вітушынскі адчуваў сябе госцем, таму прыціх, як мыш пад венікам, і з падрабязнымі роспытамі наконт бібліятэкі не лез. Але ж карцела! Так карцела, што аж язык свярбеў. Толькі пры канцы абеду, калі перайшлі да кавы (сапраўднай!), ён запытаўся, адкуль у доктара такі скарб у бібліятэцы.

— Доўгая гісторыя. У нашай сям'і здавён кнігі збіраюць і перадаюць у спадчыну. Хадземце ў бібліятэку, я вам раскажу адну гісторыю.

Калі яны выходзілі, Антон краёчкам вока пабачыў: Алена задуменна глядзіць ім услед, злёгку пакусваючы вусны.

* * *

Ведаеце, маім далёкім продкам быў Францішак Скарына. Так-так, той самы Скарына, першадрукар. Як бачыце, род мой спрадвеку жыве ў гэтых краях. Хоць і вандруе пакрысе, але прынамсі, застаецца ў адной мясцовасці, не пакідае яе.

І нават можна сказаць, што ў нас склалася своеасаблівая сямейная традыцыя — быць дактарамі. Толькі продак мой спецыялізаваўся больш у сваіх сямі вольных навуках, а я... Наша эпоха патрабуе больш вузкай спецыялізацыі. Але я, зрэшты, не пра тое збіраўся расказваць...

Праправрадзед мой, як ведаеце, кнігі свае пачаў друкаваць у Празе. У нас, у Вільні, ён выдрукаваў толькі «Малую падарожную кніжку» — у гонар гэтага акурат пару гадоў таму адзначалі 400-годдзе беларускага друку. Мяне нікуды на святкаванні не запрашалі, але я не крыўдую. Напэўна, я б сам адмовіўся, нават калі б і запрасілі: не хачу быць недзе ў ролі вясельнага генерала. Маёй жа заслугі ў тым, што маю славутага продка, ніякай няма.

Як кажуць нашыя сямейныя паданні, доктар Скарына быў чалавекам шырокіх поглядаў. Папаездзіўшы па розных краях, убачыў ён безліч самых розных людзей. Проста здурэць можна, калі падумаеш, з якімі прайдзісветамі і мудрацамі ён сустракаўся. У Празе ён звёў знаёмства з тамтэйшым кабалістам рэбэ Аронам. Не прыкладу галавы, як яму ўдалося паразумецца з тым рабінам: габрэі тады жылі даволі адасоблена, самі па сабе, сваім кагалам — што ў нас, што там. Думаю, тут уся штука была якраз у перакладзе Бібліі на старабеларускую, які рабіў прашчур Францішак. Рабін Арон блізка сышоўся з ім. Яны сталі такімі сябрамі, што стары пражскі кабаліст дапамог полацкаму доктару пачаць сваю справу. Думаю, вялося тут не толькі пра грашовыя гешэфты, хаця, відаць, і без іх абысціся ніяк не магло: Францішак, хоць і меў бацьку-купца, наўрад ці здолеў бы пачаць друкарскую справу на чужыне з нуля. Як кажа легенда, рэбэ Арон дапамог нашаму продку больш істотна: ён зрабіў для яго голема.

Вы чулі гэтую старую пражскую легенду пра чалавекападобную істоту, злепленую з гліны на ўзор таго, як Госпад Бог зляпіў першага чалавека? Ніколі? Вы ж адукаваны чалавек! Хаця ў наш час у такія легенды ніхто не верыць, але вы ж, я бачыў, цікавіцеся старасветчынай... Ах, значыць, толькі сваім, беларускім... Ну нічога, гэта ў вас хутка праміне! Як толькі пачняце ўнурацца ў тэму, дык убачыце, што без шырокага агляду ўсё адно нічога вартага ў вас не атрымаецца. Давядзецца знаёміцца — ну хаця б павярхоўна! — з іншымі культурамі, з суседнімі народамі. Вы пабачыце, як багата ў нас падобнага, ды што там — аднолькавага, супольнага!

Але я зноў не пра тое... Рэбэ Арон зрабіў таго пражскага голема для майго продка. Вонкава гэтая істота, вылепленая з белай гліны, была — ну, зусім чалавек. Дзіўнага ў тым нічога няма: не так складана знайсці ў Празе скульптара. Думаю, не цяжэй, прынамсі, чым у сённяшняй Воршы — рамізніка. Каб вонкава той голем не дужа адрозніваўся колерам ад скуры чалавека, ён быў увесь злеплены з белае гліны, адмыслова прывезенай з ваколіцаў самога Іерусаліма, з дна Мёртвага мора — па меншай меры, менавіта так сказаў пражскі рабін свайму полацкаму хаўрусніку. Ляпілі яго Францішак і Арон удваіх — кожны сваю частку. Аднаму на долю дасталася галава і тулава, другому — уся частка ад пояса. Падрыхтаванай гліны, аднак, не хапіла на ўсю фігуру: змацаванне паміж абедзвюма часткамі давялося рабіць з гліны іншага колеру — чырвонага. Для таго каб голем ажыў, рэбэ Арон уклаў яму ў рот паперку з напісаным на старагабрэйскай мове заклёнам. Стары кабаліст вывеў на паперцы літары «нун», «гімэль», «гэй», «пэй». З іх пачынаюцца словы фразы «нэс гадоль гая по» — «цуд вялікі быў тут». Заклён той рабіў цуд: голем ажываў і выконваў работу, што яму задавалі. Каб знерухоміць істоту, трэ' было толькі дастаць у яго з рота паперку. Механізм нескладаны — значна прасцейшы, чым цяперашнія аўтамабілі.

Доктар Скарына скарыстаў зробленую істоту для цяжкой дапаможнай працы пры друкаванні кніг. Стаяць цэлы дзень за варштатам — занятак не з самых лёгкіх. Тут і прыдаўся гліняны голем: стомы ён не адчуваў, бо не быў, як ні кажы, жывой істотай. Карміць-паіць яго — таксама без патрэбы. Словам, ідэальны работнік. Такога немагчыма знайсці ні на брукаваных вуліцах старога горада, ні пад мяшчанскімі стрэхамі, крытымі чырвонай дахоўкай, ні нават у магнацкіх палацах, крытых золатам.

Кампаньёны спадзяваліся на ўдалы гешэфт і вялікія барышы. І нездарма: друк Бібліі (а выдаваць пачалі менавіта яе) — занятак ці не самы прыбытковы. Справы і праўда пайшлі вой як добра! Неўзабаве мой прадзед цалкам разлічыўся з рэбэ Аронам і стаў паўнапраўным саўладальнікам друкарні — нездарма ж ён вырас не абы-дзе, а ў купецкай сям'і.

Вы глядзелі гэтую нядаўнюю фільму, прывезеную ў наш горад, — «Ночы Кабірыі»? Не глядзелі? Ну што ж вы так! Вельмі рэкамендую, вельмі. Схадзіце абавязкова — не пашкадуеце. Шыкоўная фільма, цудоўныя акцёры, усё так прыгожа, такая драма... Напэўна, будучыня ўжо мроілася кампаньёнам у такіх самых маляўнічых дэкарацыях, як у гэтай фільме, — прыгожая, поўная незямное асалоды, з гурыямі з блізкай Асманскай імперыі. Хто б мог падумаць, што такі бліскучы ўзлёт будзе перарваны такім гучным крахам? У далёкіх краях мой прашчур набыў не толькі вялікія веды, але і схільнасць да авантураў. Вы кажаце, што такая схільнасць магла ў яго быць і раней — а то б ён не пусціўся ў далёкія краі па веды, а спакойна жыў бы ў Полацку, пераняўшы бацькаву справу? Можа, і так. Цяжка з сённяшняй званіцы ўгледзець, як там было насамрэч.

Авантурызм і падвёў доктара Францішка. Мой продак, як выявілася, не марнаваў час, паліруючы азадкам лавы ў Кракаўскім ды Падуанскім універсітэтах. Ён творча скарыстаўся з словаў, сказаных Ісусам: «Не чалавек для суботы, а субота для чалавека». Па суботах, калі рэбэ Арон не працаваў, доктар Скарына прыходзіў у друкарню і даваў голему сваю працу. Друкаваць цэлую кнігу за дзень не выпадала, таму вынаходлівы палачанін даваў голему ў працу асобныя аркушы. На іх была... як бы гэта больш тактоўна абазначыць... аголеная натура. Не-не, ніякай непрыстойнасці, усё было досыць цнатліва. На наш, сучасны погляд адукаваных культурных людзей.

Аднак жа не ўсе ў той час падзялялі такія погляды. Што і казаць, у Празе пачатку шаснаццатага стагоддзя малавата было культурных людзей у сучасным разуменні гэтага слова. Магчыма, іх і зусім не было — калі не лічыць, вядома, майго продка. А на што можа разлічваць чалавек, які апярэдзіў свой час? Хіба яму выпадае прызнанне сучаснікаў? Не, не і яшчэ раз — не! Яму дастаецца хіба што слава сярод нашчадкаў.

Карацей, мой продак быў вымушаны ўцякаць. Традыцыйная гісторыя для генія: яго звінавацілі ў злачынстве. Што праўда, уцякаць яму было не ўпершыню, у гэтым ён быў

спрактыкаваны. Каралявецкаму герцагу прымроіцца, што доктар яго не тым лечыць і круціць шашні з фройлінамі, — уцякай! Лютару падасца, што заезнага грамацея падаслалі езуіты, каб атруціць надзею ўсёй Рэфармацыі, — зноў уцякай!

Гэтым жа разам усё выглядала больш пагрозліва. Некаму падалося, што Скарына разбэшчвае моладзь гэтымі сваімі карцінкамі. Хтосьці нават засумняваўся, ці можна карыстацца Бібліяй, выдрукаванай на тым самым варштаце, з якога сышлі такія непрыстойнасці. Маўляў, яна страціць частку сваёй святасці. Дзікуны!

Крывыя брукаваныя вулкі Прагі яшчэ вельмі добра памяталі эпоху гусіцкіх войнаў. І такія падазранні папахвалі не дужа гасцінным дымком вогнішча. Яны даліся б у знакі нават карэннаму пражаніну, не тое што прыезнаму госцю.

Доктар Скарына ўцёк з Прагі, прыхапіўшы з сабой голема. Кампаньёна свайго ён папярэджваць не стаў. Не захацеў ці не паспеў — невядома. Мабыць, сам ён сказаў бы, што не паспеў. Рэбэ Арон, відаць, думаў іначай. Калі яго тапілі — як чараўніка, супроць якога ёсць засведчаныя ўлікі, — ён пракляў палачаніна. «Каб ні табе, ні тваім нашчадкам не было спакою ад голема!» — так занатаваў яго апошнія словы пісец у кнізе пражскага магістрата.

Тым часам доктар Скарына вярнуўся на радзіму, атайбаваўся ў Вільні. Там ён заняўся той справай, у якой так напрактыкаваўся за мяжой, — заснаваў друкарню. Для рынку ў яго было велічэзнае поле дзейнасці: канкурэнтаў няма, ніводнай іншай друкарні на ўсё Вялікае Княства!

Але справа пайшла не надта добра. Прычынай зноў стала людская цемната: неахвотна куплялі кнігі, што з'явіліся дзякуючы супрацы з нячыстай сілай. Ну, не станеш жа тлумачыць кожнаму неадукаванаму таўстамясаму бюргеру, што голем — гэта не пякельнае спараджэнне, а вынаходства перадавой навукі.

Словам, прашчур мой вырашыў пашукаць, як цяпер кажуць, рынак збыту за ўсходняй мяжой — у Маскоўскім Княстве. Аднак, паехаўшы туды, ён зрабіў вялікую памылку:

прыхапіў з сабой голема. Тое, на што паблажліва глядзелі ў Літоўскім Княстве (тут і не такія дзівакі сустракаліся), не магло не выклікаць нараканняў у суседняй дзяржаве. Пражская гісторыя паўтарылася: доктара звінавацілі ў чарнакніжніцтве. Прысудзілі да спалення ўсе яго кнігі, а таксама яго самога ды ягонага «пякельнага памочніка». Палачанін уцякаў у вялікім спеху, кінуўшы ўвесь свой набытак, прывезеныя ў Маскву кнігі, а разам з імі — і голема.

Ёсць, праўда, нейкія цьмяныя згадкі, што ў гісторыю магла замяшацца вялікая маскоўская княгіня, маці будучага Івана Жахлівага, які нарадзіўся акурат праз дзевяць месяцаў пасля Скарынавага ад’езду з Масквы. Але гэткая версія выглядае так фантастычна, што я б не стаў асабліва давяраць тагачасным плеткарам... Усё гэта толькі намёкі ды чуткі.

А вось нашая сямейная легенда кажа, што акурат у Маскве продка нагнаў праклён пражскага рабіна. Таму і голем згубіўся. Дакладней, не згубіўся, а ўцёк у мітусні пры паспешлівым доктаравым ад’ездзе з Масквы.

Ён доўга хаваўся, ішоў па слядах палачаніна. Урэшце высачыў. Было гэта ўжо праз шмат-шмат гадоў, у Празе, дзе мой прашчур апекаваўся каралеўскім садам на Градчанах. Голем, як я ўжо казаў, не ведаў стомы, не адчуваў часу. Можа быць, ён знарок хаваўся тыя гады — чакаў, пакуль у доктара з’явяцца дзеці... Я часам думаю, што праклён быў не ў тым, каб вынішчыць наш род, а ў тым, каб над намі, Скарынавымі нашчадкамі, вечна вісеў страх. Боязь, што кожны дзень можа стаць апошнім. Боязь, што за табой вечна цікуе неўміручая істота, якая не ведае ніякіх эмоцыяў, не адчувае ніякай стомы. Палахлівасць — нашае наканаванне. Мы не можам разлічваць на заўтра, бо жывём без надзеі на яго.

У Францішкавым пакоі, дзе знайшлі мёртвае цела, усё выглядала натуральна. Адно толькі здзівіла прыдворнага пражскага летапісца, які занатаваў згадку пра ягоную смерць: след белай гліны на падлозе. Гліны, падобнай да якой не было зусім ані на Градчанах, ані ва ўсёй Празе, ані ў яе ваколіцах...

* * *

Спаць Вітушынскі пайшоў не ў самым лепшым гуморы. Гісторыя, расказаная доктарам Скарынам, бянтэжыла, вярэдзіла думкі. Нешта ў ёй падалося Антону дзіўным. Аднак ён ніяк не мог вырашыць, што менавіта перашкаджала паставіцца да яе абыякава. Хіба тое, што доктар, які дагэтуль выяўляў сябе такім прыхільнікам навукі і прагрэсу, раптам расказаў настолькі містычны, поўны загадак аповед? Відаць, так: не стасавалася гэтая гісторыя з тым уяўленнем, якое склалася ў Антона пра доктара Скарыну.

З гэтай думкай ён і заснуў.

Ён сніў першадрукара Скарыну, які некуды ляцеў на самалёце з чужой жонкай; коней, што блукалі ў цвілых калідорах нейкага замка; іхныя крокі рэхам адбіваліся ад высокай столі, якая гублялася недзе ў цемры. Следам за коньмі па тым самым калідоры, асветленым дрогкім святлом паходняў, ехала аўто, дзе ролю шафёра выконваў дзіўны чалавек у белай маскараднай масцы. Маска прыкрывала толькі верхнюю частку твару, на ніжняй, бліскаючы залатой фіксай, расплывалася здзеклівая ўсмешка. Кіроўца аўтамабіля зняў маску: пад ёй паказалася нечалавечае страхотнае аблічча ненатуральна белага колеру.

Вітушынскі адкрыў вочы, сэрца ненармальна хутка стукалася ў рэбры. Згадаўшы даўні забабон, чуты ў дзяцінстве, ён перавярнуў падушку на другі бок. Як ні дзіўна, гэты сродак барацьбы супраць кашмару дапамог: Антон праваліўся нарэшце ў сон.

*І не чуў крокаў забойцы на калідоры. Бо забойца ішоў ціха. Ён вывучыў дом як свае пяць пальцаў. Дзякаваць богу, часу на гэта было дастаткова. Вось тут трэба ступаць асцярожна: гэтая масніцына рыпіць. Пераступіў. Ён, вядома, зможа патлумачыць, чаму ходзіць тут у такі позні час. Але ўсё ж лепей не рызыкаваць. Іначай давядзецца адкладаць справу ды вынаходзіць новы спосаб: другі раз так ісці ўжо не варта.*

*На вуліцы цяпер светла, амаль як удзень. Аднак зачыненыя аканіцы не дадуць прабіцца ў пакой нават месяцоваму*

*святлу. Толькі вузенькі прамень пралез у шчыліну. Халодны спакойны прамень, што супакойваў думкі.*

*Ён лёгенька пастукаў пазногцем у дзверы. Яна адчыніла амаль адразу. Тузануў за сабой дзверы: яны нягучна стукнулі аб вушак. Клямка шчыльна і надзейна прычыніла дзверы. І гэтак жа хутка, шчыльна і надзейна сышліся рукі на дзявочым горле.*

*Яна не паспела закрычаць. Сіпела, спрабавала расціснуць мёртвае кола, што ўсё мацней сціскалася, не давала ёй дыхнуць.*

*Забойца апусціў мёртвае цела на падлогу. Падышоў да акна, расчыніў. Халоднае свежае паветра рванулася ў пакой, нервова здрыгануліся фіялетавыя фіранкі. Яны кінуліся ў твар забойцу, ён прытрымаў іх.*

*Ціхенька закрываючы за сабой дзверы, ён выйшаў з пакоя.*

* * *

Ранак быў імжыстым і шэрым. Такімі безнадзейнымі мусілі б быць ранкі не ў першай у свеце краіне, якая будуе светлую будучыню ўсяго чалавецтва, а дзе-небудзь у капіталістычнай Брытаніі, дзе пануе прымус чалавека над чалавекам. Але чалавек пакуль яшчэ не знайшоў улады над капрызамі надвор'я, і таму даводзіцца трываць і такія непрыемныя дні. Калі-небудзь, так, калі-небудзь вызваленае чалавецтва возьме ў свае рукі лейцы нябеснага кіравання. Тады ўжо людзі не стануць чакаць падачак ад прыроды, а забяруць у яе сілай усё, што самі захочуць. Вось яно, будучае валадарства чалавечае!

Відаць, у такіх фарбах апісала б гэтую раніцу на сваіх шэрхлых старонках перадавіца газеты «Набат», калі б была ў тым патрэба. Аднак патрэбы такой не было: для перадавіцы ў акруговай газеце тэмаў не бракавала і без апісання надвор'я. Надыход светлай будучыні быў падзеяй настолькі зразумелай і вырашанай, што марнаваць каштоўны час на апісанне ніцых вольхаў — вартаўнікоў пустых вуліцаў, воглых тумаnoў, што спрабавалі зачапіцца за страху сінагогі, і

ўсялякай іншай такой драбязы ніводзін нармальны будаўнік камунізму не стаў бы.

Аднак Вітушынскі не лічыў сябе будаўніком камунізму. Яму бліжэй была пазіцыя абываталя, удзячнага кожнаму дню. І таму кожны дзень ён (з пэўнага часу) сустракаў з удзячнасцю і праводзіў без асаблівага шкадавання. Не было па чым шкадаваць. І па кім — таксама.

Выбраўшыся на веранду, дзе ўсе насельнікі дома зноў мусілі сабрацца разам на сняданак, Вітушынскі заспеў нейкае ўзрушэнне. Доктар Скарына стаяў каля акна, нервова пастукваючы пальцамі левай рукі па шыбе. Мяркуючы па рытме, гаспадар дома мусіў найграваць марш.

Шумскі сядзеў, абыякава ўтаропіўшыся ў нейкую кропку на сцяне. Раз-пораз ён кідаў нецярплівыя позіркі на ўваходныя дзверы.

Прыход Вітушынскага вывеў іх са стану чакання. І расчараваў:

— А-а-а, гэта вы... А ці не бачылі там Алену? Нешта яна сёння кардынальна запазняецца.

Вітушынскі адказаў, што не бачыў. Рэзка крутнуўшыся на абцасах, Скарына рушыў у дзверы, каб прыспешыць сястру.

— Як спалі на новым месцы? Кажуць, у такіх выпадках чалавек бачыць прарочыя сны. Што снілі вы? — Шумскі быў сама далікатнасць. Нават відавочна думаючы пра нешта сваё, патаемнае, ён усё ж спрабаваў заняць госця свецкай размовай.

Антон збіраўся адказаць, аднак не паспеў: па барабанных перапонках ударыў дзікі мужчынскі крык з глыбіні дома.

Нібы толькі і чакаўшы гэтага сігналу, яны з Шумскім сарваліся з месца. Да пакоя, з якога даносіўся крык, асістэнт дабег першым. Вітушынскі са сваёй хворай нагой тут яму не мог стаць сапернікам. Шумскі зазірнуў — і вокамгненна адхіснуўся, не стрымаўшы ўскрыку. Антон глянуў па-над ягоным плячом: гэта быў жаночы пакой, калі меркаваць па шматлікіх невялічкіх падушачках, пакінутых там і сям, карункавых фіранках, процьме вязаных упрыгожанняў. Каля ложка стаяў Скарына, трымаючы на руках цела сястры.

— Выклікайце міліцыю, — скамандаваў цераз плячо Шумскі. — Я пабуду тут з ім.

Вітушынскі няўклюдна павярнуўся і, прыкульгваючы на правую нагу, пайшоў на выхад.

Міліцыянты прыбылі хутка: прыехалі на адным з пяці аўтамабіляў, якімі магла пахваліцца акруговая Ворша. Чорны студэбекер з лакавымі бакамі надаваў прыезду міліцыянтаў урачыстасць. Большай помпы іхнаму прыбыццю надаў бы хіба што духавы аркестр, які па нядзелях граў у гарадскім парку.

Невысокі кірпаты міліцыянт, галоўны ў групе, распараджаўся рашуча, без ценю сумневу ва ўласнай слушнасці. Ён уважліва агледзеў пакой, дзе адбылася смерць, падышоў да бюро, што стаяла ў куце, і пачаў перабіраць змесціва ўсіх шуфлядаў: лісты, нейкія цэтлікі, паперкі з запісамі для памяці, пару нататнікаў, тоўсты сшытак, пудраніцу, маленькія керамічныя фігуркі жывёлаў, яшчэ нейкую жаночую драбязу. Пад паперамі адной з шуфлядаў апынуўся альбом з эцюдамі пейзажаў, зробленымі алоўкам.

— Божа мой, — вохнуў Скарына, — я думаў, яна ўжо даўно выкінула гэты альбом.

Міліцыянт уважліва паглядзеў на яго:

— Чаму вы так думалі?

— Ну, бо яна шмат часу не малявала. Перастала пасля таго, як прысніла нейкі страшны сон, звязаны з маляваннем.

Міліцыянт пахітаў галавой і зноў вярнуўся да прагляду шуфлядаў. Ён вывучаў іх так, нібы спадзяваўся менавіта ў шуфлядзе знайсці невядомага злачынцу, які пазбавіў жыцця маладую жанчыну.

Ён ужо амаль закончыў праглядаць бюро, калі да яго падышоў адзін з падначаленых і ціхенька нешта сказаў. Кірпаты адразу адсунуў ад сябе недагледжаную шуфляду і пайшоў следам за падначаленым. Разам яны наблізіліся да акна і сталі нешта вывучаць на прываконні. Нарэшце адарваліся ад свайго захапляльнага занятку і павярнуліся да астатніх прысутных. Твар кірпатага праменіўся шчасцем, нібы ён толькі што атрымаў ордэн.

— Па-апрашу ўсіх прад'явіць падэшвы абутку!

Агляд, відавочна, нічога кірпатаму не даў: ні на абутку Скарыны, ні Шумскага, ні Вітушынскага ён не знайшоў таго, чаго хацеў. Лёгкі цень азмрочыў яго твар. Праўда, ненадоўга — хутка ён папрасіў Скарыну паказаць яму ўвесь абутак, які ёсць у доме. Праз нейкі час яны вярнуліся з пустымі рукамі. Кірпаты выглядаў азадачаным, але яшчэ не разгубленым. А вось калі і агляд абутку Шумскага і Вітушынскага таксама не даў яму жаданых вынікаў, ён выяўна страціў раўнавагу.

— Ды што вы такое шукаеце, можна даведацца? — занерваваўся Скарына.

Замест адказу кірпаты падвёў іх да акна. На прываконні добра адбіўся след рыфлёнае падэшвы. Памеры адбітку выдавалі, што нага, якая пакінула след, належала мужчыну. Вітушынскі заўважыў, як Скарына закусіў вусны і вырачыў вочы. След быў з засохлай белай гліны.

* * *

Спытаўшыся ў кірпатага дазволу, Вітушынскі сышоў бадзяцца па горадзе. Заставацца ў доме Скарыны не хацелася: надта ж пякучай была атмасфера гора. Антон адчуваў сябе лішнім у такой сітуацыі і таму вырашыў пашукаць жытло, куды можна было б з'ехаць.

Характарыстыку, якую доктар даў мясцовым гатэлям, Вітушынскі запомніў вельмі добра. Таму і на пошукі пакоя выбраўся ў раён прыватных дамоў.

Аднак знайсці жытло аказалася не так лёгка. Ці то аршанцы занадта падазрона ставіліся да незнаёмца і не спяшаліся пусціць яго ў падсуседзі нават на некалькі дзён, ці то Вітушынскаму не трапляліся гаспадары, якія маглі б пахваліцца лішкам жылплошчы.

Ён туляўся па пакручастых вулачках між драўляных дамоў, што патаналі ў зеляніне яблынь і грушаў, сліваў ды вішняў. Гэтыя вуліцы моцна розніліся ад цэнтральных, дзе дрэваў бадай і не было — не тое што яблыняў, але нават таполяў ці клёнаў.

Нечакана для сябе Антон выйшаў на пустку. Перад ім ляжалі вялізазныя равы, відавочна выкапаныя чалавечымі рукамі. Фантастычнае відовішча зачароўвала. Даўжэзныя глыбокія ямы нагадвалі магілы старажытных казачных асілкаў. Дый нават для тых легендарных волатаў выглядалі яны завялікімі: у такой велічэзнай яміне можна пахаваць не толькі аграмадзіну-асілка, але яшчэ і на кані. Ды нават і не аднаго: цэлае войска ў поўны рост спакойна здолее змясціцца тут.

З-за хмараў вызірнула сонца, асвятліўшы пейзаж і тым надаўшы яму яшчэ больш фантастычны выгляд. Цяжка было паверыць, што ўсе гэтыя стромыя сцены, на якіх там-сям прычапіліся няўпэўненыя ў сабе дрэўцы, насамрэч месцяцца на Зямлі. Ластаўчыны гняздоўі, якімі былі паточаныя адхоны равоў, нібы сцены старога дома — шашалем, падаваліся ці то дзіркамі ў сыры, ці то таямнічымі хадамі ў Невядомае.

Вітушынскі, які стаміўся бадзяцца па горадзе (адчуваў стому і непрыемнае паколванне ў параненай правай назе), моўчкі стаяў над ровам. Ён п’янеў ад асалоды, што адкрываў яму велічны краявід.

З-за спіны раздалося пакерхванне:

— Глядзіце? Так, тут у нас прыгожа. Мабыць, так выглядаюць каньёны ў Паўночна-Амерыканскіх Штатах.

Антон павярнуўся на голас і запытаўся ў маладога бландзіна з чорнымі бровамі, што стаяў непадалёк:

— А вы былі ў Амерыцы?

Хлопец сумеўся, але адказаў з выклікам:

— Не, я не быў! Але ў нашае краязнаўчае таварыства прыходзіў чытаць лекцыю пра становішча пралетарыяту ў Амерыцы таварыш Буевіч з цвіковага завода. Дык ён там быў, бачыў усё на свае вочы, бо працаваў некалькі гадоў поруч з амерыканскімі таварышамі. Ён нам і казаў, што гэта падобна да тых амерыканскіх каньёнаў.

Хлопец уздыхнуў. Вітушынскі пасміхнуўся:

— У вас усё яшчэ наперадзе, вы яшчэ ўсё пабачыце. Жыццё доўгае. Думаю, вашае пакаленне патрапіць не толькі паўночнаамерыканскія каньёны паглядзець, але і ў Антарктыдзе яблыні пасадзіць...

Хлопец пасміхнуўся на ўсе трыццаць два зубы: такая перспектыва яму падабалася.

— Дык а што тут было? Хто выкапаў гэты восьмы цуд свету, не занесены ў сусветныя аналы? Ці, можа, тут бралі гліну для той цэглы, з якой ставілі Вялікі кітайскі мур? — за жартаўлівым тонам Антон спрабаваў схаваць неўтаймоўную цікаўнасць, якая разбірала яго.

— Ага, вы яшчэ скажыце, што мы на другім баку планеты ад таго Кітая і пратапталі тут сцежку, якая ў кітайцаў потым вылезла тым мурам, — хлопец таксама патрапіўся языкасты. — Тут у нас засталіся равы ад таго часу, як вапну здабывалі. Ведаеце, горад на такім месцы стаіць, што вапнякоў багата. Нас, аршанцаў, так здавён дражнілі — «вапеннікі». Тут ужо равы закінутыя, бо выбралі вапну, а за горадам, вышэй па Дняпры, там ёсць кар'ер, дзе яе здабываюць і цяпер.

Увечары Вітушынскі вярнуўся з горада, так і не знайшоўшы кватэры. Ён пачуваўся стомленым, зняможаным і разбітым. Хацелася легчы спаць, нікога не бачыць і ні з кім не гаварыць.

* * *

Скарына не спаў. Ён сустрэў зморанага Вітушынскага на ўваходзе ў дом. За спінай гарэла зялёная лямпа, напаўняючы пакой утульным мяккім святлом. Доктар асунуўся з твару, пад вачыма ў яго ляжалі мяшкі:

— Заўтра зранку снедайце без мяне, я сыходжу на дзяжурства ў клініку. Сняданак для вас згатуе Наталля Андрэеўна, суседка нашая. Я папрасіў яе, каб на нейкі час узяла на сябе пэўныя хатнія клопаты.

— Праз мяне і так вам лішнія турботы, — Вітушынскі не ведаў, як далей весці размову. — Я, відаць, перабяруся ўсё ж у які-небудзь гатэль. Сёння паўдня шукаў жытло — усё марна.

Голас доктара заўважна задрыжэў:

— Не трэба, не з'язджайце. Я не дужа спакойна пачуваюся тут цяпер, калі застаюся адзін. З Уладзімірам Уладзіміравічам мы часта дзяжурым у розны час. І калі я сам-насам у гэтым доме, у галаву лезуць усялякія... думкі,

вобразы, успаміны. Пажывіце тут некалькі дзён, калі ласка. Дый мне будзе прасцей назіраць за вашай нагой.

Доктар паправіў пенснэ на носе — чорны цень, нібы невядомая старажытная істота, варухнуўся ў куце, ці то падкрадаючыся да чагосьці, ці то намагаючыся штосьці злавіць. Магчыма, залётнага начнога матыля, што памкнуўся спаліць свае белыя крылы на зялёнай лямпе.

— Не мучце вы гэтак сябе, — Вітушынскаму захацелася супакоіць гаспадара дома, які так ласкава паставіўся да яго. — Я думаю, забойцу абавязкова знойдуць! І вельмі хутка.

— Так-так, вядома, — Скарына разгублена міргнуў, — я таксама ў гэта веру. Праўда, Аленачку гэта не верне... Ведаеце, я не першы год працую хірургам, шмат рознага пабачыў. Быў жа і на фронце. Думаў, што да ўсяго прывык. А тут высветлілася, што — не!

Ён павёў плячыма, дапамагаючы сабе праглынуць даўкі камяк, што захрас у горле. Вітушынскі спрабаваў знайсці словы для суцяшэння і з горыччу разумеў, што гэта не ягоная стыхія: усе словы губляліся ў свядомасці, як у кішэні — фальшывая і зашмальцаваная манета, якую сорамна падаць нават жабраку.

Скарына тым часам працягваў:

— Заўтра пасля абеду мяне прасілі прыйсці ў міліцыю. Будуць паказанні браць. Відаць, вас таксама выклічуць: яны хацелі пагаварыць з усімі, хто быў у доме падчас... падчас забойства.

* * *

Наступныя некалькі дзён прайшлі ў агульным тлуме і паходах у міліцыю: кірпаты дапытваў насельнікаў дома. Ён не даў супакою і суседзям: яны таксама мусілі прыгадваць, ці не бачылі каго-небудзь падазронага вакол дома апошнімі днямі. Аднак згадаць нешта больш-менш значнае патрапіў мала хто з суседзяў. Выняткам стала хіба што Наталля Андрэеўна, якая распавяла пра бачанага падазронага бадзягу. Аднак пад апісанне, якое яна дала кірпатаму, магла патрапіць ладная палова аршанскіх беспрацоўных.

Вітушынскі стараўся як мага менш назаляць абодвум. Аднак жа адчуваў пэўныя забавязанні перад домам, які даў яму на гэты нядоўгі час прытулак. Ён імкнуўся размаўляць з абодвума дактарамі на нейтральныя тэмы. Аднак гаворка сканчалася, так і не паспеўшы распачацца. Скарына хадзіў маўклівы, зануранны ў сябе. Пачасту ён зачыняўся ў былым пакоі сястры, маўклiва сядзеў там гадзінамі.

Мала чым розніўся ад яго і Шумскі, які вельмі часта не мог адразу адказаць на пытанні, перапытваў, а то і проста казаў першае-лепшае, што прыйдзе да галавы, не ўдумваючыся ў сэнс вымаўленых словаў.

Аднаго вечара Вітушынскі зазірнуў у дом і нікога не знайшоў. У пошуках хоць якой жывой душы ён прайшоў амаль усе памяшканні. Калідор вывеў яго да пакоя, які пры жыцці займала Алена Скарына. Дзверы былі прыадчыненыя: завітаць нечаканага госця яны не запрашалі, але і не адпіхвалі.

Паддаючыся згубнай цікаўнасці, Антон зазірнуў у шчыліну. Яму падалося, што ў пустым пакоі ўсё засталося так, як ён бачыў у той страшны дзень. Тыя ж маленькія мяккія падушачкі паўсюдна. Тыя ж жаночыя драбноcткі ды парфума на палічках. Тое ж бюро, на якім ляжалі пудраніца, нататнік, нейкія паперы — нібы не перабіралі іх рукі міліцыянтаў. Адзінае, чаго бракавала ў гэтым пакоі, — подыху жывога чалавека. Не было адчування абжытасці. Нібы па смерці насельніцы гэтага пакоя адным духам вымела з яго жыццё, ператварыўшы ў мумію, мемарыял.

Раптам яму падалося, што ў гэтым мёртвым музейным памяшканні нехта ёсць. Неразборлівы, няўцямны шэпт напоўніў пакой вусцішнай трывогай. Прыгледзеўшыся, Вітушынскі ўбачыў у самым цёмным куце фігуру доктара Скарыны: стоячы на каленях, ён нешта гаварыў да сястрынай фотакарткі, прымацаванай да сценкі, — ці то маліўся, ці то размаўляў з нябожчыцай. Вусны ягоныя варушыліся, прамаўляючы нячутныя пацеры, звернутыя няведама да каго.

Адчуваючы сваю лішнасць пры гэтай інтымнай шчымлівай сцэне, Вітушынскі павярнуўся сысці, імкнучыся ступаць як мага цішэй. Аднак ягоную прысутнасць выдалі масніцы:

адна з іх рэзка віскнула пад нагой. Антону нічога не заставалася, як падаць голас у бок пакоя:

— Сяргей Раманавіч, вы тут?

Скарына ўскінуўся ад нечаканага гуку, інстынктыўна імкнучыся прыкрыць рукой фатаграфію. Вочы ў яго ліхаманкава блішчэлі.

— Хто там?

— Я, Вітушынскі.

— А-а, гэта вы, — Скарына выйшаў з пакоя, замкнуў яго і апусціў ключ у кішэню светла-брунатнага пінжака ў дробную клетку. — Я хадзіў прыбрацца ў сестрыным пакоі. Хачу, каб там заставалася ўсё так, як было пры ёй. Каб яна як мага даўжэй заставалася побач.

Вітушынскі ківаў галавой, пагаджаючыся з доктаравымі словамі. А той, не заўважаючы згоды пацыента і пастаяльца, працягваў:

— Ведаеце, сёння зноў мяне выклікаў наш новы агульны знаёмы з міліцыі. Сказаў, што засталася ў іх адна версія наконт забойства. Невядомы (мабыць, той самы бадзяга, якога заўважыла Наталля Андрэеўна) залез уначы праз расчыненае акно. Думаюць, што ён хацеў абрабаваць дом, але нешта яму перашкодзіла. Магчыма, Алена прачнулася... Карацей, ён яе задушыў, а сам зноў уцёк праз акно. Цяпер міліцыя будзе, як яны сказалі, «прапрацоўваць крымінальныя элементы горада».

Скарына падціснуў вусны, унурыўшыся ва ўласныя думкі. Нарэшце штосьці вырашыў для сябе і ўважліва паглядзеў на Вітушынскага. Ягоны позірк утарпіўся ў Антонава пераноссе.

— Ведаеце, я спрабаваў звярнуць увагу міліцыі на белы след, які застаўся на прываконні. Але мне, канечне ж, ніхто не паверыў.

Ягоны голас задрыжэў, Скарына відавочна хваляваўся.

— Яны не хочуць нават дапускаць, што тут можа быць нехта іншы, апрача бадзягі. Наяўнасць голема ў не стасуецца — бачыце вы! — з гістарычным матэрыялізмам і вучэн-

нем Маркса. У камуністычнай тэорыі няма месца прывідам, нават калі яны забіваюць людзей!

Ягоныя плечы здрыгануліся ад стрыманага плачу. Аднак на вачах не з'явілася ні слязінкі.

* * *

Пасля вячэры Вітушынскі вырашыў прайсціся. Нага ўжо амаль не турбавала яго, і доктар абяцаўся неўзабаве, праз якія пару дзён, зусім адпусціць свайго пацыента.

І каб распрацоўваць нагу, а таксама для таго, каб не сядзець у доме, які ўсё больш прыгнятаў яго сваім настроем, Антон выбраўся на шпацыр. Ён гуляў па вечаровых аршанскіх вуліцах, слухаючы звонкія дзіцячыя галасы, перабрэх дваровых сабак, які нечакана ўздымаўся і гэтак жа раптоўна сціхаў. Зазірнуў у кавярню, выпіў шпанку — салодкі шыпучы напой, які варылі толькі ў Воршы: мясцовыя майстры-габрэі нікому не выдавалі сакрэту, як вырабляецца гэтае смакоцце. Рэцэпт перадаваўся ад пакалення да пакалення, і не было тут ніводнага хітрага шпега, які выкраў бы гэтую таямніцу, як выкралі свой час у кітайцаў шаўкапрадаў.

Ленавата, разняволена, у добрым гуморы вяртаўся Вітушынскі дадому. Ці не ўпершыню за апошнія дні ён адчуваў спакой. Паспрыяў гэтаму летні вечар ці смачны напой, выраблены габрэйскімі адмыслоўцамі, — разважаць не хацелася. Ён проста атрымліваў асалоду ад паветра, поўнага густых кветкавых і травяных пахаў. Па-асабліваму пахла нагрэтая за дзень глеба, а здалёк да яе дамешваўся ледзь улоўны рачны пах Дняпра. На цэнтральных вуліцах пачалі запальваць ліхтары. Іх жаўтаватыя кругляшы прабіваліся здалёк, блыталі ды ўводзілі ў зман: не разбярэш, дзе сканчаецца неба і пачынаецца горад.

Толькі Вітушынскі вывернуў з-за рога на Малую Мар'ямпольскую, як заўважыў Шумскага. Асістэнт некуды відавочна спяшаўся і спасцярожліва азіраўся па баках. Антона ён не заўважыў толькі таму, што той выйшаў на вуліцу, калі Шумскі акурат павярнуўся ў іншы бок.

Даўно забыты пах авантуры заказытаў ноздры Вітушынскаму. Не раздумваючы, не вагаючыся, ён пайшоў следам за Уладзімірам Уладзіміравічам. Навыкі франтавой выведкі выявіліся ў горадзе не надта прыдатнымі, але ўсё ж больш дапамагалі, чым шкодзілі. На фронце не трэба пільнаваць з-за рога, ці далёка сышоў вораг. Не трэба хадзіць па бруканцы, дзе твае крокі чуваць далёка.

Цемра, якая накрыла горад, была гэткай самай падступнай хаўрусніцай: яна давала схавацца Вітушынскаму, але ўадначас і вымушала яго падступацца бліжэй да пераследаванага асістэнта, які мог проста знікнуць з вачэй у суплёце заблытаных гарадскіх вулак.

Шумскі ішоў да Дняпра. Плёскат рачных хваляў, памножаны на начную цішу, станавіўся ўсё гучней. Вітушынскі задумаўся: на дзяжурства ў амбулаторыю — не ў гэты бок. Значыць, Уладзімір Уладзіміравіч ідзе з іншай мэтай. Будзе вельмі няёмка, калі ён прызначыў спатканне дзяўчыне, а тут такі канфуз — няўдалы пераследнік... Але ж, ідучы на любоўнае спатканне, не азіраюцца так часта і насцярожана. Таму не варта спяшацца з высновамі.

Што сказаць, калі Шумскі раптам заўважыць пераследніка? Не скажаш жа, што пагоня падалася прывабнай сама па сабе. Можа, спаслацца на пошук зёлак? Продкі ў сваіх зельніках дужа раілі збіраць некаторыя зёлкі менавіта ў начны час: тады іх сокі, напоеныя дзённым сонечным святлом, набрыняюць яшчэ і малаком начных росаў. Нездарма ж вядзьмаркі хадзілі смактаць каровіна малако акурат уначы... Антон скрыва пасміхнуўся сам сабе: от навараціў!

Пасля чарговага скрыжавання Шумскі змяніў кірунак руху: ён стаў аддаляцца ад рэчкі. Вітушынскі, які не паспеў яшчэ добра вывучыць горад, напружыўся: ці ўдасца пасля такога блукання па вуліцах адшукаць дарогу назад? Адзін спадзеў, што гэты прыспешлівы крок, які пастуквае наперадзе, не спыніцца і выведзе яго куды-небудзь у больш вядомыя мясціны.

У цемры крокі былі чуваць вельмі добра, і пераследнік перастаў баяцца, што згубіць Шумскага. Ён нават дазволіў

сабе крыху прыадстаць. Праз нейкія хвілінаў дзесяць-пятнаццаць Вітушынскі пачаў пазнаваць дашчаныя платы і некаторыя дамы, якія ўгадваліся ў цемрадзі: тут ён бываў, калі шукаў сабе жытло. Лёс пакуль што не зусім адвярнуўся ад яго!

Пры падыходзе да закінутых кар'ераў Вітушынскі ледзь не згубіў перасследаванага доктаравага асістэнта. Той стаў трымацца больш асцярожна, ішоў ад дрэва да дрэва, імкнучыся не выходзіць на адкрытыя мясціны. Вітушынскі сёмым пачуццём драпежнага звера адчуў: наблізіліся. Менавіта сюды дабіраўся такімі вакольнымі шляхамі Шумскі.

Што магло спатрэбіцца яму ў гэтым занядбаным Богам і людзьмі месцы? Для вечаровага мацыёну можна было не забірацца так далёка... Вітушынскі пасунуўся ў бок Шумскага, стараючыся ісці як мага цішэй.

У звонкую начную цішу ўпляталіся гукі начных спевакоў: у траве завялі на скрыпачках сваю серэнаду цвыркуны, недзе за горадам свіснуў паравоз, флейтамі зазвінелі каля вуха камары. Праз гэтую начную музыку Вітушынскі не адразу разабраў галасы. Шумскі быў не адзін — ён сустрэў таго, да каго ішоў.

Антон адчуў вострае пачуццё зайздрасці да герояў авантурных раманаў, чытаных у дзяцінстве. Калі б ён быў цяпер якім-небудзь Мантыгомам Сакаліным Вокам ці Ацэолам Спрытным Лісам, дык у імгненне вока апынуўся б побач з Шумскім і ягоным канфідэнтам, падслухаў бы размову і незаўважна знік пад покрывам начы. Аднак Ацэолы і Мантыгомы былі ў далёкіх амерыканскіх прэрыях, і таму даводзілася неяк выкручвацца самастойна.

Вітушынскі асцярожна пераносіў вагу цела з адной нагі на другую. На краі кар'ера ён не так заўважыў, як адчуў дзве фігуры. У адной ён угадаў Шумскага: надта ж характэрны ягоны «свіст» у словах. Другога чалавека Антон апазнаць не мог: твару не было відаць, а голас ягоны падаўся Вітушынскаму незнаёмым. Абрысы ягонай паставы хаваў накінуты на плечы плашч.

— Акурат цяпер самы час. Варта... — Шумскі на хвіліну змоўк, нешта ўзважваючы. — Яна нам не перашкодзіць. Галоўнае — уцячы, пераседзець нейкі час.

— Думаеш, гэта самы зручны момант? — Незнаёмец у плашчы вагаўся, у голасе ягоным быў чуцён сумнеў.

— Толькі так! — энтузіязму Шумскага хапіла б не толькі на іх дваіх, але яшчэ й на паўдзясятка такіх самых скептыкаў. — Усё будзе як у казцы. І нават лепш! Ніхто ачомацца не паспее — як і тады...

Незнаёмец рэзка перапыніў доктаравага асістэнта:

— Ты за сабой нікога не прывёў?

Антону падалося, што ягонае сэрца пачало біцца празмерна гучна, пагражаючы вырвацца з грудзіны. Ён скурай адчуваў, што невядомы начны суразмоўца Шумскага глядзіць у ягоны бок.

— Не, — у голасе Шумскага была цвёрдая перакананасць, — пільнаваўся як мае быць. Нікога за мной не было. Дый каму магло б у голаў прыйсці сачыць за мной?

— Ладна, — буркнуў незнаёмец. — Вяртайся і рыхтуйся. Але ж глядзі, каб не заўважыў ніхто!

Шумскі рушыў у бок Антона. Уцякаць не было як. Не далей як праз пяць-сем метраў Антон мусіў бы выйсці на прастору, не заценёную дрэвамі. Трапляцца на вочы Шумскаму пасля падслуханай размовы было небяспечна.

Вітушынскі збочыў, прыціснуўся да дрэва, затаіў дыханне. Час цягнуўся марудна, як балагол з поўным возам на Кабыляцкую гару. Шумскі прамінуў Антона, не запыніўшыся вокам: цень ён і ёсць цень. Чаго на яго глядзець? «Мабыць, не часта яму даводзіцца хадзіць на такія начныя спатканні. А то паводзіў бы сябе іначай, пільнаваўся б», — мільганула думка ў Вітушынскага. Адышоўшы ад кар’ера на больш-менш вялікую адлегласць, Шумскі і наогул перастаў хавацца ў ценю дрэваў. Ішоў спакойна, а праз нейкі час пачаў яшчэ й насвістваць.

* * *

Дадому Антон дабраўся без прыгодаў. Што праўда, давялося крыху пасядзець каля кар’ера, прыслухоўваючыся: ці сышоў ужо начны канфідэнт Шумскага? Трапіцца на вочы яму было, бадай, яшчэ горш, чым доктараваму асістэнту.

Адно толькі Вітушынскі баяўся, што ад начной вільгаці можа стаць горш назе. Таму, дачыкільгаўшы дадому, абкруціў яе цёплай хусткай.

Сеўшы за стол, Вітушынскі задумаўся. Што ён мае? Забітая жанчына. На прываконні ёсць нейкі белы след. Міліцыя лічыць, што забойца — невядомы бадзяга, які спадзяваўся знайсці грашовую пажыву. Ці варта верыць у міліцэйскую версію? Алена ў размове ў той апошні вечар надта баялася бадзяг і казала, што будзе спаць з зачыненымі ваканіцамі. Аднак слядоў узлому на вакне не было. Сямейная легенда пра голема выглядае, вядома, зручна...

Кепска, што доктар аддаляецца ад успрымання рэальнасці: багомячы забітую сястру, ён пачынае жыць ва ўяўным свеце. Ці няма небяспекі, што ягоны ўяўны свет пачне ставіцца для Скарыны больш праўдзівым, чым рэальны, у якім жывуць усе астатнія людзі?

А вось ягоны асістэнт часу не марнуе і жыве ў свеце аж занадта рэальным. Шумскі сустракаецца ўначы з нейкім незнаёмцам, кажа, што цяпер зручны момант і што «яна не перашкодзіць»...

Пасьянс атрымліваецца не дужа складаны, але нечага ўсё ж у ім бракуе. Не ўсе карты яшчэ адкрыліся і леглі па сваіх нішах.

* * *

Наступнага дня зранку Вітушынскі пайшоў у горад. У Скарыны ён дазнаўся, дзе ёсць фотамайстар — на вуліцы Працоўнай. Ідучы маршрутам, які яму патлумачыў доктар, Антон вырашыў праверыць: запытаўся ў сустрэчнага, ці правільна ідзе на Працоўную. Сустрэчны разгубіўся: ён такой вуліцы не мог падказаць. Наступныя двое мінакоў

таксама пра вуліцу Працоўную распавесці нічога не маглі. У грудзях чорным камяком варухнулася нядобрае прадчуванне.

Пачынала даймаць спёка, і Антон зусім разгубіўся. Выручыў яго міліцыянт, які некуды заклапочана спяшаўся:

— Працоўная? Вядома, правільна ідзяце. Чаму ніхто не можа падказаць? Дык вы пытайцеся Нямецкую — яе нядаўна толькі ў Працоўную перайменавалі, не ўсе яшчэ звыкліся так называць.

І сапраўды, Нямецкую вуліцу аршанцы паказвалі ахвотней, чым невядомую многім Працоўную.

На майстэрні вісела ганарлівая шыльда «Фатаграфія Рыскіна. Партрэты ў інтэр'еры». Ніжэй крэйдай менш упэўненая рука вывела дадатак: «І на вуліцы робім таксама».

Антон хацеў сфатаграфавацца на памяць пра гэты горад. Невядома, калі патрапіць ён сюды яшчэ раз. Фатограф Рыскін адразу стаў пераконваць кліента, што той не памыліўся:

— Ой, вы трапілі, і менавіта сюды вам і трэба. Вы спытаецеся, дзе да рэвалюцыі фатаграфаваўся гарадскі галава мсье Стратановіч. І я вам адкажу: ён фатаграфаваўся заўжды ў Рыскіна!

Ён узняў указальны палец, паказваючы на тыя паднебныя вышыні, дзе існаваў да рэвалюцыі гарадскі галава.

— Вы, канечне, можаце пайсці да Хільмантыцкага, — казаў ён, трымаючы Вітушынскага за рукаво пінжака і не збіраючыся адпускаць, — але хіба там будзе добрая фатаграфія? Вы паглядзіце толькі на мае фотаздымкі. Гэта Саламонава Песня Песняў, а не фатаграфія.

На доказ праўдзівасці сваіх словаў ён паклаў перад Вітушынскім альбом. Надпіс «Найлепшае з фатаграфіі Рыскіна» патанаў у безгустоўных віньетках. Антон безуважна пачаў перагортваць старонкі альбома, каб дагадзіць назолістаму гаспадару. Аднак адна з апошніх старонак прыцягнула яго, нібы магнэсам. Вітушынскі нізка схіліўся над альбомам. Рыскін, запрыкмеціўшы ягоную ўвагу, пачаў пазіраць праз плячо:

— Такі што я вам скажу? У вас ёсць густ! Гэта адзін з найлепшых здымкаў, што атрымліваліся ў мяне. Гэтая маладая пара зайшла сюды: зрабіце нас так, як вы робіце вясельныя здымкі. Думаеце, мне шкада? Не, мне не шкада. Я іх сфатаграфаваў.

З фатаграфіі на Вітушынскага глядзелі і пасміхаліся шчаслівыя твары Алены Скарыны і Уладзіміра Шумскага.

* * *

*«Дзёрзкі напад*

*Учора быў учынены напад на гарадзкую турму. Пад прыкрыццём перастрэлкі з-пад арышту ўдалося ўцячы белабандыту Гозіюшу, якога павінны былі днямі перавезці ў губернскі цэнтр. У Віцебску атамана Ветра чакаў пралетарскі суд і заслужаная кара — расстрэл, вышэйшая мера сацыяльнай абароны.*

*У сувязі з гэтым гарадскі аддзел АДПУ лічыць, што ў Гозіюша былі саўдзельнікі ў горадзе, і просіць усіх, хто ведае якія-небудзь акалічнасці, паведаміць па гарадскім тэлефоне 163 ці асабіста.*

*Бандыты, якія здадуцца добраахвотна, могуць разлічваць на амністыю. Іхнае раскаянне будзе прымацца пад увагу пры разглядзе органамі пралетарскай справядлівасці».*

Скарына змоўк і пільна паглядзеў на Вітушынскага паўзверх газеты. Пасля паўзы вымавіў:

— Бачыце, на дарогах адразу стала куды як неспакойна. Не перадумалі ехаць?

— Не перадумаў, — цвёрда адказаў Вітушынскі. Ягоны пасьянс нарэшце сышоўся, і прыспеў час пакідаць гэты дом. — А дзе Уладзімір Уладзіміравіч? Я б хацеў і яго пабачыць на развітанне.

Шумскі зайшоў неяк бокам, нібы хаваючы левае плячо ад суразмоўцаў.

— Праходзьце, калі ласка, туды, — Вітушынскі рэзка ўзмахнуў рукой і нязграбна зачапіў левую руку Шумскага. Той зморшчыўся. На Антонавым твары мільганула задаволеная

ўсмешка. — Даруйце, калі ласка, я незнарок. Я сёння такі нязграбны... Напэўна, хвалююся перад дарогай.

Нарэшце мужчыны паселі ў крэслы. Скарына прапанаваў на дарожку ўзяць «па аглаблёвай» — ніхто не адмовіўся. Вітушынскі на хвіліну прымружыў вочы, глыбока ўздыхнуў:

— Я хацеў вам распавесці дзіўную гісторыю забойства, якая адбылася ў гэтым доме. Гэта будзе ў нейкай меры мая плата за гасціннасць. Я не веру, што міліцыя знойдзе забойцу, бо шукаюць яго не там. Каб іхны «забойца» мог трапіць у пакой, яму давялося б узламаць аканіцы: прыгадайце, што доктарава сястра баялася бадзяг і збіралася спаць з зачыненымі вокнамі. А вокны былі акуратна адчыненыя.

— А адкуль у вас такая ўпэўненасць, што вы ведаеце, дзе шукаць забойцу? — у голасе Шумскага гучала халодна-грэблівая непрыязь.

— Назіраў, супастаўляў факты, рабіў высновы, — Вітушынскі не мяняў тону. — Я не ведаю, калі ў злачынцы ўзнікла ідэя забойства, але думаю, што яна не была спантаннай. Зрэшты, магчыма, мой прыезд у гэты дом і падштурхнуў яго да дзеяння: ён расцаніў паводзіны Алены Раманаўны са мной як какецтва. Таму і вырашыў, што не варта губляць час. Я нагадаю вам крыху пра гісторыю злачынства. Вашую сястру, — паварот галавы ў бок Скарыны, — забілі ўначы. У яе пакоі нічога не знікла. Наадварот, там тое-сёе нават з'явілася — маю на ўвазе белы след на прываконні. Ага, Уладзімір Уладзіміравіч, па незадаволенасці на вашым твары я разумею, што доктар і вам распавядаў гэтую сямейную легенду. Што ж, тым лепш, мне паўтараць не давядзецца. Патрывайце, калі ласка, я пастараюся расказваць сваю гісторыю не вельмі доўга.

Вітушынскі паднёс чарку да вуснаў, астатнія не варухнуліся.

— Вядома, у гісторыю голема я не паверыў, як не паверыў бы ў яе ніводзін нармальны адукаваны чалавек. А вось паназіраць за прысутнымі ў доме было не лішне. Так я даведаўся, што вы, Уладзімір Уладзіміравіч, не так даўно ўначы хадзілі да старога кар'ера, з якога калісьці выбіралі вапну.

Ведаеце, акурат пасля паходу да гэтага кар'ера падэшвы могуць пакідаць белыя сляды. Каля кар'ера вы сустракаліся з нейкім незнаёмцам, якому паведамілі, што «яна не будзе вам перашкодай»...

— Ты-ы-ы... — Скарына ўскочыў, павярнуўшыся ў бок Шумскага. Аднак у правай руцэ доктаравага асістэнта ўжо быў рэвальвер. Шумскі стаяў наструнены, як пантэра перад скачком:

— Спакойна, не трэба рэзкіх рухаў. Буду страляць без папярэджання.

Чорная руля, якая глядзела сваім адзіным падслепаватым вокам у лоб доктару, спыніла яго рух.

— Я не забіваў Алену. Мы... мы збіраліся пажаніцца, — голас Шумскага гучаў надколата, нібы шклянка, з якой ужо наўрад ці будуць піць.

Вітушынскі, які не змяніў сваёй паставы, моўчкі агледзеў абодвух і працягваў:

— Я магу працягваць? Дзякую, Уладзімір Уладзіміравіч. Канечне, вы не забівалі.... Вельмі зручнае месца для таемнай сустрэчы гэты кар'ер: з-за горада туды можна дабрацца незаўважаным. Думаю, вы з гэтым чалавекам сустракаліся там не аднойчы... Пра тое, што вы збіраліся пажаніцца з Аленай Раманаўнай, я ведаю — ад фатографа Рыскіна. Але тое, што вы не забівалі жанчыну ў гэтым доме, усё адно не робіць вас бязвінным у вачах савецкай улады. У вашай гутарцы з тым чалавекам каля кар'ера прагучала слова «варта». Спярша я думаў, што гэта прыслоўе, і азначае яно, што нешта *належыць* зрабіць. Але менавіта сённяшні артыкул у газеце пераканаў мяне, што я памыліўся. Гаворка ішла пра турэмную *варту*. Вы ж атрымалі рану менавіта пры вызваленні Гозіюша?

Указальны палец цэліў акурат у тое месца на левай руцэ Шумскага, якое Вітушынскі зачапіў колькі хвілінаў таму. Руля рэвальвера імгненна выбрала сваёй мішэнню Антона. Ён папераджальным настаўніцкім рухам узняў палец угару:

— Не *варта*, а то вы так і не даведаецеся заканчэння маёй гісторыі. Як і імя забойцы. Вам было не да таго, каб забі-

ваць. Пачуўшы, што атамана Ветра злавілі, вы адразу пачалі рыхтаваць ягоныя ўцёкі. Алену Раманаўну забіў яе брат.

Вітушынскі змоўк, у пакоі стала магільная ціша.

— Чым вы можаце пацвердзіць свае словы? — Шумскі быў насцярожаны. Твар Скарыны заставаўся нерухомым.

— Скажыце, калі вам распавядаў Сяргей Раманавіч тую сямейную легенду пра голема? Зусім нядаўна... А ягоная сястра пры гэтым прысутнічала?

Шумскі адмоўна пакруціў галавой.

— Як я мяркую, доктар Скарына высачыў вас падчас аднаго з вашых паходаў. Гэта было не дужа складана нават мне з хворай нагой. Кар'ер і дапамог яму стварыць легенду пра голема, які пакідае белы гліняны след на месцы забойства. Гэты ж белы след мусіў вывесці следства на вас. Вас бы звінавацілі ў палітычным бандытызме, а за адным разам — і ў крымінальным. Пра матывы злачынства я магу толькі здагадвацца. Верагодна, доктар любіў сваю Алену Раманаўну далёка не братэрскай платанічнай любоўю. Думаю, тут гаворка магла ісці пра сапраўднае каханне, забароненую жарсць, якую старанна хаваюць ад усяго свету. Наштурхнула мяне на гэтую думку тое, як ён абышоўся з сестрыным пакоем пасля яе смерці. Спярша я хацеў параўнаць гэты пакой з музеем, дзе ўсё павінна застыць так, *як было тады*. А потым я зразумеў: гэта — храм. Храм, дзе месца кожнае рэчы загадзя вызначана. Ён не мог мірыцца з тым, што яго Багіня адыдзе іншаму. Ён прынёс у ахвяру сястру, каб абагаўляць памяць пра яе.

— Вы нічога не разумееце, — Скарына нібы выціскаў з сябе словы. Як Сізіф, ён каціў кожнае слова ад лёгкіх, праз горла, ускладаў на язык і толькі пасля гэтага выштурхоўваў з сябе. — Яна была такая цудоўная. Я не мог яе аддаць гэтаму прайдзісвету, у якога за душой няма нічога. Сёння ён тут, а заўтра ягоныя бээнэраўскія сябручкі паклічуць яго — і ён пабяжыць за імі. Добра, калі толькі за мяжу. А калі ў лес? Савецкая ўлада не цацкаецца з палітычнымі бандытамі. Яны ёй класавыя ворагі — не тое што класава блізкія крымінальнікі, якія проста заблыталіся на жыццёвай дарозе.

Гэтае так званае «ўзбуйненне БССР» ды заклік да эміграцыі вяртацца — не болей чым дымавая завеса. Не для таго ў Петраградзе засудзілі правых эсэраў, каб тут даць іхным аднадумцам і хаўруснікам магчымасць будаваць дзяржаву. А гэты, — ён кіўнуў у бок Шумскага, — стане першай ахвярай. Калі не ў лесе, дык усё адно дзе-небудзь праявіцца. Я не мог так рызыкаваць жыццём сваёй сястры.

Шумскі моўчкі глядзеў на Скарыну.

Вітушынскі ўзняўся:

— Спадзяюся, я магу ісці. Мне яшчэ трэба знайсці фурмана. Каб адвёз мяне на вакзал. Тры вярсты за горад — не блізкі свет пешшу.

Шумскі працягваў маўчаць, але згодна хітнуў галавой. Ён не адводзіў позірк ад твару Скарыны. Руля рэвальвера таксама не рухалася, абраўшы сабе адзіную мішэнь.

Вітушынскі выйшаў на вуліцу. Ён пачуваўся гадка і гідка, быццам адкусіў яблык і ўбачыў там толькі палову чарвяка. Варта было як хутчэй з'язджаць з гэтага горада.

* * *

На вакзале Антон даведаўся, што дарма спяшаўся: сёння цягнікі на станцыі ўжо спыняцца не будуць. Рабочы-пуцеец патлумачыў:

— Цягнікі-то яшчэ будуць, але не спыняцца. Цяпер спыняцца будуць толькі таварныя.

Ён крытычна агледзеў Вітушынскага з галавы да ног. Сплюнуў сабе пад ногі:

— Вам, грамадзянін, у такім гарнітурчыку наўрад ці зручна будзе на таварняку.

Давялося вяртацца ў горад. Фурман няспешна вёз Вітушынскага аршанскімі вулачкамі. Дазнаўшыся, што пасажыру трэба хаця б у які гатэль, возчык нібыта вырашыў правезці пасажыра з экскурсіяй па горадзе. Ён цягнуўся з аднае вуліцы на другую, рабіў кругі, зноў вяртаўся на ранейшыя вуліцы. Антон толькі моўчкі пасміхаўся гэтым наіўным вазацкім хітрыкам, але не пярэчыў. Ён нібы па-новаму бачыў Воршу, аршанцаў з іх нетаропкім жыццём, дзе было месца

і дзіцячым гульням на вуліцы, і вечаровым шпацырам дарослых. Аднак не было ў гэтай ціхай рэчаіснасці месца тым падзеям, сведкам якіх стаў нядаўна Вітушынскі.

Нібы трапіўшы ў рытм ягоных думак, фурман павярнуў на Малую Мар'ямпольскую. Міжволі Антон стаў узірацца ў дамы, якія паспеў запомніць за некалькі дзён. Ужо вечарэла, і з набліжэннем прыцемкаў вулічныя абрысы набывалі таямнічасці, застрашлівага рамантызму, які так цэняць аматары гатычных гісторыяў. Каля дому Скарынаў Вітушынскі заўважыў нейкі рух і стаў углядацца ўважліва. Сэрца заспяшалася, адстукваючы такты. Антону падалося, што нехта пакінуў дом. І да таго ж — не зусім звычайным спосабам: праз вакно. Светлую вопратку чалавека, які пакідаў дом, было няблага відаць у вечаровым сутонні. Ад нечаканасці Вітушынскі войкнуў. Але незнаёмец так хутка схаваўся за рогам дома, што Антон задумаўся: ці быў насамрэч гэта чалавек, ці вечаровы паўзмрок і надзвычайнае ўзрушэнне зладзілі з ім жорсткую гульню, падкінуўшы фантом уяўленню. Фурман, здаецца, нічога надзвычайнага не заўважыў. І Антон вырашыў, што яму ўсё ж такі падалося і з'яўленне, і шпаркія ўцёкі чалавека з дома Скарынаў.

Ноч у «Брыстолі» Вітушынскі пакляўся запомніць надоўга. Абяцаныя яму калісьці доктарам прусакі падаліся мілай і нязначнай драбязой у параўнанні з клапамі. Крывасмокі дасталі за ноч так, што Антон паспяшаўся чым раней выбрацца з гатэля.

На вакзале было людна. «Відаць, сёння мне ўсё ж удасца адсюль выехаць», — вырашыў Вітушынскі. Узяўшы квіток, ён пачаў нетаропка шпацыраваць па пероне. Зрэшты, гуляў ён нядоўга: запляваны лушпайкамі ад семак перон не выклікаў вялікай ахвоты гуляць. Прыпыніўшыся недалёка ад лавачкі атрутна-хімічнага зялёнага колеру, ён стаў міжвольным сведкам чужое размовы. Дзве яшчэ не старыя жанчыны абмяркоўвалі нейкую Андрэеўну ды ейныя дужа смачныя салёныя гуркі. Адна з іх у чорнай хустцы з яркапунсовымі макамі расказвала другой, што мела хустку бляклую, клятчастую:

— Дык яна ў тыя гуркі, як ставіць іх саліцца, гарэлкі далівае. Не шмат, крыху. І тады гарэлка тая гуркам смак дае інакшы.

— Ага, трэба і мне такое паспрабаваць. А колькі туды гарэлкі ліць?

— Ды крыху зусім. Нават не для паху, а так... Каб было. Толькі гарэлку трэба браць не сваю — абавязкова крамную.

— Ну дык знайшла чым здзівіць! З крамнай, вядома, будзе смачна...

— Авоечкі, слухай, што з ёй праз тую гарэлку здарылася, — квятастая хустка агледзелася па баках і прыцішыла голас. — Стала яна ўчора гуркі саліць, ды агледзелася, што гарэлкі-то і няма. А ў краму бегчы — доўга, не набегаешся. Я якраз у яе была, дык я ўсё на свае вочы бачыла. Пайшла яна да суседзяў папрасіць гарэлачкі. Суседзі ў яе людзі вучоныя — доктар з сястрой сваёй. Ды яшчэ жаніх сястрын — і той у дактарах ходзіць. Сястру забілі нядаўна, дык тыя два мужчыны там жылі, а Андрэеўна прыходзіла есці ім згатаваць, у доме прыбрацца. Не задарма, вядома, бо дарма і каза цераз плот не скача. Дык пайшла яна да іх па-суседску, а там — міліцыя!

— Вох-вох-вох, сястрынага забойцу шукалі? — запыталася клятчастая хустка, бязмерна зацікаўленая гісторыяй.

— Ды не! — трыумфавала квятастая. — Там яшчэ адно забойства. Самога доктара забілі. Задушылі, як і сястру. А жаніха сястрынага — як венікам змяло. Толькі што брудна паўсюль: нібы хто не тое што ў брудных ботах хадзіў, а як знарок прыйшоў ды пасыпаў падлогу глінай белай. Тыя міліцэйскія сталі Андрэеўну распытваць, хто яна такая ды ці ведае што. Яна і сказала, што па-суседску зайшла гарэлачкі папрасіць, а сама не ведае, што тут робіцца. Доўга яе не мучылі, хоць і хацелі, каб яна потым на судзе расказала ўсё, што ведала.

Квятастая хустка з гонарам паглядзела на бляклую: маўляў, ну што? Ці было з табой такое? А вось са мной здарылася!

Клятчастая глядзела на суседку з непрыхаванай зайздрасцю.

Вітушынскі адчуў раптоўную млосць ва ўсім целе, уваччу паплылі featured рознакаляровыя плямы. Перастаўляючы ногі, якія нібы сталі чыгуннымі, ён зрабіў два крокі і абяссілена зваліўся на лавачку, дзе сядзелі жанчыны. Яны насцярожана паглядзелі на яго, замаўчалі, адсунуліся.

Божа мой! Няўжо ён памыліўся? Няўжо ўсе намаганні ляснулі марна? Няўжо насамрэч існуе гэты легендарны голем, пра якога расказваў доктар Скарына? Не, такога проста не можа быць, гэта не ўкладаецца ў галаве. Магчыма, ён стаў ахвярай жудаснай інсцэніроўкі, пастаўленай Шумскім. Усё было разыграна як па нотах. І ён, Вітушынскі, трапіў у гэтую пастку — згуляў сваю ролю ў прызначаным яму спектаклі. Ён быў удзельнікам і гледачом. І стаў саўдзельнікам забойства, калі сам абвінаваціў Сяргея Раманавіча ў смерці сястры.

Але Скарына не абвяргаў ягоныя довады. І навошта гэтым разам Шумскаму спатрэбілася пакідаць белыя сляды ў доме? Ці гэта ўсё ж быў не Шумскі?..

Вітушынскі адчуў, што зусім перастаў разумець хоць што-небудзь у гэтай заблытанай гісторыі. Прэч! Прэч з гэтага горада, чорт яго бяры! Прэч ад гэтых загадак, ад якіх можна звар'яцець. Пазбаўце, пазбаўце мяне ад далейшага разблытвання гэтага клубка каханняў і забойстваў, слядоў і высочванняў, здрадаў і подступаў.

Антон падхапіў свой саквояж і, не слухаючы гаманы суседак па лавачцы, якія ўзяліся абмяркоўваць хітрасці квашання капусты на зіму, рушыў у бок чыгункі. Падыходзіў цягнік.

# ВУАЕРЫСТ

* * *

Ego. Жнівень 1982–2002

У маім эсэсэраўскім малалецтве не было піп-шоу. Увогуле, у СССР шмат чаго не было. Але тое, што ў ім не існавала піп-шоу, мне падаецца найважнейшым.

Першымі кабінкамі для піп-шоу па-савецку для мяне сталі пляжныя. У зялёную фанерную загарадку, дзе пераапраналіся жанчыны, было вельмі зручна зазіраць зверху — пагатоў пляж месціўся ля падножжа ўзгорка. Стаўшы са складным тэатральным біноклем наверсе гары, я рабіў выгляд, што назіраю за процілеглым дняпроўскім берагам. Насамрэч мой позірк быў прыкуты да буяння плоці, што вяршылася ў пляжнай кабінцы. Ад лішку вялікіх і малых жаночых грудак (а большага разгледзець усё адно не ўдавалася) я, мабыць, разгубіўся і страціў пільнасць. Вяртанне да рэчаіснасці было нечаканым і непрыемным.

Мой бінокль апынуўся ў руках трох старэйшых хлопцаў — ім было гадоў па 17. Ім таксама карцела палюбавацца жанчынамі ў пляжнай кабінцы.

— Глянь-ка, малы ўладкаваўся лепш за нас! — руды важак прагна ўзіраўся ў акуляры бінокля. — О, якія цыцкі!

З гэтымі словамі ён даў магчымасць палюбавацца на грудзі аднаму з сваіх карашоў — худому, у цяльняшцы.

Шанцаў забраць сваю маёмасць у трох старэйшых пацаноў я не меў. Таму проста стаяў побач і чакаў зручнай нагоды — вырваць і ўцячы.

Нагоды не надарылася, а бегчы давялося зусім не так, як я меркаваў. Хлопцы з крыкам «Атас!» самі сарваліся з месца, мне заставалася проста даганяць іх.

Калі ўтаптаная паркавая сцежка змянілася шурпатым асфальтам, кампанія спынілася. На дзіва, мне аддалі бінокль

без асаблівых просьбаў з майго боку. Не было нават тычка ў спіну, да якога я быў маральна падрыхтаваны.

Крыху пабадзяўшыся па аршанскіх вуліцах, я вярнуўся да пляжа. Знаёмая сцежка, хаатычна парослыя ліпы і таполі — і... міліцыянты, якія выслухоўвалі пузана ў сініх трэніках, абвіслых на каленях. Дзядзька, відавочна, нядаўна падняўся з пляжа, бо на ім нічога не было, акрамя гэтых самых трэнікаў і жоўтых в'етнамак на нагах. Сівы падрост на грудзях пагрозліва тапырыўся, калі пузан тлумачыў міліцыянтам:

— Вось тут яны стаялі і заглядалі ў кабінку ў бінокль. Падшыванцы, пацаны...

Міліцыянты пагаджаліся з дзядзькам і лянотна запісвалі штосьці ў свае нататнікі.

Маё сэрца шалёна калацілася, калі я праманаў гэтую кампанію...

Пазней стрыптыз я глядзеў у грамадскіх прыбіральнях у гарадскіх парках. У парку з атракцыёнамі грамадская прыбіральня хавалася ў зацені старых ліпаў. Казалі, што закладзены парк быў пры першай расійскай імператрыцы, якая заваявала гэты горад. Што праўда, прыбіральня ўзнікла не пры ёй — значна пазней. Сценкі кабінак былі аздобленыя надпісамі і карцінкамі, якія проста чаравалі падлеткавы розум. Сарцірныя фрэскі эпохі позняга сацыялізму настойліва сцвярджалі: каханню падуладныя не толькі ўсе ўзросты, але і ўсе тэрыторыі.

Аднак яшчэ больш чаравалі дзірачкі, прасвідраваныя паміж жаночымі і мужчынскімі кабінкамі. Стаіцца ў кабінцы, прытоена дыхаць, каб здавалася, што там нікога няма, і — чакаць. Жанчына, якая не ведае, што за ёй назіраюць, распранаецца зусім не так, як дамарослая стрыптызёрка. Без штучнай запаволенасці. Часам — празмерна спяшаючыся...

Пазней я хадзіў у стрып-клубы, зазіраў на піп-шоу. Усё не тое. Штучнасць і знарочыстасць паводзінаў на сцэне бянтэжылі. Ніякага задавальнення.

Менавіта паходы ў стрып-клубы падказалі мне адну думку. Я набыў сабе начную оптыку і стаў бавіць цёплую пару года ў гарадскіх парках сталіцы. Вывучыць магчымыя

зацішныя месцы можна ўдзень. Увечары ж, калі прыцемкі спрыяюць закаханым парачкам, трэба толькі зручней уладкавацца ў загадзя прыгледжаным сховішчы. Якія жарсці палаюць уначы ў паркавым зарасніку! Калі б Майсей мог паглядзець на свет праз маю оптыку, ён бы перадумаў наконт Боскага паходжання Неапалімага Куста...

Я вывучыў гарадскія паркі як свае пяць пальцаў. Думаю, пры неабходнасці я мог бы ладзіць па іх экскурсіі ды паказваць парачкам самыя прытоеныя месцы — тыя, дзе іх бы ніхто не пабачыў. Акрамя мяне, вядома.

Калі б я быў постмадэрнісцкім паслядоўнікам Борхеса, я мог бы скласці своеасаблівую класіфікацыю начных наведнікаў паркаў. У адны з іх хадзілі студэнты — побач пераважалі ўніверсітэцкія інтэрнаты. У другіх сталымі наведнікамі былі маладыя рабацягі.

З мяне мог бы атрымацца нехта кшталту паркавага Брэма. Дзякуй богу, што я не аматар складаць каталогі...

У гэты чэрвеньскі вечар я стаіўся на ліпе ў цэнтральным дзіцячым парку. Цэнтр горада, студэнты, інтэлігенцыя. Зрэшты, у момант любошчаў розніца паміж людзьмі невялікая — рабацягі яны, студэнты ці, напрыклад, лекары...

Ліпа, на якой я прытуліўся, была ўгледжаная мной даўно. Зручны надзейны сук быў нібы знарок прыдуманы для таго, каб на ім уладкаваць назіральны пункт. Цэйсаўскі бінокль начнога назірання — чым кепская тэхніка для аматара?

Вядома, у мяне здараліся ночы без улову, калі ніводная парачка не выбірала для любошчаў «мой» парк. У такія ночы я суцяшаў сябе тым, што кожнаму з мінакоў прыдумляў уласную гісторыю. Вось, напрыклад, той раварыст у паласатай бела-сіняй майцы едзе з позняй працы дадому, дзе яго чакае накрыты стол. А вось гэты мужчына сярэдніх гадоў у пацёрханым пінжаку нікуды не спяшаецца, бо дома ў яго ёсць хіба што рыбка ў акварыуме. Дый яна чакае не яго, а корму...

Я сядзеў на тоўстым суку ліпы і разумеў, што дзіцячы парк сёння не адкажа мне ўзаемнасцю. Оптыка паказвала

безнадзейна застылую карцінку з аднымі і тымі ж дрэвамі ды кустоўем. Я ўжо мерыўся пакінуць свой назіральны пункт, калі маё памкненне спыніў няспешны, упэўнены ў сабе рокат матора. Акуратная, дагледжаная чырвоная «Мазда» спынілася недалёка ад маёй ліпы. Два мажныя мужчыны ў спартовых строях выцягнулі з задняга сядзення трэцяга і кулём кінулі пад ногі.

Я застыў, зліваючыся з дрэвам у адну істоту. Знізу да мяне даносіліся толькі асобныя словы:

— Дык што, не скажаш?.. Сам думай... Цацкацца не будзем! Аддай стужку... нідзе няма — мы ўсю кватэру агледзелі...

Мужчына, які ляжаў на зямлі, адказваў нешта зусім нягучна. Мне не ўдавалася дачуць нават ягоны голас, не кажучы пра нейкія хаця б больш-менш разборлівыя словы.

Абодва «спартоўцы» нерваваліся ўсё больш. Адзін з іх увесь час пазіраў у бок «Мазды», дзе на месцы кіроўцы бліскаў агеньчык цыгарэты.

Толькі дзякуючы таму, што я дагэтуль не выпусціў бінокль з рук, мне ўдалося заўважыць, як махнуў рукой мужчына, што ляжаў на зямлі. Нешта невялікае адкацілася проста пад ліпу, на якой усё яшчэ быў я. «Спартоўцы», відаць, гэтага руху папросту не заўважылі.

Унізе між тым працягвалася размова:

— Ну што ж, сука! Не ты адзін...

Я нават не зразумеў спярша, што за гук раздаўся ўнізе. Ад яго мужчына тарганууўся і знерухомеў. У руцэ аднаго са «спартоўцаў» я ўгледзеў пісталет, які ён звыклым жэстам сунуў некуды на бок.

Спакойна павярнуўшыся ад забітага, абодва мужчыны зноў селі ў аўто. Гэтак жа няспешна, як прыехала, «Мазда» ад'язджала. Я ляжаў нерухома, пакуль гук матора не зліўся з іншымі начнымі шумамі.

А вось цяпер трэба было як мага хутчэй знікаць адсюль. Мне не падабалася перспектыва сустрэчы ані з міліцыянтамі, ані з выпадковымі мінакамі. Падганяла і думка пра тое, што

начныя візіцёры, якія прыязджалі да «маёй» ліпы, могуць вырашыць, што яны нешта забыліся...

Калі я саскочыў на зямлю, пад нагой нешта хрупнула. Так і ёсць — я раздушыў нейкую пластмасавую пушачку. Нагнуўся — у расціснутай каробачцы ляжала фотастужка. Няма сумневу, гэта было тое, што выкінуў забіты мужчына. І менавіта яе, хутчэй за ўсё, шукалі яго забойцы... Забраць з сабой ці пакінуць тут? Думкі мітусіліся ў маёй галаве ашалелымі ластаўкамі, пакуль я стаяў, утаропіўшыся позіркам у знаходку.

Калі я забяру пушачку, то рызыкую прыцягнуць да сябе масу розных непрыемнасцяў — і я пакуль нават не ўяўляю, што гэта за праблемы. Без сумневу можна сказаць толькі адно: праблемы сур'ёзныя... Але калі я не забяру яе, то дарэмнай будзе смерць гэтага незнаёмага мне чалавека. І ці змагу я сабе дараваць, што сам адмовіўся ад таямніцы, якая прасілася мне ў рукі?

Я сунуў каробачку ў кішэню і пабег з парку.

* * *

## Кміціч. Жнівень 2002

Магчыма, Павел Кміціч абраў для сябе прафесію журналіста не ў апошнюю чаргу з-за таго, што яна не мела пэўна акрэсленага працоўнага графіка. Маючы канкрэтную сферу дзейнасці, ён мусіў толькі перыядычна паведамляць рэдактару пра тое, над чым працуе. У рэдакцыі звыкліся з тым, што час прыходу Кміціча не мог бы прадказаць не толькі ён сам, але і ўсе сіноптыкі з аўгурамі ды шаманамі, разам узятымі.

Галоўны рэдактар Аляшэўскі бурчэў на непунктуальнага супрацоўніка, але звальняць не спяшаўся. Па-першае, таму, што матэрыялы ў газету Кміціч здаваў своечасова, а ягоныя бязладныя прыходы ў рэдакцыю выглядалі хутчэй на багемную разбэрсанасць і легкадумнасць, чым на абыякавасць да працы. Па-другое, большасць матэрыялаў Кміціча станавіліся хітамі нумара: іх цытавалі, іх абмяркоўвалі, перадрукоўвалі на інтэрнэт-сайтах, іх чакаў чытач.

Вось і ў гэты аўторак Аляшэўскі па звычцы, як здалося журналісту, прабурчэў:

— Кміціч, калі вы ўжо навучыцеся прыходзіць на працу своечасова? Можа, трэба падымацца раней? Як казаў класік, падымайся з нізін, сакаліна сям’я...

Павал зрабіў праставата-хітраваты выраз на твары:

— А што, адбылося нешта надзвычайнае? Мой матэрыял не паспелі вычытаць перад здачай нумара ў друк?

Ледзь заўважная ўсмешка кранула куточкі рота: чым ты мяне можаш папікнуць, калі працу я здаў у час?

Аднак на гэты раз Аляшэўскі быў настроены сур’ёзна, на жартаўлівы тон не паддаўся. Ён чуў баявы пранізлівы гул нябёсных сурмаў, якія пагрозліва выклікалі на сечу. У сэрцы сваім трывожным рэдактар адчуваў жах за краіну і ўадначас нібыта наяве чуў грозны пошчак вершнікаў. Аляшэўскі ад гэтага выкліку не ўхіляўся — ён заўжды годна прымаў бой. Праўда, сам на паядынкі не выходзіў. Іначай для чаго яму цэлы штат журналістаў? Ці ж ён не галоўны рэдактар?..

Рэдактар раздражнёна паглядзеў на журналіста паўзверх камп’ютара, нервова паёрзаў задам па скуранoй абіўцы крэсла.

Кміціч адчуў дзіўны дысананс у наступным пасажы: тон гучаў загадна, а вось сама фраза была пабудаваная як просьба.

— Трэба было б разабрацца з гэтымі дзіўнымі нападамі на навукоўцаў апошнім часам. Вы ж у курсе?

Павал згодна матлянуў галавой зверху ўніз.

— Дык правядзіце журналісцкае расследаванне, — цяпер голас Аляшэўскага не пакідаў сумневаў, што ягоны гаспадар набыў упэўненасць у сабе. Камандзірскі голас, начальніцкі. І фразы ўжо будуе не як просьбы, а як загады: «Шыхтуйся! Зважай!»

Калі дзверы за Кміцічам зачыніліся, Аляшэўскі вярнуўся да камп’ютара. Баявыя сурмы нябёсаў ужо не гучалі ў яго ўвушшу. Але нейкае водгулле іх яшчэ дрыжэла ў паветры. Услухоўваючыся ў яго, Аляшэўскі ўтаропіўся ў манітор ды так і замёр.

Антон Аляшэўскі не быў баязліўцам. Прынамсі, раней не быў. Ён згадаў, як юнаком (падумаць толькі — дзесяці гадоў не прайшло!) хадзіў на вулічныя акцыі апазіцыі. Сярэдзіна бурлівых 90-х цяпер згадвалася як дзіўны сон. Шматтысячныя маршы па вуліцах сталіцы, сутычкі з міліцыянтамі і амонаўцамі, масавыя хапуны мітынгоўцаў. Кроў на чалавеку, які быў на шэсці ўсяго за пяць метраў ад яго. Кроў тачылася з разбітай галавы праз самаробную павязку, пакрываючы пляча мітынгоўца барвовай скарынкай...

Своеасаблівым паваротным пунктам для яго стала размова, пачутая на адным з такіх шэсцяў. Аляшэўскі ішоў разам з усімі, адчуваючы сябе неад’емнай часткай вялізнага калектыву. Роўны з роўным, вольны з вольным!..

З гэтага ўзнёслага настрою яго вырвала размова за спіной. Калона акурат вывернула з-за павароту на вуліцу Першамайскую, дзе яе чакаў рэдзенькі шэраг салдатаў унутраных войскаў. Маладыя салдацікі глядзелі спадылба, стараючыся здавацца як мага больш суворымі, хаваючы свой страх за калючымі позіркамі.

— Ну, зараз трэба маладых наперад пусціць — хай яны прарываюць кардоны, гэта іхная справа. А мы ўжо ззаду за імі пойдзем.

Павярнуўшы галаву, Аляшэўскі ўбачыў, што прамаўляў гэтыя словы зусім яшчэ не стары мужчына ў пацёртай джынсоўцы. Ягоны калега (таксама не больш як пад сорак гадоў) моўчкі пагадзіўся з ім.

У гэты момант Антон адчуў, што замест аднаго агульнага арганізму ідуць вельмі адасобленыя адзінкі. Ён пачуўся самотным і пакінутым у адзіноце.

І тады Аляшэўскі зразумеў, што ніякага калектыву аднадумцаў няма. А сам ён не болей, чым пешка ў чыімсьці незразумелым эндшпілі. І адчуў, што сам хоча ставіць і здаваць пешкі. Ён на гэта здольны.

* * *

Кміціч. Жнівень 2002

Навукоўцы — асобная... не, не каста. Навукоўцы — асобная праслойка ў тым пірагу, які завецца грамадствам.

У большасці з іх свае, вельмі спецыфічныя адносіны з навакольным светам — своеасаблівае джэнтльменскае пагадненне: ты не ўблытваешся ў мае справы, а я — у твае. Асабліва гэта тычыцца навукоўцаў-гуманітараў. Вядома, уголас гуманітары наяўнасць такога пагаднення не прызнаюць. Наадварот, яны любяць дэманстраваць, што актыўна ўдзельнічаюць ва ўдасканаленні свету, але, як правіла, іхныя папраўкі тычацца правільнага ўжывання прыставак і прыназоўнікаў, нагрувашчання філасофскіх і мастацтвазнаўчых тэрмінаў у абмеркаванні палп-фікшн і трэцягатунковых баевікоў ды гарачых спрэчак наконт сапраўднасці пракапанага полацкімі езуітамі падземнага ходу да самага Ватыкана. Рэчы гэта ўсе, безумоўна, важныя — для ўпарадкавання светабудовы няма нічога нязначнага, і часам менавіта ад дробязі залежыць дасканаласць. Гадоў дваццаць-трыццаць таму менавіта такія пытанні прыносілі навукоўцам палымяную любоў масаў і паблажліва ўручаныя дзяржавай прэміі.

Аднак слушна сказаў паэт — няма таго, што раньш было. І новыя часы паставілі паміж сабой і гуманітарамі надзейную заслону, сатканую з меркантыльнасці і выгады. Гуманітарныя навукі прамой карысці ні дзяржаве, ні бізнэсу не прыносілі, таму былі адштурхнутыя на ўзбочыну жыцця. Гуманітары з уздыхамі згадвалі савецкія часы, назіраючы, як па гэтай самай дарозе жыцця міма іх едуць бліскучыя «мерсэдэсы», дагледжаныя «мазды» і поўныя ўнутранай самапавагі «лексусы».

Тым больш нечаканым стала ўварванне гэтага самага жыцця да гуманітараў. Яно, як разяватая хатняя гаспадыня, усхвалявана пляснула ў далоні: Госпадзе, я ж забылася на гэтых!..

Што праўда, самім гуманітарам такая ўвага наўрад ці спадабалася: надта ж непрывабным бокам павярнулася жыццё да іх.

Кміціч рабіў для сябе пералік. Трэцяга жніўня невядомыя напалі на гісторыка літаратуры Лямзеса. Яго збілі да страты прытомнасці (потым абследаванне паказала зрушэнне мозгу) і абчысцілі кішэні.

Наступная ахвяра з'явілася праз некалькі дзён — тэатральнага рэжысёра Мазліўскага каля ўласнага дома перастрэлі трое незнаёмцаў. У выніку рэжысёр атрымаў перала̀м нагі. Кішэні ягонага пінжака таксама не засталіся некранутымі. Як і першы напад, гэты адбыўся практычна ў цэнтры сталіцы.

Яшчэ праз тыдзень, 16 жніўня, хтосьці збіў журналіста Бляшнера. Жыхар ускраіннага мікраараёна Чыжоўка, Бляшнер нават не паспеў пабачыць, колькі было нападнікаў — яго стукнулі ззаду, калі журналіст падыходзіў да свайго пад'езда. Партманэт Бляшнера, натуральна, знайшоў сабе новага гаспадара... Сам журналіст жартаваў, што яму пашанцавала: лякарня, у якую ён трапіў, месцілася насупраць ягонага дома. «Жыў насупраць лякарні — цяпер жыву насупраць свайго дома», — раз-пораз паўтараў ён зашмальцаваны жарт...

У спіс Паўла набраліся навукоўцы-гуманітары, выкладчыкі, пара мастакоў і нават адзін акцёр.

— Ха! — пачуў ён за спінай голас. — Складаеш спіс крэдытораў?

— Ахвяраў! — саркастычна адказаў Кміціч і павярнуўся да калегі.

Сяргей Рак угледзеўся ў спіс:

— Ого! Дык ты збіраешся стаць серыйным маньякам-забойцам? Тут жа з добры тузін імёнаў. Э, не-е! Гляджу — ты не проста ў серыйныя маньякі сабраўся: не дае спакойна спаць слава Герастрата? У цябе ж не спіс, а цэлы іканастас! Альбо шыльда пад назвай «Іх імёнамі названыя»...

Рак удаваў з сябе крутога хлопца. Стрыжаны «пад нуль», у спартовай вопратцы, цяжкіх берцах, ён больш нагадваў скінхэда, які спадылба цікаваў за навакольным светам: каму тут яшчэ варта заляпіць у табло? Трымаючыся стылю, ён раз-пораз адпускаў цяжкавата-цынічныя жарты. Зрэшты,

гэты антураж дапамагаў яму знаходзіць агульную мову са спартовымі фанатамі і вулічнымі тусоўкамі. У рэдакцыі не было лепшага за яго знаўцы гэтага брутальнага свету.

Рак яшчэ раз угледзеўся ў спіс Кміціча:

— Што ты думаеш з гэтым рабіць?

Павал патлумачыў: рэдакцыйнае заданне — высветліць, што аб'ядноўвае ўсе гэтыя выпадкі. Рыбіны вочы калегі нечакана блікнулі:

— А калі высветліш? Будзеш браць інтэрв'ю ў нападнікаў?

— Няўжо ведаеш іх? Нехта з твайго кантынгенту? —насцярожыўся Кміціч.

Не, такіх пагалосак Рак не чуў. Але паабяцаў паведаміць прыяцелю, калі штосьці даведаецца.

Капітан міліцыі Дзерашонак паспеў стаміцца даўно — яшчэ пры савецкай уладзе. Стаміцца ад службы, ад калег, ад затрыманых, ад жонкі, ад невысокіх заробкаў і цеснай кватэры. Дзерашонак стаміўся ад жыцця і адзіны супакой бачыў у выпіўцы. Піў ён няшмат, у запоі не зрываўся, але гарэлка стала ягонай пастаяннай спадарожніцай. Заўсёды чырванаватыя вочы сведчылі, што капітан спіць занадта мала. На твары трывала замацаваўся тупавата-азадачаны выраз.

Вось і цяпер міліцыянт ніяк не мог зразумець, чаму менавіта да яго прычапіўся назолісты журналіст. Ну так, ён, капітан Дзерашонак, вядзе расследаванне гэтай справы пра збітых навукоўцаў. Але, на яго думку, тут няма нічога надзвычайнага: проста вулічная шпана спакусілася лёгкай спажывай, бяскрыўднымі дзядулькамі. Такіх мардабояў у горадзе штодня па дзясятку бывае. І калі б пабітыя былі простымі пенсіянерамі, то гэтыя напады нікуды далей за міліцэйскія зводкі нават не выйшлі б...

— Праўда, вось тут быў яшчэ адзін выпадак, — Дзерашонак задуменна пачухаў патыліцу. — Але з ім разбіраемся не мы... Карацей, аднаго такога забілі сёння ў парку. Нейкі Рыбнік Анатоль Іванавіч. А гэтую справу ў нас забралі следчыя — іхная дзялка. Дый не падобная яна да ўсіх ранейшых напа-

даў: на яго не на вуліцы напалі, а на машыне ў парк прывезлі — там сляды шынаў засталіся...

* * *

Якабіні. Студзень 1918

Вершнік змрочна хутаўся ў шынель, але гэта мала дапамагала. Сцюдзёны студзеньскі вецер працінаў наскрозь: ён прабіраўся не толькі пад вопратку, але, здавалася, нават абдзіраў мяса з костак. Пачатак 1918-га быў непрыязным.

Ветру было недастаткова адзінокага вершніка на халоднай аршанскай вуліцы. Вецер шкуматаў абрыўкі абвестак на афішнай тумбе, ператвараючы яе ў каляровага арлекіна, які размахвае рукамі ў дзівоснай пантаміме.

*Сінагога Палякова запрашае на вечар, прысвечаны памяці Тэадора Герцля. Пасля дакладаў чакаецца дыспут на тэму «Дзе яна, Зямля абяцаная?».*

*Спяшайцеся на новую фільму! Журботная гісторыя дзяўчынкі-сіраты і заслужаная ўдача! Улюбёнка публікі па абодва бакі акіяна Мэры Пікфард у карціне «Маленькая прынцэса»!*

*Дзеля патрэбаў працоўнага народу партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў ладзіць латарэю-алегры! Запрашаем у былы Афіцэрскі клуб!*

На пажаўцелым і амаль заклееным плакаце *«Усю ўладу Устаноўчаму Сходу!»* нехта ад рукі дапісаў: «Далоў бальшавікоў — германскіх агентаў!»

Вершнік занурыўся ў свае думкі. Ён вырас у Воршы. У дзяцінстве ён бегаў па гэтых вулках. Потым лёс закінуў яго ў іншыя гарады, іншы край адкрываўся перад ім. Ваенная куламеса перамяніла ўсё: яго, ротмістра Рышарда Якабіні, зноў занесла ў родны край. Цяпер ён камандуе Першым беларускім конным палком, які стаіць у некалькіх вёрстах ад Воршы, у мястэчку Барань.

Раней усё было ясна: быў цар, і ўсе наўкола былі яго падданыя. Потым не стала ні цара, ні падданых — прыйшла свабода і Часовы ўрад, усе сталі грамадзянамі. Якабіні прыняў гэтыя перамены ўсім сэрцам. Ён змалку чуў сямейнае

паданне, што іхны род паходзіць ад французскага афіцэра, які прыйшоў на гэтую зямлю разам з напалеонаўскім войскам. Цяжка паранены ў адным з баёў, продак надоўга злёг у ложак — да мясцовай шляхцянкі. Калі акрыяў, то даведаўся, што даганяць Вялікую Армію няма сэнсу — на радзіме да ўлады вярнуліся Бурбоны...

Ротмістру хацелася думаць, што ягонага продка натхнялі вялікія ідэі французскай рэвалюцыі — Вольнасць, Роўнасць, Братэрства. І менавіта праз іх ён узяў прозвішча Якабіні.

Не выключана, што прозвішча паходзіла ад імя Якоб, але гэтую думку ротмістр паблажліва адганяў ад сябе. Ён нават адмахнуўся рукой — ці то сапраўды ад думкі, ці то ад снегу, які ляцеў у твар.

Вершнік ехаў па вуліцах сваіх дзіцячых успамінаў.

Па гэтых вуліцах ён ішоў з бацькамі. Сёння бацькі далёка — уцяклі ад вайны на ўсход, некуды пад Яраслаўль. «Бежанцы» — дзіўнае і страшнае слова...

Дняпроўскі праспект і касцёл святога Язэпа — сюды ён прыходзіў размаўляць з Богам. Аднак сёння ягоны шлях не да касцёла, сёння Якабіні ехаў да зямной улады. Яму, камандзіру Першага Беларускага коннага палка, трэба дасягнуць згоды з гарадскім Саветам: коням трэба фураж, людзям — харчаванне, і атрымаць гэта трэба законным шляхам. Бо варта толькі адзін раз папусціць марадзёрам — і з дысцыплінай у палку можна развітацца назаўжды.

Ён прышпорыў каня.

Аднак на адным з паваротаў ротмістр пабачыў настолькі незвычайную карціну, што мусіў запыніцца. У невялікім завулку пяцёра салдатаў у шынялях атачалі кітайца, павольна сціскаючы кола. Барадаты трымаў напагатове штык, павольна водзячы ім убакі. У руках другога вершнік пабачыў дрын, нібы выдраны з агароджы. Трэці быў узброены сякерай. Астатнія двое ў руках не трымалі нічога.

Пра кітайцаў у Воршы Якабіні чуў — іх прывезлі сюды яшчэ ў шаснаццатым годзе з Далёкага Усходу капаць акопы ды ствараць запасную лінію абароны. Некалькі тысяч кітайцаў былі размеркаваныя па розных гарадах Усходняй

Беларусі. Былі яны і тут. Праўда, Якабіні зазвычай бачыў, што трымаліся яны групкамі, па некалькі чалавек.

Гэты быў адзін. І ў руках у яго не было нічога, каб адбіцца ад штыка ці сякеры.

Здзівіла Якабіні не толькі гэта. Кітаец увогуле паводзіў сябе неяк дзіўнавата: ён скінуў свой нягеглы абутак і пытанцоўваў босымі нагамі на падмерзлай зямлі.

— Што, ходзя, халодна табе? — прасіпеў барадаты. Ягоны голас быў напалены такой нянавісцю, што здавалася, быццам гэта яна, нянавісць, падагравала словы, і таму яны вывальваліся ў студзеньскае паветра з воблачкам пары.

Кітаец нічога не адказваў, толькі пільна паглядаў навокал, не спыняючы свой дзіўны танец.

Якабіні хацеў ужо ўмяшацца ў самасуд — у тым, што адбываецца менавіта самасуд, ротмістр не меў цяпер ні каліва сумневу: абразлівая мянушка, ужытая барадачом, пацвярджала гэта. Але ў той жа момант кітаец з дзікім крыкам падскочыў, выкінуўшы наперад адну нагу і крутануўшыся ў паветры. Барадач, так і не паспеўшы зразумець, што адбываецца, адляцеў на метры тры ў бок Якабіні і асеў, быццам гурба снегу. Штык апынуўся пад абмяклым целам.

Працягваючы свой танец і нешта лапочучы, кітаец падскочыў да салдата з дрынам. Такога Якабіні яшчэ не бачыў ні разу ў сваім жыцці: лёгкая жоўтая фігурка скарыстала дрын у чужых руках як трамплін для скачка ў вышыню. Пры гэтым ён паспеў стукнуць уладальніка дрына пяткай у галаву, так што той страціў прытомнасць.

Прызямліўшыся паміж двух бяззбройных салдатаў, кітаец рэзка выкінуў рукі ўбакі. Абодва яго праціўнікі адляцелі, не вымавіўшы ні слова. Не аглядаючыся на іх, кітаец пачаў наступаць на вайскоўца з сякерай — адзінага, хто паспеў ачуняць ад такога нечаканага націску. Вайсковец па-мядзведжаму зароў і кінуўся наперад, размахваючы сякерай. Здавалася, што кітаец толькі таго і чакаў: ён нечакана кульнуўся пад ногі нападніка, і калі той зваліўся, стукнуў яго ззаду. Большага, бадай, было і не трэба — жаўнер з сякерай знерухомеў.

У гэты момант Якабіні пабачыў, што барадач, які выйшаў з бойкі першым, ужо ачомаўся, аднак падымацца не спяшаецца. Ягоная рука слізганула пад шынель, і ротмістр саскочыў з каня, баючыся, што запозніцца. Калі рука барадача з выцягнутым браўнінгам выпрасталася ў бок кітайца, Якабіні ўдарам нагайкі выбіў у яго зброю. Ад нечаканага ўдару той ускрыкнуў, а потым азірнуўся, каб пабачыць, што за нечаканую дапамогу атрымаў кітаец.

— Афіцэ-эрчык... — у голасе барадача прагучала лютая, звярыная нянавісць. — Пачакай, вашбродзь...

Як выявілася, кітайца звалі Лю Янь. Пра гэта ён паведаміў ротмістру, за якім пайшоў, бесперастанку дзякуючы, прыціскаючы рукі да грудзей і нізка кланяючыся. Больш за ўсё Якабіні здзівіўся таму, што выратаваны ім азіят даволі няблага гаварыў па-тутэйшаму, калі, вядома, не зважаць на акцэнт. Прынамсі, з разуменнем сказанага ў ротмістра праблемаў не ўзнікала.

— За што яны цябе біць хацелі?

— Мая баба крыўдзілі, Верка. Я заступіцца лез.

З расповеду кітайца Якабіні зразумеў, што той ужо некалькі месяцаў жыве з удавіцай-салдаткай. Днямі на базары да яго Веркі прычапіўся барадач, якому не спадабалася, што «жоўтая бізяна з нашымі бабамі ходзіць». Праўда, пабіцца ім на базары не далі — развялі ў розныя бакі. Але барадач, відаць, вырашыў папомсціцца і падпільнаваў Лю Яня ў бязлюдным завулку. І нягледзячы на ўсё майстэрства азіята, той не змог бы ўберагчыся ад кулі з браўнінга. І за гэта цяпер Лю Янь працягваў дзякаваць афіцэру.

Якабіні адмахнуўся:

— Не варта! Лепш навучы мяне так біцца голымі рукамі.

Пагадзіліся на тым, што Лю Янь пачне заняткі з афіцэрам ужо з заўтрашняга дня.

* * *

Якабіні. Студзень 1918

Гарадскі Савет займаў будынак колішняга афіцэрскага сходу ў цэнтры горада. Масіўны будынак цвёрда ўпіраўся ў зямлю, быццам афрыканскі звер насарог. І для большага падабенства з экзатычным паўднёвым стварэннем ён выставіў наперад свой рог — флагшток з цяжкім чырвоным сцягам.

Над нізкай аднапавярховай Воршай рэдкія мураваныя дамы ў два-тры паверхі ўздымаліся, быццам нетутэйшыя. Занесла іх сюды з нейкага іншага горада невядомая сіла і пакінула стаяць. Калі б не высокія абрысы царкоўных вежаў ды купалоў, то, пэўна, і гэтыя будынкі з цяжкой чырвонай цэглы былі б адзінымі арыенцірамі ў горадзе. А так на правым беразе Дняпра над Воршай велічна плылі ў вышыні купалы царквы Апекі Божай Маці — былога базыльянскага касцёла, перапрацаванага пад праваслаўную царкву. На правым беразе з ім перагукаліся крыжы Ільінскай царквы, спрадвек праваслаўнай. Тамсама, на правабярэжжы, але ніжэй па Дняпры, ужо за горадам, былі відаць вежы Куцеінскай царквы — адной з самых славутых калісьці ў беларускім Падняпроўі.

Горад быў невялікі, ён яшчэ нават не паспеў дарасці да чыгуначнай станцыі Ворша — паміж ёй і гарадскімі ўскраінамі было некалькі кіламетраў чыстага поля...

Якабіні ўвайшоў усярэдзіну Савета. Дзверы, рыпнуўшы, глуха стукнуліся за спінай. У калідоры было цёмна, і ротмістр, спатыкаючыся, пайшоў на гоман галасоў.

Патрэбнага яму чалавека Якабіні знайшоў хутка. Той, аднак, адмаўляўся даць фураж і харчаванне без подпісу старшыні гарадскога савета.

— Трэба, каб таварыш Івакін зацвердзіў. Гэта ж цяпер не буржуйскае дабро, каб яго туды... Мы свайму брату — салдату — заўсягды паможам, але трэба подпіс таварыша Івакіна, — бубнеў невысокі чалавечак у пенснэ, не адрываючы вачэй ад стала. Перад ім астывала шклянка з кіпнем, да якой чалавечак раз-пораз працягваў руку.

Таварыша Івакіна ротмістр пабачыў у прадымленым пакоі, дзе бляклае святло газніцы змагалася не столькі з вечаровай паўцемрай, колькі з сіняватымі тытунёвымі аблокамі. Пачуўшы, што ротмістр — мясцовы ўраджэнец, кіраўнік Савета ўзрадаваўся:

— Як, кажаш, цябе зваць?

— Якабіні.

— Вельмі добра! Вельмі добра, таварыш Якубеня, што ты сам адсюль. Гэта значыць, што і да людзей тутэйшых падыходы ведаеш. Пралетарыят — ён паўсюль пралетарыят, правільна? І працоўнае сялянства — яго бліжэйшы саюзнік. Але ж тут і не знойдзеш таго пралетарыяту! Лавачнікі, мяшчане, саматужнікі нейкія... Так і глядзі, каб пралетарыяту нож у спіну не ўваткнулі! Ну, нічога — з такімі воінамі, як твае арлы, хутка зробім сусветную рэвалюцыю. Вось тады і зажывем у міжнародным камунізьме: у кожнага палац будзе з мармуровымі калонамі, і ў кожным пакоі печка — каб узімку не мерзнуць!

— Пра сусветны пралетарыят не скажу нічога, — па твары Якабіні прабегла нейкая няўцямная грымаса. — Нам бы спярша ў сваёй, беларускай, хаце парадак навесці...

Івакін насцярожана паглядзеў на ротмістра:

—Нейкія ў цябе дробнабуржуазныя погляды, грамадзянін Якубеня. Глядзі, каб не апынуцца з такімі думкамі ў шэрагах ворагаў рэвалюцыі... Працоўны народ двудушнасці не пацерпіць!

Якабіні зразумеў, што прыспеў час для тактычнага манеўру. Пазіраючы раз-пораз у вакно, за якім панавалі ўжо хуткія зімовыя прыцемкі, ён прамовіў:

— З нас, кавалерыстаў, зазвычай кепскія стратэгі: не заўжды можам ацаніць шырыню ахопу. Таму я, мабыць, і не даслужыўся вышэй за ротмістра. Сваім палком камандаваць і гаспадарыць у ім магу. А вось далейшыя вяршыні не даюцца мне... Тое ж, мабыць, і з рэвалюцыяй — як беларускую хату ўладкаваць, разумею. А вось сусветныя маштабы не агораю — перспектыва для мяне задужа вялікая.

Івакін уважліва паглядзеў на камандзіра палка, але далей дыскусію працягваць не стаў. Паставіў подпіс пад неабходным дакументам і дадаў:

— Але сусветная рэвалюцыя нас чакае!

* * *

Кміціч. Жнівень 2002

Кміціч імкліва ўвайшоў у шматпавярховы будынак Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук: тут ён мусіў сустрэцца з адным з пацярпелых навукоўцаў — Вячаславам Грамцом. Намаўляць да сустрэчы давялося доўга: навуковец відавочна не хацеў сустракацца. Але, з другога боку, адчувалася, што адмаўляць ён таксама не звыкся — прынамсі, у жыццёвых справах. У навуцы (Кміціч памятаў) Грамец паводзіўся іначай: нядаўна ён скандальна і гучна падтрымаў адну з кандыдацкіх дысертацыяў па мове, калі работа не спадабалася начальству. Прычына была не ў якасці самой працы, а ў асобе дысертанта — аўтара апазіцыйных газетаў і неаднаразовага выступоўцы на Радыё «Свабода». Да таго ж, і тэма была «слізкая»: дысертант абараняў пазіцыі аднаго з эмігранцкіх мовазнаўцаў. Акадэмічнаму (дый інстытуцкаму) начальству вельмі не падабалася тэма дысертацыі, але абарона ўсё ж прайшла паспяхова. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы заступніцтву Грамца.

Сам Кміціч з Грамцом да таго знаёмы не быў і не сустракаўся. Па высокім голасе ў тэлефоннай слухаўцы ён уяўляў сабе танклявага чалавека — гэткую жардзіну. Насамрэч Грамец быў прысадзістым азызлым таўстуном. Дома такія ходзяць у зашмальцаваных майках з брэтэлькамі, любяць піва і смажаныя свіныя скабачкі. Тонкі голас не стасаваўся з гэтым чалавекам: узнікала ўражанне, што недзе ўсярэдзіне Грамца стаіць гукавы фільтр, які прапускае вонкі толькі высокія ноты.

Невялікі акадэмічны кабінет Грамца залівала ранішняе сонечнае святло: вялікае вакно выходзіла на ўсходні бок. Кміціч звярнуў увагу на дзве кніжныя шафы абапал дзвярэй. Там стаялі кнігі на беларускай, рускай, польскай, чэшскай,

балгарскай мовах, там-сям пракінуліся некалькі выданняў па-ангельску і па-нямецку. Некаторыя карэньчыкі Кміціч не змог прачытаць: мову ён апазнаў як славянскую, але ідэнтыфікаваць не змог. Незнаёмыя літары пракідаліся цьмяным залатым бляскам...

Грамец не прапанаваў журналісту ні кавы, ні гарбаты — спяшаўся чым хутчэй і амаль дэманстратыўна пазбавіцца размовы на непрыемную тэму. Кміціч дастаў дыктафон і паклаў на стол:

— Прабачце, я разумею, што гэтая размова вам непрыемная. Мне таксама, відаць, не дужа спадабалася б размаўляць пра такое... Але мы, наша рэдакцыя, лічым, што тут справа не асабістая, а грамадскага значэння. Калі б ахвярай сталі адзін-два навукоўцы — гэта адно, а калі лік падышоў да дзясятка — гэта зусім іншая справа.

Кміціч стараўся пераканаць суразмоўцу, што не збіраецца неяк паразітаваць на тэме пацярпелых, што не хоча пісаць бульварна-скандальны артыкул. Здаецца, атрымалася: навуковец троху расслабіўся, але адказваў усё ж неахвотна.

— Няма чаго асабліва расказваць... Я вяртаўся дадому пасля працы, пазнавата ўжо было, цёмна. Каб зрэзаць дарогу, пайшоў праз двары і нарваўся на кампанію з маладых хлопцаў — чалавек чатыры-пяць іх было. Яны на мяне напалі, стукнулі па галаве нечым, вырвалі партфель з паперамі, — высокі голас Грамца знізіўся амаль да паўшэпту-паўсвісту. Пальцы ягоныя мітусліва бегалі па паверхні стала, выдаючы нервовасць.

— А яны штосьці казалі? Да вас звярталіся? Ці, можа, між сабой пра штосьці гаварылі, на што вы звярнулі ўвагу? — хутка запытаўся журналіст.

— Ды не, — задумаўся Грамец. — Здаецца, нічога незвычайнага, проста мацюкаліся...

І дадаў з ледзь заўважнай усмешкай:

— З лінгвістычнага гледзішча іх размова цікавасці не ўяўляла.

— А збілі вас моцна? Ніякіх пашкоджанняў не было? — у голасе Кміціча гучала спачуванне.

— Не, дадому дайшоў сам. Некалькі сінякоў можна не лічыць.

— А ў міліцыі што кажуць?

— Кажуць, што будуць шукаць, але надзея мізэрная, бо я ў твар нікога з нападнікаў не ведаю. Дый не запомніў неяк — мяне даволі хутка вывелі з ладу.

Кміціч на хвіліну задумаўся:

— А што было ў партфелі?

Грамец таксама памаўчаў, потым, вінавата пасміхаючыся, прамовіў:

— У прынцыпе, з усяго, што там было, для мяне найбольшую каштоўнасць уяўляюць распрацоўкі, датычныя стварэння Беларускага цэнтру. Астатняе: грошы, дакументы, — яно не настолькі важнае. А вось гэтыя распрацоўкі будзе не так лёгка аднавіць — зойме добры кавалак часу.

— Што за цэнтр такі? — усярэдзіне журналіста быццам прагучаў нячутны трывожны сігнал.

— Мы хацелі б стварыць такі навукова-асветны цэнтр, які б займаўся вывучэннем і прапагандай беларускай мовы, літаратуры, культуры. Вось як ёсць Маціца чэская, Маціца сербская... Альбо той самы Інстытут Польскі, так? Вось цяпер ідзе праца над стварэннем такога самага Беларускага цэнтра, які аб'яднаў бы высілкі ў гэтым напрамку, — голас Грамца набраў упэўненасці. Было відавочна, што гэтая тэма яму цікавейшая, тут ён пачуваецца ўпэўненым гаспадаром, а не сціплым просьбітам-хадайнікам, як у размове пра сваю асобу.

— А як вы думаеце, мог нехта, што называецца, паляваць на вашыя распрацоўкі? Можа, на вас напалі менавіта для таго, каб скрасці гэтыя паперы? — задуменна спытаўся Кміціч.

— Ну, каму яны патрэбныя?! — навуковец ажно ўзмахнуў рукамі, а на твары яго з'явілася іранічна-недаверлівая ўсмешка. — Вартасці для іншых яны проста не маюць. Імі немагчыма скарыстацца. Зрэшты, калі скарыстаюцца — усё адно ж на агульную карысць будзе.

Кміціч падумаў, што навуковец наіўна памыляецца: на распрацоўкі маглі паляваць якія-небудзь ворагі беларушчыны акурат дзеля таго, каб знішчыць паперы. На іх аднаўленне спатрэбіцца час, высілкі... А потым, як гаварылася ў старадаўняй усходняй байцы, здохне альбо хан, альбо ішак. Нездарма ж пару гадоў таму знікненне некалькіх апазіцыйных дзеячаў звязвалі з дзеяннямі ўлады. Сярод зніклых быў, напрыклад, тэлеаператар Завадскі. Прычыны ягонага знікнення спарадзілі вялікую колькасць версіяў.

Усё гэта журналіст і паведаміў Грамцу. Аднак той з недаверам паставіўся да словаў Кміціча — канспіралагічная тэорыя яму відавочна не падабалася. Навуковец пакруціў галавой, быццам яму муляў туга зацягнуты гальштук, і няўпэўнена працягнуў:

— Наўрад ці...

* * *

Якабіні. Студзень 1918

Труба спявала ранішнюю пабудку, але Рышард Якабіні ўжо не спаў: яшчэ да агульнага пад'ёму да яго прывялі кітайца, які дужа хацеў пабачыць камандзіра палка. Вартавы спрабаваў адагнаць надакучлівага кітаёзу, але ўрэшце выклікаў дзяжурнага, а ўжо той праводзіў кітайца да Якабіні.

Да здзіўлення ротмістра Лю Янь не стаў яго адразу вучыць практыкаванням, а стаў распавядаць нешта пра шлях, пра кодэкс і пра настаўніцтва. Потым прапанаваў называць яго на тутэйшы манер Янам — так, маўляў, будзе прасцей усім. А потым стаў вучыць.

Праўда, навучанне падалося ротмістру дзіўным: нейкія практыкаванні на дыханне, на засяроджанасць... Але ён не пярэчыў, толькі моўчкі дзівіўся.

Напрыканцы заняткаў майстар Ян пахваліў яго за паслухмянасць і стараннасць. На пытанне Якабіні, калі ж будзем вучыцца гэтым дзівосным ударам, кітаец хітра пасміхнуўся:

— Каб стварыць дасканалую рэч, і ста гадоў мала... На ўсё будзе свой час.

Сказаўшы гэта, ён пакланіўся ротмістру, дачакаўся яго паклону ў адказ і выйшаў за дзверы. Якабіні застаўся стаяць агаломшаны: не так уяўляў ён сабе навучанне ў кітайца. Няўжо хітры майстар Ян надумаў пасмяяцца з афіцэра? Здаецца, не было ў яго на гэта ніякіх падставаў. Дый паводзіўся ён ветліва і пачціва... Вядома ж, чалавек не арэх — не раскусіш. Ладна, пажывем — пабачым.

На гэтай думцы ротмістр і супакоіўся. Пагатоў, на сёння ў яго былі яшчэ і іншыя справы — да сябе ў госці на абед запрасіў былы гарадскі галава Страхановіч.

Якабіні міжволі падумаў, што гэтаксама ў якім-небудзь павятовым ці губернскім горадзе раней, у мірны час, запрашалі камандзіра палка, які праязджаў праз яго. Бацькі горада рыхтавалі падарункі, паненкі і паважныя матроны расфуфырваліся, даставалі стужкі, сукенкі, капялюшыкі... Праўда, у тыя часы ён, ротмістр, палком бы дакладна не камандаваў — узровень не той. Затое шчоўкаў бы абцасамі на балях, трымаў бы мясцовых прыгажунь у абдымках падчас галавакружнага вальса, завёў бы раман — паненкі проста млеюць ад кавалерыстаў. Не выключана, што меў бы і дуэль...

Цяпер жа, на чацвёртым годзе вайны, усе гэтыя нявінныя забавы падаваліся нечым далёкім і нерэальным. Пустым? Бадай што, не — рэальным, але менавіта цацачным, як елачныя ўпрыгожанні.

У рэальнасці ж была няпэўнасць і нявызначанасць. З франтавой куламесы, з пастаяннай змены ўлады яшчэ толькі мусіла нарадзіцца нешта новае. Нараджэнне гэтае ішло пакутліва, але не было тут нейкага падабенства з нараджэннем чалавека — бадай, больш нагадвала нараджэнне глінянай статуі з-пад рукі скульптара. Адно што скульптар быў не адзін — іх спаборнічала адразу некалькі, і пакуль было цяжка сказаць, чыя рука замацуе сваё вяршэнства...

Менавіта пра рукі Якабіні думаў, калі прыбыў удзень у дом Страхановіча. Колішні гарадскі галава крыху нервова выбачаўся, што час ваенны, што цяпер не да гучных прыёмаў, што новая ўлада вельмі коса пазірае на тых, каго грэбліва называе «былымі».

— Хаця, вядома, і сярод бальшавікоў трапляюцца вельмі прыстойныя людзі, якім я з радасцю падаў бы руку, — казаў Страхановіч. — Ведаеце, ёсць такі бальшавік Лепяшынскі, блізкі да Леніна? У нас з ім даўняе, шматгадовае ўжо знаёмства. Вельмі прыстойны асабіста чалавек! Мяркую, што нават з бальшавікамі можна было б супрацоўнічаць, калі б такіх людзей было больш. Але, на жаль, на жаль...

Якабіні слухаў Страхановіча і ніяк не мог зразумець, навошта яго запрасілі. Няўжо для таго, каб пахваліцца знаёмствам у вярхах новай улады? Ці экс-галава хацеў пазнаёміць камандзіра палка са сваёй дачкой Ляляй — шыкоўнай эмансіпаванай брунеткай, якая дыміла пахітоскамі і ўдавала з сябе жанчыну-вамп? Яна раз-пораз спыняла на Якабіні позірк — адначасова нейкі драпежны і замглёны мроямі. Аднак не падобна было, каб Страхановіч меў на ротмістра нейкія такія планы — ён амаль не пакідаў госця ні на хвіліну, тым больш сам-насам з дачкой.

Былы кіраўнік горада займаў асабняк на Петраградскай вуліцы — практычна ў самым цэнтры Воршы. Якабіні бачыў, што вайна амаль ніяк не зачапіла ні дом, ні дабрабыт яго насельнікаў. Посуд з саксонскай парцаляны, нябедны стол: малочныя парсючкі, астраханская сцерлядзь, шпарагі... Пасля страваў падалі каву — і зусім нават не жалудовую ці ячменную.

З усіх гасцей Страхановіча найбольшую ўвагу да ротмістра выказваў доктар Зархі. Экс-галава рэкамендаваў ротмістру Льва Барысавіча як «светлую галаву» і «чалавека рэдкага розуму».

— Мы яго ў Дзяржаўную Думу хацелі вылучыць, але сам адмовіўся, — з цёплай усмешкай казаў Страхановіч. — Вы пагаварыце з ім — самі пераканаецеся.

З гэтымі словамі гаспадар дома адышоў да іншых гасцей, нібы выканаўшы нейкую місію.

Доктар Зархі належаў да той жа нацыянальнасці, што і амаль палова ўсёй Воршы. Ніхто не памыліўся б, назваўшы яго габрэем: крыху вырачаныя вочы, кучаравыя чорныя валасы, якія пачалі злёгку сівець, невялікая гішпанская ба-

родка, што надавала яму крыху мефістофельскі выгляд. Ён глядзеў на афіцэра дапытліва, нібыта вывучаў сімптомы нейкага новага захворвання.

— Вы даўно з фронту, ротмістр?

— На перадавой не быў ужо некалькі месяцаў, зараз данчваю фармаванне палка. Але, шчыра сказаўшы, я ўжо трошку разгубіўся, дзе зараз праходзіць лінія фронту. З немцамі ўсё ясна — яны там, мы тут... Аднак мяне не пакідае ўражанне, што фронт цяпер не толькі перад намі, але і паўсюль вакол нас.

Зархі згодна паківаў галавой:

— Так-так. Фронт цяпер паўсюль, і часам бывае цяжка разабраць, за каго ваюе чалавек, які стаіць побач з табой... Новая ўлада спарадзіла вакол занадта шмат незадаволеных, ці не так? А гэта пагражае ёй самой — незадаволеныя могуць аб'яднацца.

Якабіні крывавата пасміхнуўся ў адказ:

— Але ж новая ўлада мае і шмат прыхільнікаў. Я так разумею, што вы кажаце пра бальшавікоў? Бо і Часовы ўрад быў не сказаць каб занадта стары.

Доктар схіліў галаву набок і заклаў рукі за спіну. Цяпер ён нагадваў бусла, які ўглядаецца ў ваду, цікуючы сваю здабычу — вось-вось ухопіць. Доўгі нос-дзюба нацэліўся на Якабіні, вочы пільна ўглядаліся праз шкельцы пенснэ:

— А вы, ротмістр, не такі просты, як падаецца на першы погляд... Ведаеце, я вам скажу як лекар. У нашай медычнай навуцы быў такі час у сярэднявеччы, калі большасць хваробаў лекавалі кровапусканнем: лічылася, што такім чынам можна выгнаць так званыя сапсаваныя гуморы — флегму там або жоўць... Як ні дзіўна, даволі часта гэтая мера дапамагала: штучна аслаблены арганізм кідаў усе сілы на змаганне з хваробай — і перамагаў.

Зархі прымоўк, трымаючы тэатральную паўзу.

— І вы лічыце, што нам зараз патрэбна вярнуцца да сярэднявечнай практыкі, але ўжо ў маштабах дзяржавы, а не чалавека? — крыва пасміхнуўся Якабіні.

Доктара гэтая ўсмешка, здаецца, ніяк не зачапіла. Ён працягваў углядацца ў твар суразмоўцы дапытлівым позіркам

даследчыка, якому трапіўся надзвычай цікавы экзэмпляр, мала вывучаны навукай. Нарэшце вымавіў:

— Надзвычай, надзвычай кемлівы... Толькі адна папраўка — не я так лічу, а жыццё да гэтага вядзе. За час вайны народ крыху знелюдзеў, азвярэў. Зброя ўжо ўспрымаецца як самы надзейны аргумент: чалавек з вінтоўкай зможа пераканаць у сваёй слушнасці любога Платона і Дэмасфена...

Зархі яшчэ крыху памаўчаў, нешта ўзважваючы ўнутры сябе, і дадаў:

— Менавіта таму так важна, каб вінтоўка заставалася ў руках тых, хто здатны пачуць дэмасфенаў.

Яго ўважлівы позірк не адрываўся ад Якабіні, быццам доктар хацеў зазірнуць у самыя глыбіні ротмістравай душы.

* * *

Кміціч. Жнівень 2002

Кміціч працягваў збіраць матэрыялы для свайго артыкула: ён размаўляў са збітымі навукоўцамі і творцамі, чытаў, што паспелі апублікаваць калегі з іншых выданняў. Хтосьці з пацярпелых пагаджаўся на сустрэчу, іншыя абмяжоўваліся толькі тэлефоннай гутаркай. Ён ніяк не мог знайсці штосьці агульнае ва ўсіх збітых. Літаратуразнаўца, гісторык-медыявіст, тэатральны рэжысёр, журналіст, пісьменнік... Ну гуманітарыі. Але што яшчэ лучыць гэтых людзей?

Паспрабуем разгледзець палітычную версію: уладныя «эскадроны смерці» калечаць творчую інтэлігенцыю і запалохваюць яе. Чым кепская працоўная версія? Пагатоў, і прыклады-аналогіі ўжо ёсць. Але стрэмкамі тырчаць у бакі факты, якія не дужа ахвотна кладуцца ў такую палітычную схему, вытыркаюцца з яе.

Кміціч прыгадаў гутарку з гісторыкам-медыявістам, спецыялістам па сярэднявечных старадруках Міхаілам Лявіцкім. Той на сустрэчу пагадзіўся ахвотна — можа, яму надакучыла праціраць крэслы ў расчытванні старадаўніх грувасткіх кніг-інкунабулаў, а можа, халерычны тэмперамент пастаянна патрабаваў пераменаў.

Праўда, версія пра тэмперамент прыйшла журналісту да галавы толькі тады, як ён непасрэдна пабачыўся з Лявіцкім. У невялікай кавярні, дзе яны дамовіліся спаткацца, невысокі Лявіцкі ствараў такі энергетычны тайфун, што здавалася, быццам ён адзін запаўняе сабой усё памяшканне. У пэўны момант Кміціч стаў баяцца, што яго суразмоўца якім-небудзь чарговым рэзкім жэстам перакуліць філіжанку з кавай, якая стаяла перад ім.

— У нас на ўсю краіну толькі з дзясятак чалавек вывучае старадрукі, разумееце? — Лявіцкі мала што не падскокваў, быццам сядзеў на адбойным малатку. — Дзясятак! А ў той жа Польшчы штогод толькі з аднаго ўніверсітэта столькі выходзіць!

Кміціч паспрабаваў уклінавацца ў халерычную прамову суразмоўцы, але марна — словы Лявіцкага несліся лавінай, і гэтая стыхія ўсё напірала, напірала:

— У наш час увогуле варта гаварыць пра агульнагуманітарны крызіс. Вы ж разумееце, што мы стаім на краі бездані. Чаму пра гэта не пішуць газеты — ваша, напрыклад? Чаму пра гэта не кажа тэлевізар?

Журналіст пагадзіўся, што можна казаць пра катастрофу, аднак імпэтнага навукоўца гэта не спыніла. Прычым думка яго пераскочыла па невядомай спіралі:

— Вось у тым выпадку, пра які вы кажаце, — напад гэты. Што, міліцыя шукае каго-небудзь? Ой, сумняюся!

* * *

## Якабіні. Люты 1918

Якабіні азіраўся па баках — памяшканне, у якое яго прыняла Ляля Страхановіч, выглядала даволі дзіўна. Асабняк на Афіцэрскай вуліцы стаяў у атачэнні некалькіх ліпаў, прыкрываючыся імі, як какетлівая паненка рэдкай вуалеткай. Уразіў ротмістра, аднак, не вонкавы выгляд дома — будынкаў у стылі псеўдакласіцызму ён у сваім жыцці бачыў нямала: два з трох правінцыйных асабнякоў мелі пры сабе калоны, порцікі ды іншую архітэктурную атрыбутыку ампіру.

Больш здзівіўся малады афіцэр унутранаму выгляду залы, у якую яго і паненку праводзіла служанка. Невялікае памяшканне было абклеенае чорнымі шпалерамі, на якіх тамсям пракідаліся залацістыя блёсткі. Цяжкія цёмныя фіранкі (аксаміт? плюш? — Якабіні не змог разгледзець) шчыльна самкнёнымі павекамі закрывалі вокны. Асвятленнем для залы служыла не электрычнасць і нават не састарэлыя газавыя ражкі — нічога падобнага тут і блізка не было, адны толькі падсвечнікі.

Правёўшы гасцей да залы, служанка пакінула іх, цішком перахрысціўшыся напаследак. Якабіні заўважыў гэта і спытаўся ў Лялі:

— Што за месца такое дзіўнае? І чаму мы тут? Выглядае дужа падобна да нейкай чорнай імшы ці яшчэ чагосьці гэткага...

Ляля ў адказ рассмяялася:

— Не чакала ад вас, ротмістр, такога цемрашальства. «Чорная імша»! Ха-ха-ха! Вы яшчэ раскажыце пра служэнне сатане ці яшчэ нешта падобнае... Не, тут у нас усё прагрэсіўна, не горш, чым у Пецярбургу... Ой, Петраградзе! І публіка падабралася вельмі, вельмі прыстойная.

Агулам у зале было не больш за тузін асобаў. Сапраўды, прысутныя наўрад ці надаваліся для нейкай чорнай імшы ці чагосьці падобнага. Сярод гэтай вельмі прыстойнай, па словах Лялі, публікі Якабіні пабачыў маладзенькага гімназіста з першымі сціплымі пазнакамі вусікаў, упэўненага чыноўніка з бародкай-эспаньёлкай, экзальтаваную паненку ў ружовай сукенцы з рукавамі-буф. Малады чалавек у тужурцы, у якім угадваўся нядаўні студэнт, нешта захоплена расказваў яшчэ дзвюм паненкам — тыя зачаравана глядзелі, як трусікі на ўдава. Адна з іх была ў валошкавым жакеце і маціцова-шэрай спадніцы, а на другой была зялёная сукенка з даволі смелым выразам на спіне. Прыслухаўшыся, Якабіні пачуў, што малады чалавек прамаўляе ў адным рытме, робячы паўзы, і зразумеў, што той дэкламуе вершы — бездакорны спосаб для заваёвы дзявочага сэрца ва ўсе часы і эпохі.

— Дык што тут будзе? Ляля, скажыце, калі ласка, — у голасе афіцэра прагучалі ноткі жартаўлівай просьбы. — А то

мяне зараз цікаўнасць замучыць і я пайду праз лінію фронту браць языка.

Дзяўчына зноў рассмяялася:

— Я вас прывяла на спірытычны сеанс, духаў выклікаць. Гэта так пікантна! Я ведаю, што ў Петраградзе гэта апошнім часам вельмі модна — пытацца ў духаў пра самае празнае. Ну, пра будучыню або пра мінуўшчыну.

Якабіні чуў пра спірытычныя сеансы, але ні ў адным з іх ніколі не ўдзельнічаў. Дзіўна для яго прагучала просьба зняць з сябе ўсе металічныя прадметы, але ротмістр падпарадкаваўся. З такой просьбай да ўсіх прысутных звярнулася гаспадыня дома Таццяна Бараноўская — эмансіпаваная з выгляду жанчына з пастаяннай іспанскай пахітоскай, якая дымілася ў яе руцэ. Яна ж вяла рэй і за сталом падчас спірытычнага сеансу. Адчувалася, што Бараноўская прывыкла да сябе ў галоўнай ролі ва ўсялякіх сітуацыях.

Ляля прашаптала маладому афіцэру на вуха:

— Тут няма нічога складанага. Проста рабіце тое ж самае, што і іншыя.

Усе прысутныя селі за круглы стол, які стаяў пасярод залы. Палову свечак прыгасілі, таму ножкі стала ўжо губляліся ў цемры. Якабіні пабачыў, што на стале ляжыць белы вялікі аркуш паперы, па перыметры якога былі напісаныя ўсе літары алфавіту і лічбы ад нуля да дзявяткі. Пасярэдзіне аркуш быў падзелены напалам тлустай чорнай лініяй. Па адзін бок ад яе чыясьці рука вывела слова «Так», па другі — «Не». Абодва кароткія словы былі напісаныя мудрагелістым почыркам — з разнастайнымі ўпрыгожаннямі і завіткамі. Непасрэдна на чорнай лініі ляжала дагары донцам талерка.

Бараноўская запытальна агледзела прысутных:

— Чый дух будзем выклікаць?

Экзальтаваная паненка ў ружовай сукенцы, на якую ротмістр звярнуў увагу раней, аж падскочыла на сваім месцы і пранізліва заверашчала:

— Старца Распуціна, старца Распуціна! Ах, ён такі незвычайны, такі незвычайны! Ён распавёў бы нам пра жыццё ў імператарскім палацы...

Яе перапыніў гімназіст:

— Трэба выклікаць дух паэта Сямёна Надсана — гэта самы вялікі паэт Расіі за апошнія пяцьдзясят гадоў. Мне здаецца, ён напрарочыў наш нялёгкі час, ён ведаў, да якіх глыбіняў нізрынецца наша дзяржава і грамадства.

Якабіні са здзіўленнем паглядзеў на гімназіста: Надсан быў папулярным паэтам гадоў трыццаць таму — наўрад ці малады чалавек мог заспець час, калі вершы Надсана перапісвалі ў свае альбомы не толькі навучэнцы гімназій, але і курсісткі. Вядома, у правінцыю сталічная мода прыходзіць са спазненнем, але каб аж на столькі гадоў... У такое верылася з цяжкасцю.

— Піфагор! — зашумеў барадаты мужчына. — Піфагора трэба выклікаць, ён наймудрэйшы з мудрацоў.

— Валерый Аляксандравіч, — кісла пасміхнулася Бараноўская, — мы не падрыхтаваліся да гутаркі з вашым элінскім мудрацом: і алфавіт у нас не іхны, і мову грэкаў мы не дужа помнім пасля гімназіі... Толькі вам аднаму і будзе з ім цікава.

Астатнія маўкліва падтрымалі гаспадыню дома, няўхвальна пагдядаючы на барадатага, якога Ляля шэптам назвала выкладчыкам гімназіі.

— Распуціна! — працягвала настойваць экзальтаваная паненка, але на яе ўжо амаль не зважалі.

Студэнт у тужурцы, як заўважыў Якабіні, ціхама насыпаў перад сабой вузкую дарожку белага парашку і вынюхаў яе пустой гільзай ад цыгарэты... Здавалася, яму не было вялікай розніцы, чый дух будуць выклікаць прысутныя.

Урэшце большасцю галасоў пагадзіліся запрасіць дух графа Льва Талстога — вялікага пісьменніка зямлі рускай, сумлення не толькі інтэлігенцыі, але і ўсёй нацыі, усяго народа.

Прысутныя ўзяліся за рукі, ствараючы магічнае кола. Іх позіркі сышліся на бліскучай халоднай парцаляне талеркі. Рышард адчуваў, як яго правая рука трымае левую руку Лялі — шаўковую, пяшчотную, вузкую. З левага боку суседам ротмістра апынуўся той самы гімназіст, які прапаноўваў выклікаць дух паэта Надсана. Па тым, як нервова паторгва-

ліся пальцы юнака, афіцэр зразумеў, што той хвалюецца — таксама ці не першы раз удзельнічае ў такой містычнай дзеі.

Сам Якабіні хвалявання не адчуваў: ён верыў у Бога, але адчуваў недавер да расповедаў пра духаў, іншасвет і іншую падобную містыку. Таму і цяпер ён паглядаў навокал крытычным позіркам, не чакаючы з'яўлення ніякіх духаў. Яму проста прыемна было адчуваць дзявочую руку, якая так даверліва ляжала ў яго далоні. Лёгкі водар парфумы *Rose Jacqueminot* ад вядомай французскай фірмы *Coty* хваляваў яго ўяўленне.

Аднак спадак на стале нечакана здрыгануўся пасля таго, як мадам Бараноўская надрыўным замагільным голасам прагаварыла:

— Дух Льва Талстога, прыйдзі! Прыйдзі, мы заклікаем цябе з таго свету да нас, у свет, пакінуты табой. Прыйдзі і адкажы нам на пытанні, якія мы хочам задаць табе. Прыйдзі, дух Льва Талстога! Ты тут?

Якабіні не паверыў сваім вачам — талерка здрыганулася і пасунулася ў бок надпісу «Так». Афіцэр адчуў сябе раптам маленькім хлопчыкам, на вачах якога адбываецца штосьці невытлумачальнае. Гэтаксама ён у маленстве глядзеў цырк, які прыехаў у горад: і чараўніка, які даставаў з пустога цыліндра галубоў, і дзівосных жанглёраў, з чыіх рук не падалі шары, а толькі ляталі, ляталі, круціліся ў паветры, а потым паслухмяна вярталіся ў рукі сваім гаспадарам...

Амаль гэтак жа заварожана, як за каляровымі шарамі ў руках цыркавога жанглёра, Якабіні сачыў за талеркай. Хтосьці з прысутных запытаўся, як доўга працягнуцца цяперашнія змрочныя часы. Дух графа перасунуў талерку да лічбы сем, затрымаўся каля яе, а потым наблізіўся да нуля.

— Семдзесят! — раздаўся збянтэжаны голас барадатага піфагарэйца. — Але семдзесят чаго — дзён, тыдняў, месяцаў?

Мейсенская парцаляна зноў здрыганулася і рыўкамі папаўзла па стале, паказваючы слова «год».

Прысутныя недаверліва зашумелі, гаспадыня дома ўзвысіла голас:

— Цішэй, цішэй, панове! Я вас прашу... З духамі здараецца такое — яны пачынаюць блазнаваць, даваць жартаўлівыя, а

то і проста абсурдныя адказы. Не пераймайцеся, прашу вас. Вядома ж, 70 гадоў — гэта нейкая памылка... Я так думаю...

І хаця ўсе ўслых пагадзіліся з Бараноўскай, але разыходзіліся нейкія прыгнечаныя, нібыта прыяцелі, што хацелі пагаварыць пра нешта важнае, хоць непрыемнае, ды вось толькі размова нечакана абарвалася. І ніхто ўжо не наважваецца пачаць гаварыць пра гэтае непрыемнае.

Якабіні праводзіў Лялю па цёмных зімовых вуліцах.

— Скажыце, а вы верыце, што сапраўды ўся гэтая калатнеча, вайна працягнецца ажно семдзесят гадоў? Яна і так ужо ідзе чацвёрты год, і мы тут адчуваем, што фронт усё бліжэй і бліжэй, — у голасе дзяўчыны было чуваць збянтэжанасць і разгубленасць. — Семдзесят гадоў — гэта ж так доўга! Паспеюць вырасці не толькі дзеці, але і дзеці дзяцей. Мы састарымся, а то і памрэм...

Ротмістр маўчаў, задумаўшыся пра сваё. Нарэшце запруду яго маўчання прарвала:

— Ляля, няўжо гэта напраўду быў дух? Мне неяк цяжка даць веры ў духаў. Прасцей думаць, што талерка рухалася нейкім механічным спосабам — ды хаця б і магнітам якім-небудзь! Але, здаецца, пад талеркай не ляжала нічога металічнага.

Адказаць дзяўчына не паспела — прагучаў нечаканы стрэл, куля ўдарылася ў сцяну недзе зусім блізка над галовамі маладых людзей. Якабіні імклівым рухам пацягнуў спадарожніцу за рог дома, прыгінаючыся ад магчымага наступнага стрэлу. Вольнай рукой афіцэр выцягнуў з кабуры пісталет сістэмы «люгер» і стаў углядацца ў змрок вечаровай вуліцы.

Чыясьці фігура ў папасе ўцякала па брукаванцы направа. Пакінуўшы Лялю, афіцэр выскачыў з-за рога дома і пабачыў, што паміж дамамі ў той бок, куды кінуўся ўцякач, тонкай шчылінай ад шырокай вуліцы адыходзіць невялікі праход. Якабіні пабег туды, трымаючы напагатове свой «люгер». Далёка ў праходзе афіцэр разгледзеў цёмную постаць. Поўня з-над дахаў абыякава паглядала і на ўцекача, і на яго праследніка.

Стараючыся трымацца ў цяню дамоў, Якабіні пабег. Хутка ён заўважыў, што цень не рухаецца. Наблізіўшыся яшчэ крыху, перасьледнік зразумеў, што наперадзе яго чакаюць дзве фігуры — адна ляжыць на зямлі, другая стаіць над першай. Абедзве постаці не варушыліся.

Яшчэ праз некалькі крокаў афіцэр апазнаў у першым чалавеку ўжо знаёмага яму кітайца Яна. Каля яго ног ляжала ў ненатуральнай позе цела незнаёмага вусача, які сутаргава падабраў пад сябе вінтоўку. Пад галавой вусача расплывалася цёмная лужына крыві.

Раптам з горла незнаёмца вырваўся хрыплы гук...

Па дарозе ў лазарэт, куды афіцэр і кітаец вырашылі даставіць вусача, Ян патлумачыў, што вырашыў аддзячыць свайму выратавальніку і аберагаць яго. Пры гэтым ён стараўся трымацца не навідавоку, каб не назаляць ротмістру. Гэтае памкненне хавацца ў цяню яго і падвяло: не дапільнаваў начнога стралка.

Праўда, кітаец патлумачыў, што адразу заўважыў, адкуль стралялі ў Якабіні і яго спадарожніцу. Ён пагнаўся за стралком і збіў яго з ног. На жаль, пры падзенні са стралка зляцела папаха, і ён няўдала стукнуўся скронню аб брук.

— Ян не думаў забіваць, Ян думаў спыніць, — уздыхнуў кітаец.

Якабіні тым часам напружана разважаў, за што незнаёмы вусач страляў у яго. Можа, ён рабаўнік, які хацеў пажывіцца чым-небудзь каштоўным? Афіцэра забіў бы, дзяўчыну абрабаваў...

З Ляляй сваімі здагадкамі ротмістр дзяліцца не стаў — яна і так выглядала спалоханай.

Праз чвэрць гадзіны хірург у лазарэце сказаў ім, што выратаваць дастаўленага вусача не ўдалося.

* * *

Кміціч. Сярэдзіна жніўня 2002

Грамадзянская паніхіда развітання з гісторыкам Анатолем Рыбнікам ладзілася на гістарычным факультэце, дзе ён выкладаў, — у самым цэнтры сталіцы.

Стары дарэвалюцыйны будынак памятаў яшчэ гімназістаў царскага часу. Цяперашнія студэнты быццам пераймалі нябачную эстафету, якую перадалі ім далёкія дзяды. Праўда, у саміх студэнтаў гэткага адчування не было. Ці было такое адчуванне хаця б у выкладчыкаў — вялікі сакрэт.

Кміціч узняўся па шырокай старадаўняй лесвіцы — развітанне з Рыбнікам ладзілася на трэцім паверсе. На першым паверсе на бачным месцы быў вывешаны партрэт гісторыка ў жалобнай чорнай рамцы. Тэкст пад ім паведамляў, што калектыў факультэта, выкладчыкі і студэнты моцна смуткуюць з нагоды смерці паважанага ўсімі навукоўца.

Тут і там па дарозе журналіст бачыў купкі студэнтаў і зразумеў, што ніякай трагедыі са смерці выкладчыка ніхто не ладзіць: заняткі працягваюцца, а цырымонія развітання зойме невялікі час.

Труна з целам размяшчалася ў холе, вакол з сурова-ўрачыстымі тварамі стаялі немаладыя мужчыны ў пінжаках — факультэт аддаваў апошнюю пашану свайму выкладчыку. Спрактыкаваны зрок Кміціча адзначыў, што навуковыя калегі Рыбніка не могуць пахваліцца добрымі заробкамі. Не ва ўсіх, але даволі часта кідаліся ў вочы некалі модныя, але цяпер ужо зашмальцаваныя пінжакі, не першай свежасці кашулі, стаптаныя чаравікі...

Ён адышоўся ўбок, да высокага вакна, каля якога пабачыў двух злёгку знаёмых літаратараў. Павітаўся з імі і спытаў, чаму не відаць нікога са сваякоў Рыбніка.

— Дык ён адзін жыў, зусім адзін, — з пачуццём уласнай абазнанасці паведаміў вальяжны Алесь Ляўсюк, які сваімі паводзінамі нагадваў ці то капрызлівага паніча, ці то расійскага рэжысёра Мікіту Міхалкова.

— Прыўкрасны чалавек быў, разумны, — дадаў другі з літаратараў. Павел Пустальжонак нагадваў нейкую драпежную птушку: злёгку вырачаныя вочы, нос дзюбай, ды яшчэ высокі рост ствараў ілюзію, быццам ён узляцеў над навакольнымі, абіраючы сабе ахвяру.

— Дык ён зусім не меў нікога? І да яго ніхто не хадзіў? — Кміціч ведаў пісьменніцкую любоў да слова: бачыў, як на

сваіх сходах яны рваліся да трыбуны, каб паўтарыць усё тое, што за хвіліну да таго сказалі іншыя. Цяпер журналіст вырашыў скарыстацца гэтай схільнасцю да словаблуднасці, каб атрымаць дадатковую інфармацыю: у рэдакцыі чакалі рэпартаж з пахавання Рыбніка — не сухую справаздачу, а эмацыйны тэкст з жывымі ўражаннямі і перажываннямі.

Ляўсюк адразу ж захапіў журналісцкую нажыўку:

— Чаго ж не хадзіў? Я, напрыклад, у яго ў гасцях быў — ён у Серабранцы жыў, у аднапакаёвай кватэры. Я яго артыкулы чытаў пра станаўленне беларускай дзяржавы — БНР, БССР... Вельмі цікавыя, грунтоўныя артыкулы, мне вельмі падабаліся. Вось я і пайшоў з ім знаёміцца неяк, бо пісаў паэму пра тыя часы, і мне край як было трэба адчуць дух эпохі, адчуць герояў таго часу як жывых людзей. А хто, думаю, больш ведае пра іх адносіны, пра іх побыт, чым такі гісторык?.. Я яму кнігу ў падарунак прынёс. Ён мяне вельмі гасцінна прыняў, сказаў, што чытаў мае вершы, што падабаюцца, ага...

На хвіліну красамоўе Ляўсюка прыпынілася, быццам пераадольвала нейкую не бачную іншым запруду. А потым жвавая хваля яго ўспамінаў лінула далей:

— Мы з ім тады добра пасядзелі, ён мяне пачаставаў сваёй ядлаўцовай настойкай — казаў, што ў іх на радзіме, пад Баранавічамі, такую робяць. Духмяная, смачная... І цэлы вечар мы з ім прагаварылі пра братоў Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Янку Купалу, Максіма Гарэцкага, Жылуновіча-Гартнага... Яны перада мной як жывыя тады паўсталі — і жыўчык Ластоўскі, і разгублены Купала, якога да сябе то адны, то другія цягнулі, і ўпарты Жылуновіч. Вось так ён мне гэта расказваў, быццам сам з імі быў знаёмы, назіраў іх ужывую.

Пустальжонак, як было відаць, троху раcперажываўся, што не пабываў у гасцях у такога цікавага навукоўца, бо пісаў раманы на сярэднявечную тэматыку, а не рэвалюцыйныя паэмы. Але вельмі хутка знайшоў, чым адзначыцца:

— Ён апошнім часам нешта цікавае адшукаў у архівах. Мне калегі ягоныя казалі, што Рыбнік хваліўся: рыхтую,

маўляў, сенсацыю. Ну, ад яго-то і не дзіўна — ён столькі ўсяго цікавага пазнаходзіў у тых архівах, што адзін працаваў за цэлы інстытут.

— А што за сенсацыю Рыбнік рыхтаваў? — Кміціч рэагаваў чуйна, як хорт на паляванні.

— А вось гэтага не ведаю, — Пустальжонак шумна ўздыхнуў. — Дый калегі ягоныя не ведаюць.

Літаратар прыгнуўся і гучным шэптам дадаў:

— Ходзяць чуткі, што яго кватэру яшчэ да міліцыі наведалі нейкія злодзеі, якія перакапалі ягоныя навуковыя запісы. Магчыма, гэта яны і да смерці Рыбніка спрычыніліся.

* * *

Стась. Сярэдзіна жніўня 2002

На гістарычным факультэце ён стаяў недалёк ад труны Рыбніка — ціхенька прыткнуўся ў кутку бліз вакна. На факультэт ён прыйшоў не для таго, каб згадаць студэнцкія часы або развітацца з улюбёным выкладчыкам. Стася на факультэт прывяла банальная праца.

Ён не быў ні выкладчыкам, ні аспірантам факультэта, але ўсё ж яго праца была знітаваная з alma mater. Паводле сваіх службовых абавязкаў у Камітэце дзяржбяспекі Стась курыраваў гістфак.

На пахаванні Рыбніка ён адкрыта нудзіўся, але сысці не мог: начальства строга загадала «прасачыць, каб нічога ніякага». Стась не запярэчыў, але ў глыбіні душы пасміхнуўся: часы, калі студэнты ладзілі мітынгі на пахаванні нейкіх дзеячаў культуры, скончыліся, бадай што, разам з часамі царызму. Гэта тады было можна ўскараскацца на ліхтар і раскідваць пракламацыі — рамантычны вобраз, апеты ў савецкім кіно. Ну, яшчэ да сярэдзіны 1990-х маглі б адбывацца нейкія мітынгі, хаця і без раскідвання ўлётак. А цяпер? Не-е-е, цяпер такога папросту быць не можа... Але загад не абмяркоўваецца.

Вось і стаяў Стась у холе, цікуючы па баках, прыслухоўваючыся да размоваў. Прысутнічалі тут пераважна прыгнаныя выкладчыкамі студэнты, якія нудзіліся не менш за Стася,

хаця некаторым было цікава. Яны абмяркоўвалі прычыны смерці навукоўца, прычым версіі выказваліся самыя розныя. Хтосьці безапеляцыйна заяўляў, што Рыбніка забілі браткі, бо ён атрымаў спадчыну з Амерыкі і не захацеў падзяліцца. Яшчэ нехта казаў, быццам сам чуў ад выкладчыкаў: Рыбнік выпіваў у кампаніі, і ўсё скончылася п'янай бойкай, у якой яму не пашанцавала...

Куточкі вуснаў у Стася, які чуў такія размовы, мімавольна торгаліся ўверх, але ён паспяваў апанаваць свае эмоцыі. Дзеці — што з іх узяць!..

А вось тройка каля суседняга вакна яго вельмі зацікавіла — два мужчыны ў гадах паважна расказвалі нешта трэцяму, маладзейшаму. Стась цішком, быццам незнарок наблізіўся, каб пачуць. Крывячы рот, адзін са старэйшых расказваў пра высокія душэўныя якасці памерлага Рыбніка і хваліў за дапамогу ў напісанні паэмы на рэвалюцыйную тэматыку. Кадэбіст толькі пасміхнуўся ў душы: хто іх чытаў, тыя рэвалюцыйныя паэмы?..

А вось словы другога са старэйшых Стася ўстурбавалі: той распавядаў, быццам Рыбнік рыхтаваў нейкую навуковую сенсацыю. Найбольш, праўда, Стася занепакоіў не сам гэты расповед, перасыпаны словамі «нібыта» і «па чутках», колькі рэакцыя маладзейшага на пачутае. У вачах у яго загарэліся агеньчыкі авантурызму, якія Стась імгненна пазнаў. У гэтым позірку была не простая зацікаўленасць — гэта ззяла радасць паляўнічага, які напаў на верны след.

«Хто ж ты такі і што ты тут шукаў?» — думаў кадэбіст, ідучы следам за маладым чалавекам, які неўзабаве пакінуў будынак. Сачыць за ім было лёгка: ахвяра нават не здагадвалася, што яе «пасвяць», не азіралася назад і не спрабавала схавацца.

Калі малады чалавек зайшоў у рэдакцыю вядомай Стасю газеты, кадэбіст задаволена гмыкнуў: імя гэтага цікаўнага можна будзе з лёгкасцю даведацца з публікацыі.

* * *

Ego. Жнівень 2002

Грувасткае электрычнае прыстасаванне: драўляны квадрат, да якога прымацаваная тырчма вертыкальная металічная трубка, па ёй уверх-уніз можна перасоўваць металічнае дзяржальна, на канцы якога — металічнае ж яйка. Гэта цяперашнія 20-гадовыя ніколі не бачылі старога фотапавелічальніка, а я не толькі бачыў, але і карыстаўся ім — даўно, у дзяцінстве, калі бацька вучыў мяне рабіць фатаграфіі. Так што гэтая «Нява–4» мае біяграфію амаль такой самай даўжыні, як і я, — каля трыццаці гадоў.

Апошнія гады гэты павелічальнік пыліўся ў кладоўцы, я нават думаў выкінуць яго ці прадаць на запчасткі. Вось і добра, што не паспяшаўся пазбавіцца.

Гэта раней, яшчэ ў Савецкім Саюзе, была патрэбная такая механіка. А потым, у 90-я, усю гэтую сярэднявечную мудрагелістасць хутка выцеснілі «паляроіды»: шчоўк — і вось табе маеш фотку! І ніякіх сядзенняў у цёмным пакоі пры чырвоным ліхтары, ніякіх разбоўтванняў праяўніку і фіксажу. Потым на змену «паляроідам» і ўвогуле прыйшлі лічбавыя фотаапараты...

А фотапавелічальнікі засталіся ў савецкім мінулым – тамсама, дзе ложкі з панцырнай сеткай, малако ў пірамідальных папяровых пакетах і радыёлы з вінілавымі кружэлкамі.

Для мяне гэтая фотапрылада назаўжды застанецца азнакай не столькі майго савецкага дзяцінства, колькі падлеткавых гадоў. З ім, з фотапавелічальнікам, звязаныя мае першыя дзіцячыя ўражанні ад эротыкі. У каробцы, дзе бацька трымаў сямейныя фотастужкі, я выпадкова натрапіў на невядомую мне плёнку. Дагэтуль не ведаю, якім чынам яна трапіла ў гэтую каробку — можа, бацька паклаў яе туды, бо ведаў, што маці ўсё адно фатаграфіі разглядае ўжо толькі надрукаваныя. А на тое, што мой цікаўны нос палезе корпацца ў сямейных фотаплёнках, сярод якіх ляжала крамола, ён не разлічваў. Зрэшты, пра гэта можна толькі гадаць, бо з бацькам я пра тую стужку ні разу не гаварыў. А праз нейкі час фотаплёнка з эратычнымі кадрамі проста знікла з каробкі.

Гэта потым, праз пару гадоў, я даведаўся, што бляклыя, цьмяныя фатаграфіі, выробленыя мной з той стужкі, пагражалі мне крымінальным кодэксам — за выраб і распаўсюд парнаграфіі. Так, я не толькі друкаваў фотаздымкі, але і шчодра дзяліўся імі са сваімі аднакласнікамі. Думаю, ім, як і мне, яны дапамагалі лягчэй пераможыць пару падлеткавай гіперсэксуальнасці, што было нялёгка ў савецкі час, калі адсутнічалі разнастайныя «Плэйбоі» ды іншыя падобныя выданні...

Але зараз я дастаў павелічальнік не дзеля фатаграфіяў: на стужцы, якая такім дзіўным чынам трапіла ў мае рукі, былі мікрафішы — фотаздымкі нейкіх дакументаў, ці што... Раней мне даводзілася бачыць мікрафішы ў бібліятэцы, а вось чытаць іх праз фотапавелічальнік даводзіцца ўпершыню.

Фотаздымкі на стужцы былі розныя: тут трапляліся і пераздымкі рукапісныя старонкі, і нейкія бланкі, і газетныя нататкі. На адным з першых кадраў я пабачыў газетную старонку, напышлівы старадаўні шрыфт паведаміў, што гэта 987-ы нумар выдання «Аршанскі веснік» ад 12 студзеня 1918 года. Адна кароткая нататка была абведзеная алоўкам ці асадкай, каб вылучыць яе на старонцы:

*«Беларускі дывізіён*

*На днях у раён Аршанск. павета прыбыў 1-ы Беларускі конны дывізіён, які знаходзіцца яшчэ ў перыядзе фармавання. Дывізіён часова спыніўся ў в. Барань. Камандзір дывізіёна Якабіні — ураджэнец Аршанскага павета».*

Так я даведаўся імя Рышарда Якабіні — ротмістра, камандзіра 1-га Беларускага коннага дывізіёна. Амаль усе дакументы, адзнятыя на плёнку, былі так ці іначай звязаныя з яго імем. Выпіска з метрычнай касцельнай кнігі пра нараджэнне і хрышчэнне Рышарда Якабіні. Гімназічны табель. Палкавыя дакументы, характарыстыкі камандзіраў...

Я не мог зразумець, што такога важнага было ў гэтых дакументах. Чаму на іх ішло такое паляванне? Чаму хтосьці быў гатовы заплаціць за іх сваім жыццём?

Што такога надзвычай важнага можа быць у дакуменце з назвай «Хадайніцтва»? Нават калі далей напісана, што сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Рышард Якабіні просіць у старшыні Народнага сакратарыяту БНР дапамагчы ў кампенсацыі грошай, якія ён, Якабіні, затраціў з уласнай кішэні на фармаванне Беларускага коннага палка (першапачаткова — дывізіёна)? Ну, вядома, гэта можа зацікавіць гісторыка — дакумент ад 15 чэрвеня 1918 года.

Але я не чуў, каб за нейкія падобныя гістарычныя дакументы забівалі!

Што ж тут не так? Я глядзеў на павялічаныя негатывы дакументаў, якія паказваў мне фотапавелічальнік, і ніяк не мог зразумець.

Вось паведамленне, што ў студзені 1918 года Беларускі конны полк прызнаў уладу Саветаў. А вось паведамленне, што на пачатку сакавіка камісар палка рашэннем палкавога Савета загадаў арыштаваць камандзіра Якабіні... Праўда, мяркуючы па ўсім, ротмістру ўдалося неяк пазбегнуць хуткага і няўмольнага вайсковага суда — нездарма ж у чэрвені ён просіць кампенсаваць яму выдаткі за фармаванне баявой адзінкі.

Я не разумеў да таго часу, пакуль не натыкнуўся на некалькі дакументаў ліпеня-жніўня 1918 года.

* * *

Кміціч. Сярэдзіна жніўня 2002

Угнуўшы галаву ў плечы, Кміціч сядзеў за артыкулам пра збітых навукоўцаў, яго пальцы танчылі ў нейкім рваным рытме па клавіятуры камп’ютара. Як і большасць журналістаў, якія не асвоілі дзесяціпальцавую сістэму набору, Павел стукаў па клавішах указальным і сярэднім пальцам кожнай рукі. Зрэшты, гэта яго не моцна засмучала: троху павальнейшы тэмп набору даваў дадатковы час на тое, каб сфармуляваць думкі. І ягоныя пальцы працягвалі танчыць, быццам найгравалі нейкую джазавую імправізацыю: стук-стук-стук-стук, паўза-сінкопа — і зноў стук-стук-стук.

Праца над артыкулам дапамагала Кміцічу пераключыць свае думкі, засяродзіцца на чымсьці адрозным ад нядаўніх падзеяў...

Яны вярталіся з Ксеняй з Купалаўскага тэатра, куды хадзілі глядзець пастаноўку «Пінскай шляхты». Камедыя спадабалася абодвум, нарагаталіся ад душы. Па дарозе дадому ўсё згадвалі ротмістра Кручкова ў выкананні актора Віктара Манаева: яго вусы і крыклівыя паводзіны былі нібыта суцэльна знятыя з вядомага ўсёй краіне палітычнага дзеяча.

І, вядома ж, яны цалаваліся ўсю дарогу. Пачатак восені нібыта высцілаў ім жоўта-чырвоную дывановую дарожку ў будучыню, абсыпаў іх лісцем, як маладых на вяселлі пасыпаюць зернем.

Іхная радасць абарвалася, як толькі яны адчынілі дзверы ў кватэру, якую здымаў Павел: усё ў ёй сведчыла пра нядаўні візіт няпрошаных гасцей. Канапа была адсунутая ад сценкі, кнігі кучай валяліся на падлозе, прычым некаторыя з іх былі раскрытыя і кінутыя карэньчыкамі ўверх. Камп'ютар, які Кміціч вымкнуў перад сыходам, цяпер зноў быў уключаны. На маніторы было адкрытае вакенца вордаўскага файла з нейкім кароткім набраным тэкстам.

Падышоўшы бліжэй, хлопец прачытаў адзіны сказ, надрукаваны без аніякіх знакаў прыпынку: «Лепш вярні тое што прыхапіў бо не тваё».

Павярнуўшыся да Ксені, якая ўсё яшчэ стаяла ля ўваходных дзвярэй і шырока раскрытымі вачыма аглядала навакольны вэрхал, Павел адчуў сябе нечакана вельмі сталым. Адказнасць, якую ён прымаў на сябе поруч з дзяўчынай, нібы дадала яму гадоў.

— Ты сёння едзеш да бацькоў і бліжэйшыя некалькі дзён начуеш у іх. Калі што якое, скажы... Ну, скажы, што мы пасварыліся, каб яны не задавалі лішніх пытанняў, — ён гаварыў рашучым тонам, каб Ксеня не надумала пярэчыць. — Тут робіцца нешта няяснае. Мяркую, што гэта звязана з маёй працай, таму мне трэба некалькі дзён, каб разабрацца. Мне будзе спакайней, калі ты пабудзеш убаку, добра?

Ён пацалаваў агаломшаную дзяўчыну ў шчаку і пацягнуў яе на выхад...

Дарогай ён спрабаваў суцешыць Ксеню і казаў ёй, каб не хвалявалася:

— Ты ж бачыш, гэта заходзілі нейкія добрыя людзі, а не якія-небудзь зладзюжкі.

У адказ яна сутаргава ўсхліпвала:

— Як ты можаш называць добрымі людзьмі тых, хто робіць такія гадасці?

Ён крыва пасміхаўся:

— Добрыя людзі таксама робяць гадасці, але без энтузіязму і без задавальнення...

Вярнуўся назад ён гадзіны праз дзве, калі правёў Ксеню да дома яе бацькоў. Парадак наводзіць не стаў, а дастаў флэшку і запусціў праверку, якая адсканавала б камп'ютар на наяўнасць вірусаў і шпіёнскіх праграмаў.

Зварыў кавы ў мядзянай турцы і сеў разважаць. Калі праграма скончыла праверку, ён задаволена гмыкнуў, бо вынікі гэтай праверкі пацвердзілі ягоную думку: ніякіх вірусаў, ніякіх шпіёнаў. Яго хацелі толькі запалохаць або папярэдзіць. Гэтую ж мэту пераследаваў і знарочыста неахайны ператрус рэчаў у кватэры.

Запалохаць або папярэдзіць... Або і адно, і другое разам.

Зрэшты, гэта зусім не азначала, што заставацца ў гэтай кватэры па-ранейшаму бяспечна. Яму прадэманстравалі, наколькі лёгка можна парушыць ягоны лад жыцця, наколькі проста яго можна дастаць.

Значыць, правільна ён зрабіў, калі адправіў Ксюху да бацькоў.

А зараз трэба напісаць артыкул пра збітых інтэлігентаў...

Цяпер яго пальцы няўпэўнена стукалі ў клавіятуру, быццам спрабавалі яе на гарачыню і, нечакана апёкшыся, рэзка адскоквалі назад. Ён пісаў пра тых, з кім паспеў пагаварыць сам, і пра тых, з кім пагаварылі яго калегі з іншых выданняў. Лямзес, Мазліўскі, Грамец, Лявіцкі... Іх твары быццам стаялі ў яго перад вачыма і ўважліва глядзелі на тое, што піша ён,

журналіст Павел Кміціч. Ён трымаў справаздачу перад тымі, чые імёны ведаў і шанаваў яшчэ, бадай, са студэнцкіх гадоў.

Таму і пісаў Кміціч не *пра іх*, а *для іх*, каб не было потым сорамна перад героямі яго артыкула. Збіты да сінякоў Лямзес. Насцярожаны Грамец. Мазліўскі са сваёй пашкоджанай нагой. Гэтыя людзі былі яго героямі — не героямі артыкула, а тымі, кім ён ганарыўся.

Кміціч пісаў пра тое, як немаладыя ўжо навукоўцы становяцца па вечарах ахвярай вулічнай шпаны, і ўсё гэта адбываецца ў тым самым горадзе, улады якога ганарацца парадкам і чысцінёй. А за чысценькім фасадам хаваюцца ашчэраныя іклы і крываватыя ўсмешкі гопнікаў, і ўлада проста не можа зберагчы ад іх нападаў людзей, якія склалі б гонар любой нацыі. Не можа, бо не бачыць ніякай практычнай карысці ад культуры.

Ён дапіша і адашле артыкул яшчэ ўначы.

Трэба спяшацца.

Бо такія «чорныя меткі» проста так не прыходзяць.

А артыкул у яго атрымаецца добры — ён у сваёй слушнасці ўпэўнены: вулічная шпана збівала навукоўцаў. Ніякай палітыкі.

Не ўпісваўся ў агульную карціну толькі гісторык Ксяневіч. Той самы, пра якога разгублена згадваў міліцэйскі капітан Дзерашонак.

* * *

Ego. Снежань 1990

Зіма ў нашым клімаце не самая зручная пара года для падпільноўвання парачак, для падглядання. Снежкі, абдымкі, рэдкія пацалункі на марозе — вось і ўвесь мой нявінны здабытак у халадэчу.

Жаночае цела, як правіла, холад не любіць, таму з надыходам восені пачынае нарошчваць на сабе дадатковыя апранахі: кофты, камізэлькі, панчохі ды рознае іншае.

Шукаючы салодкай спатолі сваім прагным вачам, я зразумеў, што мяне могуць выратаваць студэнцкія інтэрнаты. Вокны дзявочых пакояў узімку вабілі мяне, як начнога ма-

тылька вабіць святло лямпачкі. Я заходзіў у пад'езды суседніх дамоў, забіраўся на гарышча, а то і на дах, даставаў тэрмас з гарачай гарбатай, бінокль — і аддаваўся раскошы назіранняў. Гнуткія дзявочыя целы набліжаліся да вокнаў, потым аддаляліся, быццам у нейкім танцы пад нячутную мне мелодыю. Месца ў пакоі няшмат, а жывуць там па некалькі чалавек. Таму часта я назіраў распрананні-апрананні-пераапрананні каля самых вокнаў. Дзяўчаты не асабліва саромеліся, бо ведалі, што вокны іх даволі высока ад зямлі, знізу нічога не пабачыш. Дамоў наўкола няшмат, таму іх жыхарам пікантныя карцінкі таксама наўрад ці дастануцца.

Зрэшты, некаторыя, магчыма, знарок пераапраналіся перад вокнамі, дражнячы ненаўмыснага гледача ці такога прагнага назіральніка, як я. Тонкая фігурка нерашуча спынялася недалёка ад вакна і пачынала сцягваць праз галаву сукенку, потым ішла нейкая маечка, за ёй надыходзіла чарга станіка — рэдка карункавага, найчасцей простага, немудрагелістага. Колькі розных станікаў я пабачыў за час сваіх назіранняў — чорных і белых, чырвоных і бэзавых, у гарохі, з хвалямі, з кветкамі...

А з-пад станіка вызваляліся грудкі: і маленькія натапыраныя — другога памеру, і ўжо ацяжэлыя, спелыя грудкі — чацвёртага... Оптыка ад такога відовішча хутка пацела на марозе — даводзілася праціраць акуляры бінокля.

Не сумняюся, што некаторыя дзяўчаты здагадваліся, што ў гэты момант мой позірк лашчыць іхныя спакушальныя вабноты, іхныя акругласці і выгіны: наша культура прывучае жанчын да эксгібіцыянізму. Жаночае цела дапамагае прадаваць усё — ад кавы да канапы і аўтамабіля. Жаночае цела на канапе, жаночая нага на педалі газу, бляшанка з-пад кавы, якая сваімі выгінамі нагадвае жаночую фігуру... І гэта не кажучы пра чыста жаночыя рэчы — панчохі ці станкі для галення.

Жаночы эксгібіцыянізм добра прадаецца.

І ўсе ведаюць, што нічога ганебнага ці непрыстойнага ў гэтым няма...

Напэўна, са сваімі ведамі я мог бы працаваць у аддзеле жаночай бялізны. Хаця, з другога боку, сумняюся, што мяне б туды ўзялі: па кансультацыю ў такім інтымным пытанні жанчыны наўрад ці сталі б звяртацца да незнаёмага мужчыны.

Калі я пачынаў замярзаць на сваім назіральным пункце, то пакідаў яго — я ж не вар'ят, каб замарозіць сябе. Чаканне заўтрашняй насалоды — гэта таксама задавальненне.

* * *

Якабіні. Люты 1918

Пакой, куды правялі Якабіні, асвятляла толькі цьмяная газнічка. Вуліцы былі накрытыя вэлюмам позняй лютаўскай цямрэчы, і складалася ўражанне, быццам гэтую цямрэчу афіцэр прыцягнуў у дом на сваіх плячах. Якабіні прайшоў міма люстэрка, у якім мільгануў насцярожлівы водбліск агню.

Кнот лямпы яўна быў прыкручаны, каб святла было як мага менш. Ротмістр адчуваў, што ў памяшканні знаходзіцца некалькі чалавек, ён чуў іх няроўнае разнароднае дыханне, але не мог вызначыць ні велічыню пакоя, ні колькасць людзей у ім.

Міжволі ў ротмістра ўзнікла асацыяцыя ці то з аперэткай, ці то з бульварным раманам, дзе атмасфера паводле вызначэння павінна быць загадкавай і містычнай.

Доктар Зархі быў адзіным, чый твар мог разгледзець Якабіні ў няясным святле лямпы. Рысы доктаравага твару ў гэтай паўцемры абвастрыліся, больш выяўна выдаючы ў ім прадстаўніка біблейскага народа, чым афіцэр разгледзеў пры ранейшай сустрэчы.

— Прабачце за такія меры, ротмістр, але мы мусім на іх ісці, каб не шкадаваць у далейшым. У наш час нават інтэлігентным людзям даводзіцца вучыцца нейкай... гмм... канспірацыі.

Доктар адкашляўся, нервова паціраючы рукі.

— Некаторыя ўплывовыя грамадзяне нашага горада папрасілі мяне быць іх прадстаўніком падчас гэтай гутаркі. У нас ёсць просьба да вас, ротмістр: ці не маглі б вы даць слова афіцэра, што ўсё пачутае вамі тут застанецца ў межах

гэтага пакоя і гэтых вушэй, нават калі вы не пагодзіцеся з тым, што я скажу?

Павісла глухая ватная ціша.

Якабіні прыкусіў ніжнюю губу, каб не даць вырвацца неабачлівым словам. Потым ён няспешна прамовіў:

— Леў Барысавіч, вы запрасілі мяне на сустрэчу і звяртаецеся да мяне з такой незвычайнай просьбай... Наўрад ці вы думалі, што я адмоўлюся даць слова афіцэра ў такой сітуацыі, іначай навошта мяне запрашаць? Але мы ў гэтым пакоі не адны, і я не ведаю, колькі зараз чалавек нас чуе. Як не ведаю і таго, ці не падрыхтавалі вы для мяне нейкую пастку. Мне б хацелася думаць, што я ў вас таксама не памыліўся, і ніхто з нас не будзе гуляць крапленымі картамі. Вы маеце маё слова афіцэра. Але калі далейшая наша гутарка працягнецца ў цяперашняй цемры, то дазвольце мне адразу адкланяцца — у такія гульні цяпер не гуляюцца нават рамантычныя гімназісты.

Зархі згодна матлянуў галавой і гэтым знакам нібыта націснуў у паветры нейкую нябачную клавішу, якая ўключыла святло, гук і нейкія іншыя фізічныя з'явы. Хтосьці завазіўся каля сценкі, і неўзабаве Якабіні пабачыў, што ў пакоі знаходзіцца каля паўтара дзясятка чалавек — пераважна мужчыны, але была і адна жанчына. Марыя Лаўрэнцьеўна Антонава ўваходзіла ў кіраўніцтва гарадскога камітэта партыі эсэраў, і сюды яе запрасілі не за прыгожыя вочы прыватнай асобы, а менавіта як прадстаўніцу партыі.

Краем вока ротмістр пабачыў, як яму хтосьці прыязна пасміхаецца і ківае галавой. Павярнуўшыся, ён угледзеў знаёмы твар Страхановіча — гарадскі галава быў відавочна задаволены бачыць тут Якабіні. Большасць прысутных была, аднак, яму невядомая нават навочна. Вока зачапіла пару фігураў, у паставе і выпраўцы якіх угадваліся афіцэры, астатнія былі цывільныя, збольшага ўжо немаладыя.

Зархі тым часам працягваў гаварыць, звяртаючыся да Якабіні.

— Як вы ведаеце, ротмістр, бальшавікі ў Брэсце не падпісалі мірнае пагадненне з немцамі, і тыя вядуць наступ па

ўсім фронце. Таварыш Троцкі, — на гэтым моманце твар доктара скрывіўся, быццам мыла з'еўшы, — таварыш Троцкі паспадзяваўся, што немцы ўжо не маюць сілы. Ведаеце, усе гэтыя братанні, надзеі на нямецкі пралетарыят... Памыліўся, аднак, таварыш Троцкі!

Праз кіслую міну праступіла зларадная ўсмешка.

Якабіні ўсё гэта ведаў: немцы пайшлі ў наступ і занялі ўжо не толькі Заходнюю Беларусь, але Цэнтральную і частку Усходняй. Фронт імкліва набліжаўся да Воршы, горад ужо двойчы абвяшчалі на ваенным становішчы. Праўда, трымалася такое становішча нядоўга — пару дзён. Але ўсё ж і камендацкая гадзіна, і вайсковыя патрулі — усё ў гэты час было.

Якабіні ўважліва слухаў словы Зархі — доктар яўна быў не толькі чалавекам, абраным для перамоваў, але і лідарам гэтага кола. Ротмістр пакуль што не зразумеў, ці быў Зархі абраны афіцыйна, але ягоная фактычная лідарская пазіцыя была неаспрэчнай.

— Ва ўмовах, калі гораду пагражае нямецкая акупацыя, мы вырашылі, — доктар хітра пасміхнуўся і вылучыў голасам наступную фразу, — што неабходна стварыць камітэт самаабароны.

Паўза.

Хітрыя вочы насцярожана глядзяць на Якабіні: як зрэагуе? Ці ўсё ён правільна зразумеў?

Пабачыўшы, як ротмістр здзіўлена ўзняў левае брыво, Зархі задаволена пасміхнуўся: усё правільна. Ён не памыліўся ў сваіх разліках на гэтага чалавека. Дый дзіўна было б недаацэньваць здагадлівасць баявога афіцэра: у баі кемлівасць часам становіцца ці не адзінай запарукай жыцця...

— Мы не ўпэўненыя, што бальшавікі здолеюць даць адпор ворагу, — у голасе доктара гучала насмешка. — Яны за месяц здолелі здаць ворагу тое, што некалькі гадоў утрымліваў кляты імі царскі рэжым, а потым некалькі месяцаў — дэмакратычны Часовы ўрад. Цягнік з камісарамі з Менску ўжо, мабыць, пад'язджае да нас і праскочыць чыгуначную станцыю пад горадам без прыпынку. Мы самі мусім паклапаціцца пра сваю абарону. Таму мы прапануем вашаму палку

далучыцца да гарадскога камітэта самаабароны і не даць ворагу таптаць каваным ботам нашую зямлю.

Якабіні міжволі пасміхнуўся: доктар не толькі меў лідарскія здольнасці, але і быў яшчэ не абы-якім дыпламатам, здольным сказаць пра галоўнае вельмі празрыстымі намёкамі. Разам з тым абвінаваціць яго ў змове было вельмі і вельмі складана — Зархі мог заявіць, што яго папросту няправільна зразумелі.

Зрэшты, Якабіні быў упэўнены, што камісары не будуць сабе занадта дурыць галаву, разбіраючыся ў мудрагелістасцях доктаравых фармулёвак. Ён чуў, што кіраўнік бальшавікоў, Ленін, сказаў: «Кожная рэвалюцыя толькі тады чаго-небудзь вартая, калі яна ўмее абараняцца». А пры абароне няма кепскіх сродкаў, асабліва калі гаворка ідзе пра тваё выжыванне — вайна ўмее вучыць гэтай простай ісціне. Ротмістр прыгадаў вырачаныя вочы першага забітага ім немца: той асеў пад шабляй, але яшчэ нейкі час імкнуўся дацягнуцца штыком да Якабіні...

У Зархі вочы былі не вырачаныя — проста хітра прымружаныя. Ён дапытліва і напружана глядзеў на свайго суразмоўцу, чакаючы адказу.

— Я здагадваюся, што асноўная прычына маёй тут прысутнасці — гэта мой полк, — Якабіні асцярожна падбіраў словы. — Падчас вайсковых дзеянняў, як казаў Напалеон, найперш улічваюцца вялікія батальёны... Але і я маю да вас сустрэчнае пытанне. Полк, якім я камандую, называецца Першым Беларускім конным — думаю, гэта вы памятаеце. Ён складаецца з ураджэнцаў нашага краю і ствараецца для служэння беларускаму народу. Ці гатовы будзе ваш камітэт, панове, прызнаць, што падпарадкоўваецца Радзе, якую абраў у снежні 17-га Усебеларускі з’езд? Асабіста я не магу падтрымліваць тыя дзеянні, якія пярэчылі б законна абранаму кіраўніцтву нашага краю, — гэтага мне не дазваляе маё разуменне афіцэрскай годнасці. А іншага законнага кіраўніцтва, акрамя Беларускай Рады, я зараз не бачу...

У памяшканні запанавала ціша — прысутныя былі відавочна азадачаныя нечаканай заявай ротмістра.

— Але ж, ротмістр, — у голасе Зархі гучала сумесь здзіўлення і расчаравання, — Рада не больш чым фікцыя, за ёй нікога няма. У яе няма рэальнай сілы!

— Дык жа і ў вас, Леў Барысавіч, няма рэальнай сілы, іначай бы вы не звярнуліся да мяне ў самы апошні момант, — Якабіні пасміхнуўся куточкам вуснаў. — Я заўважыў сярод прысутных некалькі афіцэраў, але тут і цяпер, наколькі я разумею, гэтыя панове прадстаўляюць самі сябе.

Ротмістр падняўся, агледзеў мужчын, якія відавочна працягвалі заставацца ў разгубленасці:

— Фікцыя, кажаце? Можа, і так... Але фікцыі застаюцца фікцыямі толькі да таго часу, пакуль мы не пачынаем увасабляць іх у жыццё. Кожная здзейсненая мара — гэта чыясьці былая фікцыя. Прынамсі, я маю тэлеграму ад Беларускай Рады арыштаваць цягнік з мінскімі камісарамі, які следуе праз чыгуначную станцыю Ворша, і намерваюся выканаць гэты загад. Ваш камітэт самаабароны можа далучыцца да дзеянняў майго палка. Гонар маю!

З гэтымі словамі Якабіні пакінуў памяшканне, спінай адчуваючы чужыя позіркі.

На цёмнай вуліцы ён спыніўся, глыбока ўдыхнуў марознае паветра і нягучна сказаў, звяртаючыся быццам да самога сябе:

— Ну, што чуваць? Я ж ведаю, што ты тут.

У гэтае ж імгненне ад ствала тоўстага старога дуба адзяліўся лёгкі цень — Ян сумленна выконваў добраахвотна ўзятую ролю целаахоўніка.

— Кепска, зусім кепска...

Па словах кітайца, дом, у які запрасілі ротмістра, знаходзіцца пад назіраннем: тры разы каля яго туды-сюды прайшла адна і тая ж парачка, у падваротні насупраць неадлучна стаіць чалавек, які час ад часу паліць самакруткі з махоркай, а ў вокнах дома па суседстве быў заўважаны чалавек з біноклем.

Якабіні пагадзіўся, што гэта вельмі кепска. Час! Яму катастрафічна бракуе часу.

* * *

*Газета «Оршанский вестник»,*
*№1013, 12 (25) лютага 1918 года*

***Арест комитета безопасности***

*По постановлению Оршанского исполкома в ночь на 24 февраля во время заседания членами исполкома арестован комитет общественной безопасности и штаб по самоохране города Орши: Долгополов, д-р Зархи, Хвиливицкий, Романовский, А. Соколов, Пиневский, Цитович, Найнерт, Служевский, Кантор, Корчемный, Озолин, Черняк и М. Л. Антонова. Арест членов был произведён в связи с организацией самообороны.*

*Исполком во избежание двоевластия в г. Орше вынужден был принять самые спешные меры к ликвидации самооборонческой организации.*

* * *

*Газета «Оршанский вестник»,*
*№ 1014, 13 (26) лютага 1918 г.*

\+ + +

*24 февраля в 2 часа дня освобождены арестованные члены комитета безопасности.*

*В числе арестованных был также И. А. Страханович.*

\+ + +

*По постановлению солдат первого белорусского конного дивизиона арестован командир этого дивизиона — Якобини.*

*Исполнительный комитет Р. С. и К. Депутатов Оршанского района этот арест ратифицировал.*

* * *

Якабіні. Люты 1918

Якабіні сядзеў у адным з пакояў дамініканскага касцёла — адзінага, які застаўся ў Воршы да пачатку дваццатага стагоддзя. Побач з ім сядзеў кітаец Ян. Мабыць, у касцельных сценах ніколі яшчэ не знаходзіўся такі дзіўны госць.

Ксёндз Вікенцій Грашыс, які даў прытулак ротмістру і кітайцу, прынёс небагаты пачастунак — рыбу і хлеб:

— Чым багаты, як кажуць...

Якабіні падзякаваў ксяндзу і дадаў тонам прабачэння:

— Разумею, ойча, што нясу за сабой небяспеку, таму сёння ж уначы сыду ад вас. Пастараюся прабіцца на захад праз лінію фронту...

Ёлкія словы з цяжкасцю варочаліся ў роце: афіцэр усё яшчэ перажываў нядаўнюю паразу.

Святар спагадліва пахітаў галавой:

— Айцец наш нябёсны казаў дапамагаць тым, хто апынуўся ў бядзе. Кепскі быў бы з мяне хрысціянін, калі б я ігнараваў Божыя запаветы... Вам лепш за ўсё пабыць у мяне хаця б суткі, пакуль вас шукаюць. У сутарэннях касцёла яны вас не знойдуць, бо для гэтага трэба мець план падземных хадоў. У мяне ён ёсць, а больш ні ў кога няма.

Ксёндз памаўчаў, нібыта штосьці ўзважваючы і разрахоўваючы.

— Потым я выведу вас на той бераг Дняпра: вам лепш за ўсё рухацца не на захад, а на поўдзень, у Магілёў — кажуць, там прыхільнікі вашай беларускай партыі маюць вялікую вагу... Пакуль што ешце і адпачывайце тут. Калі буду ісці да вас, з калідора гучна абвяшчу In nomine patris — значыць, іду адзін і ўсё спакойна. А пакуль адпачывайце.

Шчоўкнула клямка на дзвярах, і ротмістр застаўся ў памяшканні з маўклівым кітайцам і сваімі нярадаснымі думкамі. А яны яго ўсё вярталі да нядаўніх падзеяў у палку. Падзеяў, якія прымусілі Якабіні шукаць паратунку пад касцельным дахам...

Пад кіраўніцтвам Яна афіцэр рабіў практыкаванні хітрай усходняй гімнастыкі — ужо не першы тыдзень ён вучыўся гэтаму бою без зброі. Кітаец свайго вучня не хваліў, але выгляд меў задаволены — той добра засвойваў навуку.

У дзверы гучна пагрукаліся кулаком, і, не чакаючы дазволу, уваліліся два салдаты — прадстаўнікі палкавога камітэта:

— Мы праводзім палкавы сход, і вашая прысутнасць на ім абавязковая... грамадзянін камандзір. Камітэт настойвае.

Драпнуў ротмістрава вуха гэты зварот, драпнуў. Зрэшты, і самім салдатам ён падаваўся яшчэ нязвыклым, таму і вырасла перад ім паўза — невялікая, як бруствер перад акопам.

Палкавыя сходы склікаліся, на думку Якабіні, занадта часта — ён не лічыў неабходным абмяркоўваць аж усе дробязі на такім шырокім вечы. Аднак зацугляць палкавы камітэт ён таксама не мог — даводзілася мірыцца з непазбежным злом.

У памяці ўсплыў адзін з нядаўніх сходаў. У памяшканне казармы набілася столькі народу, што не тое каб яблыку — гарошыне не было куды ўпасці. Цяжкое паветра было густа насычанае не толькі пахамі дзясяткаў мужчынскіх целаў, але і дымам ад «казіных ножак» — многія дымілі самакруткамі, даводзячы паветра амаль да гумавай шчыльнасці.

На сходзе абмяркоўвалася падтрымка Савецкай улады і асуджэнне Усебеларускага сходу. Якабіні выступіў у абарону сходу, заяўляючы, што гэты сход не выступае супраць Саветаў, а, наадварот, цалкам адпавядае прынцыпам, абвешчаным праз бальшавікоў, — напрыклад, праву нацыяў на самавызначэнне:

— І сабраліся на той сход не самазванцы нейкія, а абраныя ўсімі намі дэлегаты, з усіх кутоў зямлі нашай беларускай. Тыя, каго абіралі мы з вамі, салдаты ў іншых палках, сяляне на сваіх сходах, гараджане... Каб нашыя давераныя, абраныя прадстаўнікі ўсе разам маглі сабрацца і вырашыць далейшы лёс нашай з вамі Бацькаўшчыны.

Тут жвава ўскочыў прышлы салдат, у ім Якабіні са здзіўленнем пазнаў колішняга знаёмца — барадача, ад якога выратаваў кітайца Яна. Барадач таксама пазнаў ротмістра, і злая ўсмешка скрывіла ягоныя вусны:

— Браткі, тут вашбродзь вам песні залівае — аж заслухацца можна, як салаўя ўначы. Толькі дзеўкі пад бокам не хапае...

Перачакаўшы дружны рогат, барадач працягваў:

— А таго не кажа афіцэр, што на сход той прыйшлі розныя царскія генералы ды паны. Мяне да вас гарадскі камітэт паслаў, каб не далі вам задурыць галаву розныя паны і панскія прыхвасні.

— Былі ж на тым сходзе і салдаты, і сяляне. І ад розных партый былі прадстаўнікі, — ротмістр спрабаваў уклінавацца ў прамову барадача, але той працягваў, быццам не чуў:

— І Рада, якую абралі на тым сходзе, уся чысцюсенька складаецца з чыноўнікаў-барзапісцаў, афіцэраў ды паноў-абшарнікаў. А простаму чалавеку ў тую Раду дарогі няма. Як думаеце, браткі, дасць такая Рада селяніну зямлю? Не дасць! І рабочага гаспадаром на заводзе не зробіць! Таму і давялося рабочаму чалавеку сваёй мазолістай рукой разагнаць гэты сход. І не табе, вашбродзь, супярэчыць рабочаму чалавеку!

Сход прыняў рэзалюцыю ў падтрымку ўлады Саветаў. Як камандзір палка Якабіні мусіў падпісаць дэмакратычна прынятую рэзалюцыю. З паскудненькай, злаславай усмешкай пераможцы барадач паглядзеў, як ротмістр выводзіць свой подпіс, а потым акуратна вывеў свой — «Дзерваед». Рука ў барадача не дрыжала — было відаць, што праца з пяром для яго не зусім ужо рэдкая з'ява.

...Згадка гэтая пранеслася ў галаве ротмістра імклівым скакуном, які маланкава пралятае па вясковай дарозе, але доўга яшчэ пасля яго не асядае ўзняты пыл. Афіцэр паглядзеў у халодныя вочы камітэтчыкаў і адчуў ледзяное пакалванне ў кончыках пальцаў: нічога добрага не абяцалі тыя позіркі.

— Ідзі, Ян, дадому, — спакойным голасам вымавіў Якабіні. — Сёння больш займацца не будзем. І заўтра таксама не прыходзь.

Цырымонна пакланіўшыся, кітаец нетаропка пайшоў на двор. Глуха стукнулі за ім дзверы, камітэтчыкі працягвалі чакаць ротмістра, чэпка трымаючы вінтоўкі, быццам падрыхтаваліся весці яго пад канвоем.

Выйшлі. Зіма заканчвалася, рыхтавалася здаваць свае пазіцыі, але было яшчэ сцюдзёна. «А не хочацца ні ў такую пару паміраць, ні ў якую іншую», — раптам падумалася ротмістру. Але Якабіні адчуваў, што гэтым разам камітэтчыкі ўчапіліся ў яго моцна: спробу ўзняць полк на арышт камісараў Заходняга фронту яму не даруюць...

Раптам ад канавязі кінулася снежнай шугавеяй імклівая фігура. Кітаец бег так шпарка, быццам пад ім гарэла зямля. Мітусліва таргануліся камітэтчыкі, уздымаючы вінтоўкі, але

Ян рухаўся шпарчэй за іх. Не спыняючыся, ён падскочыў з пранізлівым крыкам, і яго правая нага ў палёце ўрэзалася ў грудзі аднаго з канваіраў. Прызямліўшыся, кітаец не спыніў рух, а крутануўся на зямлі, падсякаючы нагой другога салдата. Калі той кулём асеў наніз, Ян саданууў яму рабром далоні некуды ў шыю. Канваіры нават войкнуць не паспелі, як ужо абодва ляжалі на зямлі без прытомнасці. Схапіўшы за руку агаломшанага Якабіні, кітаец пацягнуў яго да коней:

— Уцякаць будзем!

Пакуль чырвоныя спахапіліся ды паслалі пагоню, яго след ужо згубіўся на ўезджанай дарозе. А ксёндз Грашыс даў прытулак афіцэру і яго спадарожніку пад касцельным дахам.

* * *

Кміціч. Сярэдзіна жніўня 2002

Раніца Антона Аляшэўскага пачалася як найлепш. У светлы жнівеньскі ранак ён ціха ўзняўся з сямейнага ложка, пацалаваў жонку, якая неспакойна паварушылася, страціўшы мужава плячо. Яна супакоілася і зноў ціха засапла, паклаўшы маленькі кулачок пад шчаку. Па дарозе Антон зазірнуў у дзіцячы пакой: дачка і сын мірна спалі, разглядаючы свае дзіцячыя каляровыя сны.

На кухні ён расхінуў дзверкі буфета: агледзеў палічку, дзе стаяла разнастайная гарбата, і выцягнуў пакуначак з матэ. Піць матэ было не толькі больш карысна, чым каву, але і модна — прынамсі, на тусоўках, куды трапляў Аляшэўскі. Адставаць ад сучасных тэндэнцыяў галоўны рэдактар не хацеў, таму з лёгкасцю перайшоў на матэ, як раней гэтак жа рашуча кінуў паліць, бо гэта стала нямодна.

Заліўшы матэ кіпнем, Аляшэўскі ўключыў камп'ютар і пачаў праглядаць пошту. З дзясятак лістоў ад Хуліё, Марго, Хесусаў і Алісаў ён выдаліў, не адкрываючы: спам-фільтры ўсё ж часам прапускаюць абы-што. У сметніцу адправіліся таксама прапановы павялічыць памер фаласа і грудзей, пачаць свой бізнэс, зарэгістравацца на біржы, купіць аўто і дапамагчы нігерыйскаму прынцу, якому не хапае пары тысяч долараў на аплату падаткаў, каб атрымаць сваю шматмільён-

ную спадчыну, а ён абавязкова верне грошы пазычальніку з вялікімі адсоткамі. Сярод астатніх пасланняў найперш адкрыў ліст ад Кміціча: што і як напісаў журналіст на гарачую тэму?

Стаў чытаць. Дайшоў да канца тэксту:

«Цікава, ці можам мы правесці паралелі са знікненнямі палітычных праціўнікаў улады і гучнай справай «эскадронаў смерці»? Бадай што болей рацыі мае капітан міліцыі Дзерашчонак, які мяркуе, што ў гэтым выпадку варта весці гаворку пра хуліганства. Практычна ніводзін з пацярпелых не выказваўся супраць улады і не меў з ёй блізкіх дачыненняў. Затое ўсе яны — людзі ў гадах, нямоглыя, выглядаюць прывабнай здабычай для аматара лёгкай нажывы. І тут узнікае пытанне, ці ўсё спакойна на вуліцах «самай чыстай» сталіцы».

Аляшэўскі не раздумваючы выдаліў першае слова абзаца — лішняе нагрувашчванне, ёсць у Кміціча гэткая рыса. Варта будзе яму сказаць, каб больш акуратна падчышчаў свае артыкулы. Але ў прынцыпе рэдактару спадабалася: няма традыцыйнага скуголення, няма жадання ўсё спісаць на палітыку... Зрэшты, парадак на вуліцах улада таксама любіць абвяшчаць сваім дасягненнем, таму ледзь не любая крытыка становіцца палітычнай.

Нялёгкая задача — выпускаць у Беларусі недзяржаўную грамадска-палітычную газету. Кожны раз адчуваеш, што ідзеш па краі бездані, рызыкуючы адным няпэўным крокам не толькі зваліцца самому, але і пацягнуць уніз іншых. Крытыкаваць уладу, аднак не падстаўляцца — мець жалезабетонныя аргументы за спінай. А акрамя таго, проста спадзявацца на ўдачу.

Божа, Божа, што тут гаварыць?
А каму на гэтым свеце лёгка?
Дык няхай душа мая гарыць,
Брату выплаўляючы палёгку, —

згадаў Аляшэўскі радкі з верша. Банальнасць, вядома. Але часам толькі банальнасці і ратуюць.

Званок у дзверы заспеў Аляшэўскага знянацку. Антон глянуў на гадзіннік: той азадачана паказваў электронныя лічбы 06.00 — быццам здзіўлена ўзняў адно брыво, пытаючыся, хто ж гэта ходзіць у госці ў такі ранні час.

Зірнуўшы ў дзвярное вочка, Антон здзівіўся яшчэ больш — за дзвярыма стаяў чалавек, чый тэкст ён толькі што чытаў. Яго супрацоўнік Павел Кміціч.

Твар у ранняга госця быў нейкі шэры, пад вачыма, як недарэчны макіяж, леглі няясныя цені — было відавочна, што журналіст не клаўся спаць.

Аляшэўскі моўчкі прыціснуў палец да вуснаў і паказаў рукой у напрамку кухні.

У кватэры галоўнага Кміціч быў упершыню, таму цікаўна азіраўся па баках.

Як вядома, класіку ад прадзедаў спакон вякоў дасталася спадчына, якая грэла яго матчынай ласкай і сярод сваіх, і сярод чужакоў. Аляшэўскаму ж, як зразумеў Кміціч, давялося працаваць над кватэрай самому, не спадзеючыся на міфічную спадчыну. Прынамсі, дарагія рыфлёныя шпалеры з залацістымі блёсткамі сведчылі, што ўсё гэта не спадчына, а самая што ні ёсць сучаснасць. Кватэра, як палічыў Кміціч па дзвярах пакояў, была пяціпакаёвай. Кухня таксама была не малая.

Усё гэта Павел адзначаў аўтаматычна, па журналісцкай звычцы фіксуючы ў памяці падрабязнасці.

— Што будзеце піць? Ёсць свежы матэ. Альбо, вось, магу гарбаты запарыць, — ветліва прапанаваў гаспадар.

— А кавы няма, прабачце? — голас Кміціча бразджаў, як надтрэснуты посуд.

— Чаго няма, таго няма, — развёў рукамі Аляшэўскі. — Я не аматар кавы, то і дома не трымаем.

Госць змушана пагадзіўся на гарбату, катэгарычна адмовіўшыся ад матэ, хоць гаспадар і палка распісваў карысныя якасці напою.

— Артыкул выдатна напісалі, будзе гваздом нумара, — не забыўся пахваліць Аляшэўскі, пасоўваючы па стале ў бок журналіста гліняны кубак з чорнай гарбатай. — А цяпер расказвайце, што здарылася...

Размова атрымалася кароткай. Кміціч патлумачыў, як, працуючы над матэрыялам, трапіў у складаную сітуацыю: здаецца, капануў нешта такое, што можа пагражаць яму асабіста. Не-не, газету гэта, наколькі ён разумее, ніякім чынам не зачэпіць. А вось яму самому, не выключана, давядзецца на нейкі час знікнуць — магчыма нават, з'ехаць за мяжу. Ці можа ён, Павел Кміціч, як журналіст разлічваць на тое, што рэдактар паручыцца перад замежнымі арганізацыямі за яго рэпутацыю пры неабходнасці?

Вядома ж, Аляшэўскі паабяцаў. Ён нават здзівіўся, што такое пытанне ўвогуле магло ўзнікнуць... А што ж такое раскапаў яго журналіст, калі не сакрэт?

Кміціч, аднак, хаваў свае таямніцы не горш за грымуар чарнакніжніка:

— Калі атрымаецца давесці да канца, то будзе ў нас сенсацыя. Але не хачу загадзя расказваць — баюся сурочыць. Магу толькі сказаць, што ўсё гэта мае дачыненне да часоў Беларускай Народнай Рэспублікі.

...Калі за Кміцічам зачыніліся дзверы, Антон зазірнуў у спальню. Незадаволеная жонка, напалову прачнуўшыся, капрызліва надзьмула вусны:

— Раннія госці? Губляеш час на супрацоўнікаў замест таго, каб пабыць з жонкай? І не баі-і-ішся, што жонка пакрыўдзіцца?

Антон прылёг побач і даказаў, што доляй смеласці яго пры нараджэнні не абдзялілі.

* * *

Якабіні. Люты 1918

Якабіні дзівіўся — ён не чакаў, што ксёндз павядзе іх такім хітрым шляхам.

Калі ксёндз Грашыс зайшоў у келлю, то пабачыў напружаныя твары афіцэра і кітайца: нацягнутая да трымцення скура, рэзка акрэсленыя скулы. Здавалася, кожная гадзіна чакання толькі накручвала нейкі ўнутраны завод у абодвух.

— Хадзем, — лаканічна прамовіў святар, вызваляючы гэтую ўнутраную спружыну ў сваіх гасцях.

Выйшаўшы з памяшкання, Грашыс пайшоў не да выхаду ў невялікім касцёле, а некуды направа. Знакам паказаў ісці за ім. На імгненне Якабіні завагаўся, але потым адпрэчыў сумневы і пайшоў за сваім ратавальнікам, кітаец завяршаў кароткую працэсію.

Фігура ў сутане павярнула ў адзін з кароткіх тупіковых калідораў і нагнулася:

— Прашу дапамагчы, бо ўдваіх гэта зручней.

Афіцэр зрабіў два крокі наперад і пабачыў, што ксёндз, учапіўшыся аберуч у вялікае меднае кальцо, падымае адну з плітаў падлогі. Якабіні прыйшоў на дапамогу, і неўзабаве на іх дыхнула холадам падземнага хода.

Грашыс узяў свечкі, якія стаялі ў сцянной нішы, запаліў іх і ўручыў кожнаму па адной.

— Прашу, — ксёндз па-ранейшаму быў нешматслоўны. Ён першым стаў спускацца па лесвіцы, якая вяла наніз. Святар прыкрываў дрыготкае полымя рукой, каб яго не згасіла нечаканым подзьмухам ветру. Агонь на кноце мітусіўся, кідаючы святло на старыя каменныя прыступкі, згладжаныя не адным стагоддзем, на плямы моху, якімі параслі вільготныя сцены.

— Куды мы ідзем? — у голасе ротмістра нечакана прагучалі хлапечыя ноткі зацікаўленасці. — Я ў дзяцінстве чуў пра падземны ход, але не ведаў, што ён пачынаецца акурат тут.

Грашыс прыпыніўся, павярнуўся і нейкае імгненне стаяў моўчкі, пазіраючы на сваіх спадарожнікаў. Афіцэру падалося, што ў вачах святара нечакана праскочылі вясёлыя яскаркі, хаця, магчыма, гэта была проста гульня святла і ценяў, такіх непрадказальных у гэты час і ў гэтым месцы.

— Падземны ход! Ха! Ён чуў пра падземны ход!.. У такім разе магу сказаць, што вы нічога не чулі. Тут сапраўдныя катакомбы, дзе я мог бы хаваць хоць цэлы полк. Але мне не трэба полк, мне няма патрэбы хаваць яго тут: войска Госпада нашага мае больш надзейныя сховішчы, чым можа прапанаваць сціплы аршанскі святар...

У голасе ксяндза пачулася ўсмешка:

— Калі я прыбыў служыць на Аршаншчыну, я пачуў ад мясцовых жыхароў розныя гісторыі пра падземныя хады.

У Смалянах мне нават расказвалі, што ад цяперашняй царквы да мясцовага замка «Белы Ковель» ішоў падземны ход, збудаваны ў часы каралевы Боны. І ход гэты майстры рабілі такой шырыні і вышыні, што каралева на карэце, запрэжанай тройкай коней, ездзіла на ім у царкву... Усе мае надзеі на адшуканне хода каралевы Боны ляснулі ў той момант, калі я даведаўся, што царкву збудавалі напрыканцы XVIII стагоддзя пры апошнім тагачасным уладальніку мястэчка з роду князёў Сангушкаў.

Грашыс зноў спыніўся, змусіўшы прыпыніцца і сваіх спадарожнікаў. Ён углядаўся наперад, быццам шукаў там нейкія зразумелыя толькі яму знакі. Потым зноў нетаропка рушыў наперад, працягваючы свой расповед.

— Я надоўга зарокся шукаць падземныя хады. Няхай, думаю, гэтым забаўляюцца аматары французскай белетрыстыкі ад Эжэна Сю ці яшчэ каго... А потым я прачытаў у дакументах, што пасля французскай рэвалюцыі ў Воршы асела сям'я герцага Кантэ — практычна каралеўскі род. Прытулілі іх тут мясцовыя езуіты. Што і як атрымаў ордэн ад гэтага прытулку, не паведамлялася, але нашыя браты ў Ісусе на той час акурат сталіся жупелам для ўсяго свету. У шчырасць іхных намераў не верыў ніхто, усе шукалі нейкай падступнасці.

Ксёндз паказаў рукой налева, ад чаго полымя свечкі замітусілася, водбліскі нервова заскакалі па сценах:

— Вось гэты паварот акурат вывеў бы нас да былога езуіцкага кляштара. Як вы ведаеце, там цяпер турма, і я мяркую, што вы самі не захочаце ісці гэтым шляхам.

— А вы хадзілі? — словы Якабіні быццам паляцелі ў цёмны ход, што вёў да былога езуіцкага кляштара, і згубіліся ў непрагляднай цемрадзі.

— А, так, хадзіў-хадзіў. Скарбаў не знайшоў ніякіх — ні герцагскіх, ні езуіцкіх: калі што і было, то айцы-езуіты ўсё вывезлі пры выгнанні іх за межы Расійскай імперыі. Выхад наверх замураваны — здаецца, таксама гадоў сто таму... Але мы пойдзем іншай дарогай — нас чакае левы бераг Дняпра, а там надзейны чалавек, які выведзе вас за пасты.

Водгулле крокаў разляталася ў падзямеллі і разбівалася аб камяні сценаў.

— Дык адкуль жа вы даведаліся пра гэтыя хады, ойча, калі самі сказалі, што перасталі верыць у іх існаванне? — ротмістр вярнуўся да пытання, якое паколвала ягоную цікаўнасць, быццам скакуна шпорамі.

— Хо! — у голасе ксяндза прагучала вясёлая задаволенасць. — Я ж кажу, да гэтага спрычыніўся род герцагаў Кантэ ды айцы-езуіты! Ну, а таксама... выпадкова знойдзены мной у касцельных архівах план падземных хадоў.

Грашыс весела рассмяяўся, і спадарожнікі падтрымалі яго, ацаніўшы дасціпны жарт.

— Я знайшоў яго акурат перад самай вайной. Збіраўся сам даследаваць, а потым апублікаваць звесткі для шырокай публікі... Але цяпер рады, што не паспеў абнародаваць інфармацыю пра сваю знаходку, іначай мы з вамі маглі б і не выйсці так свабодна.

* * *

Ego. Жнівень 2002

На той час яна ўжо часта бывала ў мяне, застаючыся на ноч. Побач з маімі джынсамі начавалі (а часам і не побач, а ўперамешку, пераблытаўшыся між сабой) то яе вузкія джынсікі, то спадніца.

Бывала яна ў мяне не кожную ноч — мая праца не заўжды дазваляла мне засяроджвацца на прыёме гасцей, нават такой прыемнай і чаканай госці.

Нешырокія сцёгны, зграбныя ножкі, пругкія клубы. Нешта сярэдняе паміж дзявочай і хлапечай фігуркай. Але толькі да таго моманту, пакуль яна не распраналася...

Я любіў назіраць за гэтым працэсам распранання, бо адчуваў сябе ў такія моманты адкрывальнікам прыгажосці. Не, не адкрывальнікам — першаадкрывальнікам!

Кожны раз — першаадкрывальнікам.

І калі яна сыходзіла пад душ, я падкрадаўся і ціхама падглядаў за яе заклапочанымі рухамі. Глядзеў, як яна праводзі-

ла рукамі сабе па вострых грудках, па жываце, спускаючыся да ўлоння, дзе ўсё было чыста паголена.

А потым яна мяне заўважыла... Я зразумеў гэта па яе твары — нечакана напружаным.

Я думаў, будзе скандал, крык. У мяне ўжо быў такі досвед, пасля чаго давялося развітацца з дзяўчынай. Адчуць на сабе хцівае падгляданне, чужы позірк — задавальненне, я б сказаў, далёка не для кожнага гурмана.

Пад маім поглядам Ксеня спярша наструнілася, напружылася. Яна быццам жадала скінуць з сябе гэты чужы позірк, які агортваў яе нябачным воблакам. А потым нечакана расслабілася — я пабачыў, што рухі яе сталі больш павольнымі, рукі затрымліваліся на смочках, пальцы не столькі цёрлі скуру, колькі вандравалі па ёй. Яна ўжо не мылася, а лашчыла сябе. Лашчыла сябе пад маім позіркам.

І гэта, як можна было заўважыць, прыносіла ёй своеасаблівае задавальненне...

Потым, калі мы ўжо адпачывалі ў ложку, Ксеня правяла сваімі нафарбаванымі кіпцікамі мне па грудзях і сказала:

— Я так і думала, што людзі сабе падбіраюць працу па сваіх сэксуальных упадабаннях. Аматары аральных задавальненняў ідуць у філолагі, садысты – у хірургі, людзі без фантазіі — у якія-небудзь слесары ці водаправодчыкі. А ты любіш падглядаць, калекцыянаваць назіранні. Таму табе дарога была або ў кіно, або ў журналісты... Мне здаецца, што табе падабаецца працэс падглядання за жыццём — ён больш эратычны, чым той момант, калі ты бачыш пад надрукаваным артыкулам свой подпіс «Павел Кміціч».

Я пасміхнуўся ў цемры куточкамі вуснаў, але магу паклясціся, што яе кашэчыя вочы пабачылі гэты мой ледзь заўважны рух.

Тое, што яна заставалася ў мяне не на кожную ноч, мне ніколечкі не шкодзіла. Наадварот, у такія ночы я пачуваўся вольным і адпраўляўся на сваё візуальнае паляванне — шукаць парачкі ў парках.

Падчас адной з такіх вылазак я і пабачыў разборкі з немаладым ужо мужчынам, які выкінуў у траву пушачку з

фотастужкай. Гісторык Рыбнік імкнуўся хаця б такім спосабам супрацьстаяць людзям, якія імкнуліся зламаць яго. Ён ратаваў не свае дакументы, а сваю годнасць...

Так у мяне з'явіўся сюжэт, які я аж да дрыготкі ў руках захацеў прасачыць да канца. Я хацеў раскрыць гэтую таямніцу, нават калі я не змагу напісаць пра яе.

* * *

Якабіні. Ліпень 1918

У гарадоў, як і ў людзей, у кожнага свая гісторыя жыцця. І, мабыць, няма такога горада, які ўвесь час свайго існавання заставаўся б у адной ролі: нават Рым — і то не ўвесь час быў сталіцай Рымскай імперыі.

Гісторыі гарадоў падобныя да людскіх і адначасова не падобныя да іх. Гэта людзі жывуць, старэюць і паміраюць, а гарады... Некаторыя з іх сапраўды старэюць і мізарнеюць, згасаюць. Хто паверыць, што заштатная дробная Копысь некалі была настолькі важным горадам, што летапісец занатаваў яе ў ліку іншых, захопленых Уладзімірам Манамахам?

А хто дасць веры, што маленькі калісьці Магілёў, якога ў часы Манамаха і Копысі проста не існавала, стаў важным гандлёвым горадам толькі дзякуючы таму, што бастыёны суседняй Воршы прыкрывалі яго ад усходняга ўварвання? І пакуль Ворша ваявала, гандлёвыя шляхі пайшлі на поўдзень ад яе — праз Магілёў: гандаль не любіць ісці адной дарогай з вайной. Хаця гандляры лепш за іншых ведаюць, што на вайне можна хутка і добра разжыцца, але гэтаксама і згубіць нажытае тут можна не менш хутка.

І вось ужо некалі ўмацаваная крэпасць Воршы губляецца ў цені гандлёвага і рамесніцкага Магілёва-на-Дняпры — цэнтра губерні. А заштатную Копысь і ўвогуле не відаць на фоне вялікага горада, які на пэўны час змудрыўся стаць нават царскай Стаўкай.

Але вясна 1918 года быццам круціць нябачную рулетку, на якой гарадам выпадаюць новыя шанцы. Чорнае, чырвонае, зэро — ляціць шарык, пушчаны рукой невідочнага круп'е. Спыняецца на Менску — яму выпаў шанец стаць цэнтрам

новай Беларусі замест ранейшай Вільні. Новы запуск шарыка. Чорнае, чырвонае, зэро — і Ворша становіцца адным з самых значных цэнтраў гандлю. Праўда, гандлю не простага — кантрабанднага. Станцыя Ворша-Таварная Рыга-Арлоўскай чыгункі апынулася пад кантролем нямецкага войска: згодна з Берасцейскім мірным трактатам дысцыплінаваныя немцы спыніліся там, дакуль дайшлі. І таму станцыю Воршу-Пасажырскую той жа самай Рыга-Арлоўскай чыгункі кантралявалі чырвонаармейцы. Адных ад другіх аддзяляла толькі тарфяное балота.

Але хіба гэта такая ўжо вялікая перашкода для тых, хто хоча рабіць свой маленькі гешэфт паміж двума ўзброенымі войскамі? Ніхто не страляе? Не! А значыць, гандаль можа ўзняць галаву, якую дагэтуль угінаў у плечы, хаваючыся ад шалёных куляў.

У немцаў можна купіць шмат чаго: жаночыя панчохі — фільдэкосавыя, а то і фільдэперсавыя, якія лашчаць скуру, быццам пяшчотнае дакрананне матчынай рукі ў дзяцінстве, пахучыя кубінскія цыгары, напоеныя водарамі далёкага пякучага сонца, цяжкога мора і слодыччу смуглявых дзявочых сцёгнаў, на якіх катаюць гэтыя цыгары... Усё гэта і шмат чаго іншага ідзе з Воршы — прыфрантавой? памежнай? — у сталічны Петраград, у Маскву, каб узрадаваць тамтэйшых прыгажуняў, каб пацешыць паднябенні тамтэйшых гурманаў экзатычнымі смакамі і водарамі.

Іцык Фінштэйн не забіваў сабе галаву дурнымі думкамі пра лёс гарадоў і пра іх ролю ў гісторыі — ён быў яшчэ малады, але ўжо сур'ёзны кантрабандыст. Хай розныя там шлімазлы ладзяць свае гешэфты з немцамі на чыгуначнай станцыі, а ён разумее, што можна прайсці далей у нямецкія тылы і там набыць той самы тавар танней. Значыць, і прыбытак ад яго продажу будзе большы! Пагатоў — там немцы: народ культурны, дагледжаны, цывілізаваны. Яны ніколі не дазволяць сабе пакрыўдзіць гандляра толькі за тое, што той — габрэй. Анягож, не тое што мясцовыя...

А можа пашэнціць і яшчэ больш — надзейныя людзі часам прапаноўваюць перавесці каго-небудзь таемнымі сцяжынамі

праз лінію фронту. Хтосьці з былых адкормленых паноў ці гарадскіх чысценькіх чыноўнікаў уцякае ад абяцанага бальшавікамі раю туды, дзе пануюць нямецкія парадкі. Ёсць і тыя, хто ідзе ў адваротны бок — да чырвоных.

А яму, Іцыку, што з таго! Абы плацілі сумленна грошы — як дамовіліся, і яму няма ніякай справы да таго, навошта і каму трэба пераходзіць гэтую хісткую, не абазначаную на зямлі лінію фронту.

Гэтым разам Іцык вёў спадарожніка на бальшавіцкі бок. Ён назваўся Антонам, патлумачыў Іцыку, што вяртаецца з нямецкага палону, але не мае ўсіх належных дакументаў, таму пабойваецца, што дзе-небудзь на лініі фронту яго могуць схапіць.

— І-і-і, — дробненька засмяяўся кантрабандыст, паказваючы шчарбаты рот. — Схапіць могуць не толькі там, дзе фронт. У бальшавікоў цяпер шмат дзе могуць зацапаць — там ЧК мяце ўсіх без разбору! Ну, хіба што сваіх не арыштоўваюць.

— І што, шмат саджаюць? — выказаў зацікаўленасць Антон, папраўляючы хатуль, які абціраў спіну салдацкага шыняля.

— Навошта шмат саджаць? — крывая ўсмешка мазнула твар Іцыка. — Можна і адразу ў распыл пусціць, каб месца ў арыштным доме не займаць. Пад арышт багатых бяруць — патрабуюць, каб заплацілі працоўнаму народу за сваю свабоду... Не ведаю, як працоўнаму народу, але камісарам некаторыя плацяць. А як не заплаціць, калі цябе да крыві б’юць? Гэта трэба мець зусім мішугене коп — дурную галаву. Лепш заплаціць і выйсці.

Сцяжына, па якой ішлі кантрабандыст і яго спадарожнік, ляжала далёка ад шырокіх гасцінцаў — ішла ўскрайкам лесу, а то і заглыблялася ў гушчар.

Антон працягваў распытваць:

— Адчуваю, даўно мяне не было, шмат памянялася... А ЧК гэтая толькі ў горадзе арыштоўвае?

— А што ёй па вёсках рабіць? — Іцык здзівіўся, потым сплюнуў. — Там развёрстка ездзіць — хлеб забірае. Як хто

не захоча аддаць, то і застрэліць могуць. Вунь у Пугляі нядаўна рота выязджала — маўляў, там кулакі хлеб не хацелі аддаваць, паўстанне паднялі. А як вярнуліся, дык сказалі, што на камісара там уся вёска паднялася, толькі кулямётамі сцішылі... Праўда, стралялі над галовамі — толькі каб напалохаць, а то хто б потым хлеб расціў для наступнай развёрсткі.

— Не любіш ты новую ўладу, гляджу, — у голасе Антона прагучалі запытальныя інтанацыі.

— А за што мне асабіста яе любіць? Не, я рады, што няма мяжы аселасці. Але ж усё адно сумленным мазалём на жыццё зараз не заробіш, а за мой занятак ЧК арыштаваць можа... Сказалі, што аддадуць зямлю сялянам, а фабрыкі рабочым. Але я пакуль што не пабачыў ніводнага рабочага, які б разбагацеў на цэлую фабрыку.

— Але ж зямлю сялянам аддаюць?

— Ага, зямлю — сялянам, а хлеб з яе — камісарам...

Гутарка скацілася, як воз з гары, і заглухла. Далей яны ішлі ў напружаным маўчанні.

Калі на даляглядзе з'явіліся першыя ўскраінныя дамы Воршы, Іцык з палёгкай уздыхнуў:

— Я сваю справу зрабіў, таму тут мы з табой і развітаемся. Далей у кожнага з нас свая дарога.

Правёўшы позіркам кантрабандыста, які збочыў на нейкую ледзь заўважную сцяжыну і хутка знік за паваротам, яго спадарожнік адышоўся да бліжэйшага кустоўя — нібы па патрэбе. Ён коратка свіснуў два разы і чуйна прыслухаўся — у адказ прагучаў такі ж свіст. Праз хвіліну Якабіні, які хаваўся пад імем Антона, радасна абдымаў кітайца:

— Як ты, Ян? Не турбавалі цябе, не шукалі?

— Чаму не шукалі? Шукалі, — меланхалічна прамовіў кітаец, быццам адказваючы не Якабіні, а нейкаму ўнутранаму суразмоўцу. — Як кажа мудрэц, рыбу лепш хаваць у вадзе, а апалы ліст — у кучы такіх самых лістоў. Вось і я быў сярод сваіх. А для вас, белых, усе кітайцы на адзін капыл, як блізняты, таму знайсці мяне не так лёгка.

— А Верка твая як? — з усмешкай працягнуў роспыты Якабіні.

Аблічча кітайца імгненна скамянела, больш рэзка абазначыліся скулы, і зморшчыны быццам сталі больш глыбокімі. Ён распавёў, што салдатку Верку, якая яго прытуліла, расстралялі чэкісты: затрымалі на базары падчас аблавы, абвінавацілі ў спекуляцыі і нажыве на працоўным народзе — і расстралялі. Кіраваў расстрэлам ужо знаёмы ім барадач — Дзерваед. Служыў ён у мясцовай ЧК, утворанай у красавіку, і быў там другім па важнасці чалавекам — намеснікам начальніка.

Якабіні не знайшоўся што сказаць. «Спачуваю табе», — выціснуў ён нарэшце з сябе шурпатую фразу. Кітаец не азваўся...

У горадзе іх чакала канспіратыўнае жытло. Дом размяшчаўся практычна ў цэнтры горада — у Турэмным завулку, недалёка ад гарадской турмы. Гаспадар, Платон Сцяпанавіч, быў немалады ўжо, лысаваты мужчына з жывоцікам. Да рэвалюцыі ён служыў у мясцовым аддзяленні Маскоўскага зямельнага банка, які належаў калісьці сям'і банкіраў Палякових — ураджэнцаў гэтых мясцінаў. Лазар Палякоў здолеў не проста выбіцца з мяжы аселасці і зрабіць сабе вялікі капітал, але і атрымаць высокі тытул тайнага саветніка Расійскай імперыі. Пры гэтым ён лічыўся кіраўніком маскоўскай габрэйскай абшчыны.

Платон Сцяпанавіч, які служыў у банку Палякових, меў Лазара Саламонавіча Палякова за ідэал, на які раўняўся. Біяграфія славутага банкіра яскрава паказвала, што бліскучы фініш можа не залежаць ад таго, з якога месца ты стартуеш...

Але бурлівыя падзеі апошніх месяцаў так перакроілі ўсё навакольнае жыццё, што банкаўскі службовец сам не заўважыў, як стаў прыхільнікам грамадскіх пераменаў, паверыў у Беларускую рэспубліку і цяпер быў гатовы працаваць для яе ўмацавання. Да таго ж, кожнай новай уладзе спатрэбяцца свае банкіры, а якая ж улада адмовіцца ад банкіра лаяльнага? Гэта ж адныя толькі бальшавікі абвясцілі, што адменяць грошы, а значыць, ні банкі, ні банкіры ім не спатрэбяцца.

Даць цяпер прытулак ротмістру, пасланаму Радай БНР, Платон Сцяпанавіч лічыў для сябе гонарам і адказнасцю.

Для Якабіні ў доме вылучылі асобны пакой, дзе акрамя ложка знайшлося месца і для стала. За пузаты разьблёны камод, які стаяў у куце, гаспадар папрасіў прабачэння — дужа нязручна было б яго перасоўваць у нейкі іншы пакой. Ротмістр супакоіў: камод яму ніяк не замінае. А вось куды яму самому падзецца пры нечаканай аблаве?

Гаспадар хітра падміргнуў і ўрачыста адчыніў дзверы шафы. З выглядам хітрага ката, які толькі што паласаваўся смятанкай, Платон Сцяпанавіч націснуў на адну з плашак на ўнутранай бакавіне шафы — і задняя сценка паехала, раскрываючы цёмную пашчу. Хованкай служыла ніша, даволі прасторная, каб там можна было змясціць двух, а то і трох чалавек.

Па словах гаспадара, яшчэ ніводная аблава не раскрыла гэты сакрэт.

Пасля вячэры Якабіні запрасіў гаспадара на размову. У пакоі да адурэння соладка пахла ліпай, што расла амаль пад самым вакном. Ротмістр аўтаматычным рухам паправіў гімнасцёрку і асцярожна спытаўся:

— Платон Сцяпанавіч, на каго ў горадзе мы можам разлічваць?

* * *

Кміціч. Канец жніўня 2002

Кміціч збіраўся ў дарогу. З сабой ён вырашыў браць няшмат — толькі самае неабходнае. Нягледзячы на цёплае вераснёўскае надвор'е, узяў швэдар з воўны, шчыльную джынсовую куртку, зімовыя красоўкі. Два ліхтарыкі і чатыры камплекты батарэек. У краме спартыўных тавараў купіў складную рыдлёўку. Шпагат купляў у некалькіх гаспадарчых крамах — каб менш кідацца ў вочы прадавачкам.

Робячы гэтыя пакупкі, Павел пачуваўся няўтульна, быццам гуляў у нейкія шпіёнскія гульні, у якія трэба было скончыць гуляць яшчэ ў дзяцінстве. Але потым узгадаў песню Бобі МакФэрына «Don't worry, be happy» і параіў сабе расслабіцца: усе хлопчыкі ў любым узросце гуляюць у якія-небудзь гульні. Чым гульня ў агента 007 горшая за гульню

ў фаната футболу або аматара рыбалкі? Ды нічым! Нават можа быць, што задавальнення яна прыносіць яшчэ больш.

Калі са сваімі пакупкамі ён падышоў да дома, то пабачыў: каля пад'езда на лавачцы яго чакае Ксеня. Цёплы жнівеньскі вечар дазволіў ёй прыйсці ў зялёнай маечцы, якая паведамляла ўсім навакольным: «I'm good», і міні-спадніцы.

— Я не хацела размаўляць па тэлефоне, — патлумачыла дзяўчына. Павел пацягнуўся пацалаваць, але яна замест вуснаў падставіла шчаку. Трымалася Ксеня наструнена.

Яны падняліся ў кватэру, і Кміціч паставіў наладаваную сумку ў калідоры.

— Ты некуды сабраўся?

Ён няпэўна гмыкнуў, потым кіўнуў.

Дзяўчына глядзела неяк адстаронена, трымалася як чужая — штохвіліны была гатовая сарвацца і ўцячы. Павел маўчаў, не ведаючы, як рэагаваць на такія паводзіны.

Нарэшце Ксеня перапыніла маўчанне:

— Ты ўжо амаль тыдзень не сустракаешся са мной. Ты займаешся сваімі справамі, па тэлефоне адказваеш кароткімі фразамі, быццам хочаш, каб я адчапілася...

Павел адчуў сваю віну, але разам з тым і шалёнае жаданне апраўдацца: ён жа хацеў агарадзіць Ксеню ад сваіх праблемаў. Ён літаральна спінай адчуваў блізкую небяспеку. На фотаплёнку, якая дасталася яму ў «спадчыну» ад Рыбніка, вёў паляванне хтосьці яшчэ — небяспечны, хціўы драпежнік. Павел не хацеў рызыкаваць Ксеняй і таму апошнімі днямі пазбягаў сустрэчаў з ёй.

— У цябе нехта з'явіўся? — голас Ксені здрыгануўся, быццам лопнула ўнутры нябачная цеціва. — Мама кажа, што ты мяне пазбягаеш, бо ў цябе хтосьці з'явіўся, і ты збіраешся мяне кінуць. *Паматросіў і кінуў*... Вунь і цяпер некуды збіраешся паехаць, не сказаўшы мне ні слова, не папярэдзіўшы ні пра што.

Кміціч настолькі збянтэжыўся, што спярша нават не знайшоў, што сказаць, а потым выплюхнуў з сябе:

— Ты маму болей слухай! Яна мяне бачыла два разы за жыццё, але ўсё ведае, ага. Прабач, вядома, гэта твая мама,

але давай пастараемся нашыя з табой адносіны будаваць удваіх, а не ўтраіх. Павер мне, што так будзе лепш для ўсіх.

Ён замоўк, адчуваючы, што выпусціў пару. Потым нягучна сказаў:

— Я зараз запару каву. Паразмаўляем спакойна?

Твар Ксені па-ранейшаму быў закуты ў ледзяную маску, але на каву яна пагадзілася.

Яны сядзелі за сталом на невялікай кухні. Філіжанкі з кавай стаялі паміж імі, як блізняты. Ксеня запаліла цыгарэту з ментолам.

— Прабач, ты ж ведаеш, што я гэтага не люблю, — зморшчыўся Павел.

— Давядзецца як-небудзь патрываць, — у голасе дзяўчыны было столькі сталі, што яе хапіла б на браню якога-небудзь нямецкага «Тыгра».

— Ксеня, ты ж ведаеш, што праца ў мяне не зусім звычайная: у ёй бываюць нечаканасці, бывае, што трэба сарвацца і некуды на злом галавы несціся. Я журналіст, і, значыць, я залежу ад падзеяў. Калі б я сядзеў з дзявятай да шостай у офісе, то жыццё ў мяне было б значна больш прадказальным, і тады мне не давялося б, напрыклад, прасіць цябе, каб ты пажыла некалькі дзён у бацькоў. Але зараз мне трэба мець развязаныя рукі, каб я не клапаціўся кожную хвіліну пра тое, што адбываецца з табой. У мяне вельмі важны і складаны сюжэт вымалёўваецца. Менавіта таму я і папрасіў цябе пабыць там. Менавіта таму і не бачыліся мы некалькі дзён...

— Сумка! Ты збіраўся збегчы, не папярэдзіўшы! — недапаленая цыгарэта нацэлілася ў Кміціча, быццам руля пісталета. Дымок, які спакойна цягнуўся ад гэтай рулі, сведчыў пра цвёрдасць рукі стралка.

Журналіст памаўчаў, быццам прызнаючы рацыю цяжкога абвінавачання. Потым задуменна, але цвёрда сказаў:

— Прабач, што паеду без цябе — гэта ўсё ж не ў адпачынак, а па працы.

Забыўшыся пра цыгарэту, дзяўчына моўчкі глядзела на яго, быццам штосьці ўзважваючы ў сваіх думках. Нарэшце

адна з шаляў відавочна пераважыла, і Ксеня рашуча сказала:

— Ты псіх, Кміціч, — мне трэба было гэта зразумець яшчэ тады, калі я заўважыла твае гульні ў падгляданкі. Але тады мне гэта падалося мілай забавай. Памылілася! Я не веру ў твае словы, быццам ты жадаеш мяне абараніць і таму хаваеш ад мяне нейкія свае сюжэ-эты. Ты мне не давяраеш, але чамусьці лічыш, што я павінна давяраць табе. Я не хачу быць з чалавекам, якому я не магу давяраць. З чалавекам, які нешта ад мяне хавае. Гэта апошняя кава, якую мы выпілі разам. Мае рэчы, якія засталіся тут, выкінь — я іх нават забіраць не буду. Бялізну, у якой нехта корпаўся бруднымі рукамі, мне апранаць брыдка, а астатнія рэчы будуць нагадваць пра цябе — гэтага я не хачу.

Яна закусіла ніжнюю вусенку, якую Павел так любіў прыкусваць падчас пацалункаў, а потым сказала нейкім зусім стомленым голасам:

— Ты эгаіст, цябе ніхто па-сапраўднаму не цікавіць, акрамя цябе. Я радая, што зразумела гэта не вельмі позна. Бывай, Кміціч, не тэлефануй мне.

Калі шчоўкнуў замок у дзвярах, Павел усё яшчэ працягваў сядзець на кухні, утаропіўшыся вачыма ў нейкую кропку на сценцы. Каля філіжанкі з недапітай кавай яшчэ дымілася забытая цыгарэта. З ментолам.

* * *

Якабіні. Канец ліпеня 1918

Язэп Бурэвіч, які яшчэ нядаўна займаў пасаду аршанскага камісара па працы, паглядзеў на свае рудыя чаравікі і парадаваўся: амерыканскія, зносу ім няма. У гэтых чаравіках год таму, увесну 1917-га, Бурэвіч вярнуўся з амерыканскай эміграцыі — як толькі пачуў, што на радзіме адбылася рэвалюцыя.

Праводзячы яго дадому, амерыканскія камрады казалі:

— Калі ў вас дыхаюць свабодай, то прывязі пару глыткоў і нам. А каб твае ногі не забыліся дарогу сюды, мы табе дорым чаравікі. Яны амерыканскія, яны дарогу назад знойдуць.

Усе смяяліся.

Свабода дома выявілася зусім не такой, якой яна бачылася з-за акіяну. Тры гады вайны азвярылі людзей: больш стала ў іх нянавісці, лютасці. Усе тыя, хто нажываўся на працоўным чалавеку да эміграцыі Бурэвіча, засталіся пры ўладзе і пры грашах. Дэмакратычныя змены абвясцілі, але насамрэч памянялася мала: ніхто не хацеў ахвяраваць сваім багаццем і ўладай дзеля нейкіх карэнных зменаў. Сімвалічным казлом адпушчэння для новай улады стаў былы начальнік турмы Ракоўскі: як памагатага царскага рэжыму яго асудзілі... ажно на тры месяцы хатняга арышту.

Так партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў папоўнілася яшчэ адным сябрам. Калі партыя падзялілася на дзве часткі, Бурэвіч апынуўся сярод левых эсэраў — тых, што ўтварылі кааліцыйны ўрад з бальшавікамі. Разам з бальшавікамі эсэр Бурэвіч трымаў у аршанскім Савеце абарону ад меншавікоў, правых эсэраў, бундаўцаў. Хаця правільней было б сказаць, што бальшавікі трымалі гэтую абарону разам з левымі эсэрамі, якіх у Савеце была большасць.

Яго выбралі камісарам працы — адна з ключавых пасадаў для горада, у якім на вуліцах віселі запрашэнні ехаць на працу ў Нямеччыну. Праўда, апошнім часам камісар адчуваў, што з былымі паплечнікамі становіцца ўсё цяжэй пра нешта дамовіцца.

Ліпеньскі мяцеж левых эсэраў у Маскве быў задушаны, кіраўнікі партыі сядзелі за кратамі. Мяркуючы па ўсім, маскоўскае кіраўніцтва бальшавіцкай партыі разаслала па месцах загад не давяраць левым эсэрам. Бурэвіча адхілілі ад пасады, хаця месца ў Савеце за ім яшчэ заставалася.

У тым, што маскоўскі мяцеж кіраваўся ўнутранай праўдай, Язэп не сумняваўся: колькі можна аддаваць пад нямецкіх паноў сваю зямлю? Гэтыя бальшавікі там, у Маскве, гатовыя ахвяраваць хоць чым, абы ўтрымаць уладу, але ж ці дзеля гэтага рабілася рэвалюцыя? Калі мы не дапаможам нашым братам, то чаго мы вартыя з нашай свабодай?

Але тое, чаго не ўдалося дамагчыся ў Маскве, можа атрымацца па-за ёй — тут, дзе бальшавікі не настолькі моцна

трымаюць уладу, дзе яны вымушаныя лавіраваць, а не грукаць кулаком па стале.

Бурэвіч пасміхнуўся сваім думкам і рудым чаравікам. Бальшавікі думалі, што перамаглі яго, адхіліўшы ад пасады камісара працы. Насамрэч яны проста далі яму больш вольнага часу, які левы эсэр скарыстаў для агітацыі. Ён хадзіў па часцях аршанскага гарнізона і збіраў мітынгі, ён ездзіў па навакольных вёсках і мястэчках і паўсюль казаў пра тое, што прыгнёт новай улады становіцца горшым за царскі. Ён распавядаў, як харчразвёрстка забірае ў мужыка апошні хлеб, а потым бальшавіцкія камісары адпраўляюць гэты хлеб эшалонамі ў Нямеччыну, бо так яны плацяць па ўмовах замірэння.

Дадому ён вяртаўся познімі вечарамі, бо пасля паездак нярэдка ішоў у гарадскі камітэт партыі, дзе абмяркоўваў планы, дамаўляўся пра выступы і мітынгі.

Цяпер ён сядзеў у рэстаране гатэля «Брысталь», у асобным кабінеце. Гарадскі камітэт накіраваў яго на перамовы, бо з прапановай аб супрацоўніцтве звярнулася Беларуская Рада. Бурэвічу трэба было даведацца, ці можна спадзявацца на рэальную дапамогу і што за гэта запросіць эмісар Рады.

У рэстаране яму не дужа падабалася: складалася ўражанне, быццам навокал не было ні вайны, ні рэвалюцыі, нічога іншага падобнага. Накрухмаленыя абрусы, парцалянавыя талеркі, тонкія чаркі нібыта насміхаліся з Бурэвіча. Сціснуўшы зубы, ён паглядаў на свой запылены руды абутак.

За сценкай патэфон механічна граў занудныя цыганскія спевы з нафталінавым водарам дэкадансу. Раз-пораз нехта з абслугі, відаць, мяняў кружэлкі і ставіў штосьці больш жвавае, але не менш пошлае — рамансы ў выкананні Анастасіі Вяльцавай і Варвары Панінай. Жаночыя галасы з надрывам спявалі пра складанае неўзаемнае каханне, пра падманшчыкаў-здраднікаў і нялёгкі лёс кабеты.

Чалавек, які зайшоў у кабінет, быў апрануты ў шэры з тонкай палоскай пінжак, але адчувалася ў ім ваенная пастава — нягнуткі, як цвік. Штосьці ў яго барадатым твары падалося Бурэвічу знаёмым, і ён угледзеўся больш пільна.

— Не пазнаяце, грамадзянін Бурэвіч? — іранічная інтанацыя спрацавала быццам ключ, які адкрыў нейкія спраты ў памяці.

— Пазнаў, цяпер пазнаў ужо, грамадзянін Якубеня, — палёгку ў голасе Бурэвіча было цяжка схаваць. — Здзіўлены, што вы так свабодна вяртаецеся ў горад пасля сваіх колішніх уцёкаў — ЧК вам нічога не забыла.

— Якая злапомная ўстанова, — з ранейшай іроніяй працягнуў Якабіні. — Але, я спадзяюся, вы не пабяжыце туды з даносам на мяне?

Бурэвіч пазнаваў і не пазнаваў у гэтым чалавеку таго ротмістра, якога ён бачыў паўгода таму, узімку 1918-га. Тады гэта быў камандзір палка, амаль заўсёды заняты клопатамі і турботамі сваіх салдатаў. Цяпер перад ім сядзеў расслаблены дэндзі, які нібы толькі што прыбыў з марскога курорта. Што было сапраўднай сутнасцю, а што — маскай? І што гэты Якубеня хоча паказаць сваёй вонкавай весялосцю?

Тым часам эмісар Рады сеў за стол і пачаў частавацца. Размову ён працягваў так, быццам і не перапыняўся на пікіроўку наконт чэкістаў:

— Мы чулі, што ў вашай партыі ўзніклі разыходжанні з бальшавікамі. Прынамсі, у гэтым мы можам аб’яднаць нашыя намаганні.

— Вы кайзеру віншавальную тэлеграму дасылалі, — змрочна працадзіў Бурэвіч.

Якабіні адарваўся ад сваёй талеркі і халодным позіркам смела паглядзеў у вочы суразмоўцу:

— Так, было такое. А вы выступілі разам з бальшавікамі, фактычна падтрымалі разгон Устаноўчага сходу. Магу прыгадаць таксама дзейнасць вашых паплечнікаў у падпісанні Берасцейскага міру і харчразвёрсткі...

— Мы выступаем супраць! Мы не падтрымліваем! — ад абурэння голас левага эсэра прагучаў фальцэтам. Бурэвічу на момант стала няёмка, і ад гэтага ён раззлаваўся на Якабіні. Бач ты, шэльма, як выкручвае, знарок хоча прымусіць яго апраўдвацца!

— У Радзе таксама набіраюць моц сацыялісты, — быццам суцішаючы гарэзлівае дзіця, прамовіў той. — Таму мы і

разлічваем на супрацоўніцтва з сіламі, якія выступаюць за дэмакратыю і шырокія правы працоўнага народу.

Некалькі хвілін абодва маўчалі. Якабіні працягваў есці, мала зважаючы на левага эсэра. Стваралася ўражанне, што ротмістр завітаў у рэстаран толькі для таго, каб згадаць залатыя мірныя дзянькі, калі было шампанскае, канкан ды іншыя радасці дэкадансу. Але-але, на жаль, тых шчаслівых часоў прастыў і след, і ў напамін пра іх застаўся гэты не вельмі багаты, але ўсё яшчэ прыстойна сервіраваны стол. Дый кухар, варта аддаць належнае, быў далёка не самы горшы: фаршыраваны рулет з цяляціны, бульба ў формачках. Асобна ў соусніку стаяў, па словах афіцыянта, «соус д'ябль, найсвяжэйшы і востры, як лязо ў цырульніка». Дапаўняла гэтую нечаканую ў ваенны час кулінарную радасць французскае мерло. Цікава, дзе яны гэта ўсё бяруць у франтавым горадзе, задумаўся афіцэр, але потым прыгадаў, якія памеры набыла ў Воршы спекуляцыя.

Нарэшце Якабіні адарваўся ад ежы і зноў зірнуў на свайго суразмоўцу праз крышталёвы бляск келіха:

— Мы можам доўга прыгадваць адзін аднаму былыя грахі. А можам проста пачаць жыць у сённяшнім дні і дзейнічаць так, як найлепш атрымоўваецца менавіта сёння. Мы не ворагі тым, хто выступае за правы народу...

Бурэвіч цяпер больш за ўсё нагадваў маладога бычка: упарты погляд спадылба сведчыў, што ён не верыць ніводнаму слову суразмоўцы:

— Вы ствараеце для рэвалюцыі пагрозу справа. Ды яшчэ і спрабуеце адмежавацца нацыянальнымі рубяжамі. А нам без Расеі перамагчы не ўдасца, дый проста выжыць — наўрад... У чым жа карысць для працоўнага народу ад вашай дзейнасці?

— Калі мы не можам зрабіць адразу добра ўсім, то хаця б пачнем рабіць добра тым, хто жыве побач з намі, — пасміхнуўся Якабіні. — Мяне гэтай немудрагелістай думцы навучыў адзін мой кітайскі знаёмец.

— Чуў, чуў я пра вашага кітайца, — махнуў рукой левы эсэр. — Дзерваед дужа вялікі зуб на яго мае, усім расказвае...

— Дык і я шмат чаго чуў за тыя некалькі дзён, што знаходжуся ў горадзе. І па тым, што я чуў, не вельмі складана зразумець: тут вы хочаце ўзяць рэванш за арышт левазсэраўскага кіраўніцтва ў Маскве. Калі гэта зразумеў я, то разумеюць і бальшавікі. Ну, ці вось-вось зразумеюць... Я вам прапаную дапамогу і працягваю руку партнёрства.

— І што мне ваша рука і прапановы? Не замуж жа клічаце! — Бурэвіч перакрывіўся, як мыла з'еўшы. — Мы маем на каго абаперціся ў Воршы і павеце, маем сілу. А вы? Што вы можаце прапанаваць?

— Мой полк. Думаю, не ўвесь, але палову палка я, мабыць, змагу павярнуць супраць бальшавікоў — пасля пачатку харчразвёрсткі іх там любяць менш, чым раней...

— Ваш полк даўно разагітаваны намі, — Бурэвіч не мог схаваць крываватую ўхмылку пераможцы. — І ён, і большасць іншых салдатаў гарадскога гарнізона пойдуць за намі. У бальшавікоў амаль нікога няма. Ну, хіба што іхная ЧК... Яны спрабавалі агітаваць сярод кітайцаў, але тыя трымаюцца асобна, бо ўсе ўжо ведаюць пра адносіны вашага кітайца з Дзерваедам, якога тут усе прызнаюць за аднаго з бальшавіцкіх начальнікаў. Вось калі б вы маглі нам гарантаваць дапамогу кітайцаў — асабліва калі сярод іх шмат такіх умельцаў, як ваш знаёмец...

Першы раз за ўсю размову левы эсэр дапытліва зірнуў на ротмістра. Той меланхалічна спустошваў келіх з чырвоным віном. Дапіўшы напой, Якабіні нарэшце азваўся:

— І на што мы можам разлічваць, калі я гарантую вам падтрымку кітайцаў?

Левы эсэр, які адчуваў сябе пераможцам у размове, рашуча махнуў кулаком, рассякаючы паветра пакоя:

— Вось калі вы зможаце нам штосьці гарантаваць, тады і пагаворым. Пакажыце спярша, што за вамі ёсць хоць нейкая сіла!

За сценкай механічная спявачка ў патэфоне зацягнула на нізкіх танах: «Во-очы-ы чорныя».

Выйшаўшы з гатэля, дэндзі, у якім Бурэвіч з такой цяжкасцю апазнаў ротмістра, пайшоў не ў цэнтр горада, чаго

можна было чакаць ад мужчыны ў дарагім гарнітуры. Ён павярнуў у вузкія завулкі, дзе можна было лёгка адарвацца ад магчымага праследу.

Пераканаўшыся, што за Якабіні ніхто не сочыць, да яго ценем далучыўся Ян. Скоса зірнуўшы на твар ротмістра, ён усё зразумеў, але на ўсялякі выпадак спытаўся:

— Не?

— Не, не дамовіліся. Пакінем наш куфар у ксяндза і будзем сыходзіць адсюль — тут будзе не нашая гульня. Нам хіба што давядзецца вярнуцца сюды пазней.

— А мае падказкі, як весці размову, вы скарысталі? — заклапочана спытаўся кітаец.

— Мне здаецца, што якраз яны і атрымаліся найменш эфектыўнымі, — Якабіні не ўдалося схаваць у голасе горыч паразы.

Кітаец недаверліва пакруціў галавой:

— Дзіўна! Усё ж такі вы, еўрапейцы, вельмі дзіўныя...

Ксёндз Грашыс пагадзіўся прыняць на захаванне не дужа вялікі куфар, што прыцемкам даставілі ў касцёл два чалавекі, адзін з якіх хаваў пад нізка насунутым капелюшом кітайскае аблічча.

— Войча, я спадзяюся толькі на вашую дабрыню і сумленнасць, — Якабіні хваляваўся, як малое дзіця. — Тут золата, якое Беларуская Рада здабыла на арганізацыю паўстання. Верныя людзі паспелі вынесці гэтыя запасы з банка літаральна за пару гадзін да таго, як камісары ў снежні 1917-га прыйшлі нацыяналізоўваць усе банкі. Думаў я, што яно акурат прыдасца.. На жаль, на паўстанне зараз мы яшчэ маем мала сілы... Перавозіць золата праз мяжу фронту мне будзе складана, таму я прашу вас зберагчы яго — мы вернемся і аддзячым. Зараз мне няма на каго больш спадзявацца ў гэтым горадзе... За нашу і вашу свабоду!

Айцец Вікенцій цяжка засоп:

— Хлопча, гэта вялікая спакуса для чалавека, які хоча падтрымаць незалежнасць сваёй Літвы... Я буду маліцца Пану нашаму і спадзявацца, што ён дапаможа мне застацца сумленным чалавекам.

Ва ўжо вядомым падземным калідоры яны адлічылі ад раздарожжа 10 крокаў і выкапалі яму. Засыпаны зямлёй куфар патануў у яе глыбіні, зберагаючы свае скарбы да далейшых, больш спрыяльных часін. А яны, як спадзяваўся Якабіні, мусілі надысці ўжо неўзабаве — час імкліва мяняў усё навокал, крышачы ў друз разнастайныя высокія ўлады і непарушныя калісьці межы.

Хутка, хутка вернецца ён сюды, каб давяршыць сваю працу, каб усталяваць у Воршы ўладу таго народа, які тут жыве...

* * *

Кміціч. 7 верасня 2002

Апаламу лісту прасцей за ўсё загубіцца сярод такой самай лістоты ў лесе ці парку. Чалавеку ў турыстычнай вопратцы няма лепшай хованкі, як натоўп такіх самых турыстаў...

Суботняй вераснёўскай раніцай Кміціч ехаў у электрычцы Менск–Ворша разам з вялікай колькасцю людзей з заплечнікамі, намётамі, гітарамі. Усе яны ехалі на бардаўскі фэст пад Воршай, які штогод ладзіцца ў першыя выходныя верасня. І хаця ў вагоне была не адна гітара, усе яны знаходзіліся ў чахлах, таму Кміціч спакойна заснуў, укалыханы мерным гайданнем цягніка. Спартовая сумка, красоўкі, вятроўка — ён нічым не вылучаўся з агульнай масы падарожнікаў.

Перад самай Воршай ён прыстаў да групы, якая абмяркоўвала мясцовы касцёл і збіралася туды паехаць.

— А што там такога прыкольнага?

— Чувак, ды ты прыкінь — самы пачатак дзевятнаццатага стагоддзя. У нас што, да хранішча будынкаў дзевятнаццатага стагоддзя захавалася? Патыкаеш пальцам у касёльную сценку — потым скажаш, што дакранаўся да гісторыі! Ну, і яшчэ там, кажуць, цяпер павесілі копію карціны вядомай «Бітва пад Воршай». Атрымаецца, што ты не проста з’ездзіў песні паслухаць, а павысіў свой культурны і мастацкі ўзровень...

Павел Кміціч пасміхаўся гэтым маладым пікіроўкам і цішком трымаўся побач з групай. Дарогай ён спрабаваў вылічыць, ці не сочаць за ім: рэзка азіраўся назад, раптоўна

спыняўся, — але кожнага разу не мог заўважыць нічога надзвычайнага. Урэшце вырашыў плюнуць на магчымы «хвост», пакуль не зарабіў сабе ў медкартку дыягназ «параноя».

Будынак касцёла журналіста не ўразіў: ні высокіх барочных вежаў, ні асаблівай вонкавай аздобы. Вядома ж, ён да паездкі рыхтаваўся і загадзя прачытаў, што да канца эСэСэСэРу ў будынку быў нейкі клуб. Але ўсё адно Павел адчуў лёгкае расчараванне: гісторыя, да якой ён хацеў бы дакрануцца, выглядала не вельмі ўзнёсла і рамантычна.

Групу гэтыя акалічнасці, здавалася, аніколькі не бянтэжылі. Нехта пытаўся, ці шмат тут каталікоў, ва Усходняй-то Беларусі. І пачуў у адказ, што першы на тэрыторыі сучаснай Беларусі касцёл з'явіўся акурат на гістарычнай Аршаншчыне — у вёсцы Абольцы. Дый сама Ворша пару стагоддзяў была аплотам і фарпостам каталіцтва ва Усходняй Беларусі — з паўтузіна касцёлаў і кляштараў на невялікі, у прынцыпе, гарадок. А ёсць яшчэ і цэлыя вёскі, заселеныя каталікамі, дзе паспелі разгарнуць сваю асветніцкую працу езуіты...

У адным з калідораў касцельнага будынка па дарозе да абяцанай батальнай карціны Кміціч адстаў і павярнуў налева. Схему, знойдзеную ў дакументах, якія ён для сябе назваў «справай Якабіні», Павел памятаў амаль назубок, але ўсё адно раз-пораз даставаў яе, каб спраўдзіць.

Ён ішоў шукаць золата Беларускай Народнай Рэспублікі, якое ў 1918 годзе ротмістр пакінуў да лепшых часоў. Ці даляжала гэтае золата да пачатку дваццаць першага стагоддзя — невядома. Калі таго золата даўно няма, то ён прынамсі напіша рэпартаж пра свае пошукі. А калі ёсць? Нездарма ж нехта невядомы так пераследуе яго пасля знойдзенай ім стужкі з дакументамі.

Кміціч не задумваўся, што ён будзе рабіць са скарбам, калі знойдзе яго. Яго вёў наперад дух авантурнасці і жаданне раскапаць цікавую таямніцу. Думка пра наступствы мільгацела недзе на другім плане. Аддаваць золата дзяржаве, аднак, не хацелася: журналіст адчуваў у такім акце нейкую здраду ідэалам БНР, на якія прызначалася тое золата...

У кароткім тупіковым калідоры ён спыніўся. Сэрца калацілася, выкідаючы ў кроў вялізныя порцыі адрэналіну, увушшу тахкала. Пліту з кальцом Павел пабачыў хутка — дзівам захавалася яна за доўгія гады. Сцізорыкам расчысціў краі пліты, каб лягчэй было ўзняць.

З цяжкасцю і не адразу, але пліта падалася, з атвору дыхнула падземным сцюдзёным паветрам. Прыступкі запрашалі ў непраглядны змрок.

Павел прыхапіў сумку, якую паставіў быў збоку, і стаў спускацца, асвятляючы сабе дарогу ліхтарыкам. Колькі гадоў і дзесяцігоддзяў ніхто не спускаўся сюды? Кміціч адчуваў сябе і першаадкрывальнікам нечуваных скарбаў, і чалавекам, які вяртае гэтыя скарбы гаспадару.

Спуск быццам равёў яго ў іншы свет, дзе не дужа прывабны касцёл замяніўся ў таямнічае падзем'е. Свет, дзе ліпкая нават на выгляд цвіль пакрывае старадаўнія абчасаныя камяні, дзе халоднае паветра пахне вільгаццю, пацвярджаючы блізкую прысутнасць Дняпра.

Насцярожана і павольна ішоў Кміціч наперад. Ён абводзіў святлом ліхтарыка не толькі дарогу пад нагамі, але не забываў ні сценкі, ні нават столь. Вось і раздарожжа, пазначанае на плане. Левы калідор, мяркуючы па плане, выводзіў да колішняга езуіцкага кляштара, потым пераробленага ў турму. Паварот направа, які быў патрэбны шукальніку прыгодаў, вёў пад Дняпро.

Павел адлічыў пятнаццаць крокаў і спыніўся. Прымацаваў ліхтарык да нейкага металічнага гака, які вытыркаўся са сценкі на ўзроўні галавы. Сумка з рыштункам гучна звалілася на падлогу. Акуратна выцягнуўшы з яе бейсбольную біту («Нават не думала, што ў нас ёсць аматары гэтай гульні, — казала ў краме спартовых тавараў маладзенькая прадавачка, — а так добра разбіраюць»), Кміціч уздоўж сценкі вярнуўся на пятнаццаць крокаў і стаіўся ў калідоры, які вёў у бок езуіцкага кляштара. Ён стаяў моўчкі, стрымліваючы дыханне: ніколі ў жыцці ўласнае сапенне не здавалася яму настолькі гучным.

Ён стаяў і чакаў, сам не ведаючы, чаго больш хоча — каб ягоныя падазрэнні спраўдзіліся ці засталіся марнымі. Ён

гатовы быў чакаць доўга, бо толькі так можна было праверыць іх.

Чужога Кміціч спярша адчуў, а не пачуў. Менавіта адчуў — скурай, інтуіцыяй, нейкім восьмым пачуццём. Толькі потым слых адрозніў лёгкія крокі, якія падаліся Паўлу ненашмат гучнейшымі за яго дыханне. Крок, яшчэ крок — супынак. Потым зноў два крокі — і зноў супынак.

Чужак ішоў без ліхтара, і хаця ягоныя крокі былі асцярожнымі, але ўпэўненымі. «Як ён можа рухацца без святла ў такой цямрэчы?» — замітусіліся думкі Кміціча. Каб ісці тут у змроку, трэба мець кашэчыя вочы або зусім нічога не бачыць. Уяўленне ўжо малявала яму шматгадовага насельніка падзем'я, які за час, праведзены тут, страціў зрок, але напамяць вывучыў усе калідоры, павароты, выбоіны. Змрочная сляпая фігура з вузкім тварам і кашчавымі доўгімі пальцамі рук — улюбёны персанаж гатычных жудзікаў...

Чужаніца прайшоў міма Кміціча, і няяркае святло ліхтарыка, які журналіст пакінуў у праходзе наперадзе, асвятліла яго фігуру. Яна была не такая ўжо аскетычна высахлая, дый увогуле чалавек мала нагадваў падземнага жыхара.

У апошні момант ён, відаць, нешта пачуў і пачаў паварочвацца, але бейсбольная біта ў руках журналіста ўжо ляцела яму ў галаву. Чалавек зваліўся кулём, пры падзенні пабіліся аб камяні акуляры начнога бачання, якія былі на ім.

* * *

Якабіні. 5–6 жніўня 1918

Цёмнае жнівеньскае неба над Воршай стракацела зоркамі. Калі-нікалі на вуліцах былі чутны рэдкія вінтовачныя стрэлы. Гараджане за апошнія месяцы прызвычаіліся да гэтых гукаў, і мала каго турбавала такая страляніна, калі яна не адбывалася недзе пад вокнамі.

Праўда, сённяшні дзень быў асаблівы. У доме Страхановічаў не спалі, бо пасля дзённых падзеяў заснуць было няпроста.

Цэлы дзень часцілі кулямёты, рытмічна аддзяляючы чыесьці душы ад целаў. Некалькі разоў бухалі разрывы снара-

даў, потым запанавала бязладная страляніна, якая перарасла ў атаку з крыкамі «Ур-ра-а-а!»

Васіліна, кухарка Страхановічаў, забілася ў куток у сваім пакойчыку і бесперапынку клала паклоны перад абразом ды зацята малілася. Адарваць яе ад гэтага занятку не было ніякай змогі — жанчына быццам нічога не чула і не бачыла навокал.

Гаспадар дома спярша вырашыў, што немцы парушылі перамір'е і пайшлі ў наступ, выцясняючы з горада бальшавікоў. Але нямецкая мова на вуліцах так і не загучала. Пакрэктваючы, Страхановіч забраўся на гарышча будынка, каб бачыць як мага далей, і праз невялікае вакенца стаў аглядацца. Мышастых нямецкіх фігураў навокал не было — адны знаёмыя гімнасцёркі. Як яны адрозніваюць сваіх ад чужых, задаўся пытаннем Страхановіч. Роздум перапыніла фігура салдата метраў за дваццаць ад ягонага дома. Баец уцякаў, крывячы рот, нешта выкрыкваючы, але яго словы не даляталі да Страхановіча. Раптам салдат спыніўся, павярнуўся ў бок атакуючых, ускінуў вінтоўку і стрэліў не цэлячыся. Потым адкінуў зброю — мабыць, ужо не патрэбную і нават лішнюю пры ўцёках, павярнуўся тварам у бок Страхановіча і паваліўся долу. Куля, відаць, перабіла нейкую вену, бо пад целам на брукаванцы стала расплывацца цёмная пляма.

Страхановіч упершыню бачыў так блізка забойства і адчуў млосць...

Толькі пад вечар страляніна сціхла, але хто атакаваў, а хто адступаў, Страхановічы так і не высветлілі.

Лёгкі стук каменьчыка ў шыбу другога паверха ўзняў увесь дом. Сам гэты гук, здавалася, прыйшоў зусім з іншых, мірных часін. Часін, знесеных у невараць брунатна-мутнай, як дняпроўская вада, рэвалюцыйнай калатнечай.

Страхановіч асцярожна вызірнуў з-за фіранкі: адзінокая фігура ў садзе падавала знакі, каб яе пусцілі ў дом. Разважыўшы, былы гарадскі галава вырашыў, што сённяшнім часам небяспечны чалавек хутчэй будзе грукацца ў дом, трымаючы ў адной руцэ вінтоўку, а ў другой — ордар. Таго ж, хто падае такія напаўзабытыя знакі мірнага часу, наўрад ці варта баяцца.

У прыадчыненыя дзверы ценем слізгануў Якабіні, якога Страхановіч апазнаў у мігатлівым святле свечкі.

— Ротмістр? —здзіўленне гучала ў голасе гаспадара дома.

Якабіні цырымонна схіліў галаву, шчоўкнуўшы абцасамі — сцэна атрымалася троху карцінная і недарэчная.

Ротмістр папрасіў прабачэння за позні візіт і патлумачыў, што пакідае горад — верагодна, вельмі надоўга. Таму ён палічыў сваім абавязкам развітацца з сямействам Страхановічаў, асабліва з паненкай Ляляй, якая так зычліва да яго паставілася і пазнаёміла з такімі цікавымі жыхарамі Воршы.

— Прайдзіце, прайдзіце, ротмістр, — мітусліва казаў гаспадар, паказваючы ўглыб дома. — Ідзіце за мной, я вам пасвячу.

У пакоі пры святле газніцы сядзелі жонка і дачка Страхановіча. На іх тварах чыталіся чаканне, боязь, здзіўленне.

— Прабачце, — прыгаворваў галава сямейства, — частаваць вас зараз не маем чым: самі цэлы дзень галодныя сядзім. Можа, вы ведаеце, што там у горадзе сёння рабілася?

— Ведаю, — пацвердзіў Якабіні. — Улада памянялася. Бальшавікі хацелі адправіць супраць чэхаславакаў у Сібір два палкі — былы мой, кавалерыйскі, і пяхотны 64-ы. Абодва раскватараваныя на левым беразе ракі, у Задняпроўі. Байцы ў палках пераважна тутэйшыя, беларускія. Чаму трэба ваяваць супраць чэхаславакаў у Сібіры, калі іхныя дамы засталіся тут пад немцамі, яны не разумеюць. Вось яны і ўзбунтаваліся. Падтрымалі іх ранейшыя памочнікі бальшавікоў — левыя эсэры: яны ўзначалілі бунт і павялі палкі на горад. Бальшавікі адстрэльваліся, нават бранявік да моста падагналі. Аднак паўстанцы фарсіравалі раку і проста масай занялі горад. Так што цяпер тут кіруе Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, увечары нават пачалі наклейваць яго зварот на дамы...

— Значыць, для нас нічога не мяняецца, — горка ўздыхнуў Страхановіч.

— Але ж яны цяпер супраць бальшавікоў! — запярэчыла Ляля з гарачым энтузіязмам.

— Чула ты, доча, прымаўку пра два боты? — песімізм бацькі не паддаваўся яе юнаму напору.

Якабіні падтрымаў скепсіс гаспадара дома:

— Думаю, улада памянялася ненадоўга, бо па-сапраўднаму ваяваць з бальшавікамі левыя эсэры не хочуць. Для іх бальшавікі — надзея рэвалюцыі... Яны нават гарадское кіраўніцтва не расстралялі, а толькі арыштавалі і пасадзілі ў выпраўдом. А роту, якая ахоўвала вязняў, мяняць не сталі, так што цяпер турма — гэта абложаная бальшавіцкая крэпасць усярэдзіне леваэсэраўскага горада. Калі раптам бальшавікі атакуюць Воршу звонку, то левых эсэраў чакае яшчэ і ўдар у спіну з выпраўдома...

Ён памаўчаў і суха дадаў:

— Ад дапамогі кадравых афіцэраў паўстанцы адмовіліся.

Бляклае святло газніцы не магло схаваць расчараванне, якое праступіла на твары Якабіні. Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але ў шыбу лёгка стукнуў каменьчык і з двара пачуўся ціхі свіст.

— Што ж, мне трэба сыходзіць. Магу я прасіць вас, Ляля, каб вы мяне правялі да дзвярэй?

У цёмным калідоры яны запыніліся, агеньчык на свечцы мітусіўся ад вулічнага паветра, якое прарывалася праз шчыліны ў дзвярах.

— Значыць, з'язджаеце? — парушыла няёмкае маўчанне Ляля.

— Так... Ведаеце, Ляля, я хацеў вам сказаць, што знаёмства з вамі было для мяне самым светлым уражаннем за апошнія гады.

З вуліцы зноў данёсся нецярплівы свіст.

— Мяне прыспешваюць, — Якабіні невясёла пасміхнуўся, — да сустрэчы!

— Да пабачэння, — з гэтымі словамі Ляля няўмела тыкнулася вуснамі ў сухія вусны ротмістра, потым павярнулася, прыкрыўшы твар, і шпарка пайшла назад.

На вуліцы да Якабіні далучыўся верны Лю Янь, твар кітайца аж ззяў ад задавальнення.

— Цяпер можам зусім ісці, — важна паведаміў ён ротмістру. Ці то звычайная стрыманасць здрадзіла яму, ці то кітаец палічыў гэтую інфармацыю важнай, але ён дадаў:

— Цяпер душа Веркі можа ўздыхнуць спакойна: няма больш начальнічка з ЧК. Яго душу чакаюць дзесяць судзілішчаў Дзіюя — пекла. На васямнаццаці ўзроўнях Дзіюя па-рознаму катуюць грэшнікаў...

Кітаец паківаў галавой, быццам дзівячыся сваім уласным словам.

Якабіні аж збіўся з кроку і спатыкнуўся:

— Ты забіў Дзерваеда? Як? Калі?

І кітаец распавёў. З яго словаў вынікала, што кіраўнік ЧК прыцемкам некуды спрабаваў дабрацца цішком, нікім не заўважаны. («Мабыць, дзённую страляніну пераседзеў у зацішным нейкім закутку, а поначы надумаў выбрацца з горада», — вырашыў Якабіні.) Напэўна, гэта яму і ўдалося б, але на сваю бяду ў адным з завулкаў барадач натыкнуўся на кітайца, які чакаў ротмістра.

Сустрэча была нечаканай для абодвух. І хаця ў руцэ ў Дзерваеда быў маўзер, стрэліць ён не паспеў. Рука чэкіста яшчэ толькі ўздымалася на ўзровень грудзей кітайца, калі пятка стукнула яму ў сонечнае спляценне, перацінаючы дых. Потым Ян крутануўся на другой назе — і гэтым разам яго пятка пацэліла ў галаву барадача. Галава тарганулася, як у паламанай цацкі, чэкіст адляцеў на брукаванку, гучна стукнуўшыся. Гэты ўдар і стаўся для яго смяротным. Ян адцягнуў нерухомае цела з праезду і паклаў яго пад плот.

— Верка будзе радая, — паўтарыў ён, завяршаючы расповед.

* * *

Кміціч. Стась. 7–8 верасня 2002

— Як думаеш, я не занадта моцна стукнуў? — заклапочаны голас.

— Перажыве, халера яго не возьме, — у другім голасе гучала абыякавасць.

«Перажыве, халера яго не возьме... Перажыве...» З гэтымі словамі Стась зноў праваліўся ў нейкую ўчэпістую дрыгву, якая трымала яго ўжо доўгі час. Раз-пораз яна паслужліва

падсоўвала яму нейкія ўрыўкі ўспамінаў. Вось і цяпер паспяшалася.

«Перажыве, халера яго не возьме», — гэтыя словы ён пачуў, калі адчыняў дзверы ў свой пакой у студэнцкім інтэрнаце.

Суседзі абедалі. У гэтай карціне не было б нічога незвычайнага, калі б у іх на стале не ляжала нарэзанае сала, якое бацькі літаральна заўчора перадалі яму з вёскі. Смачнае прасоленае сала з даволі вялікай мясной праслойкай.

— Заходзь, Стасік, не стой у дзвярах, — сказаў пяцікурснік Віця. — Мы, прабач, тваім салам пачаставаліся, бо дужа голад апанаваў, а грошай да стыпендыі ўжо не засталося. Табе ж не шкада, праўда?

Тры пары галодных вачэй утаропіліся ў яго, чакаючы толькі станоўчага адказу.

— Ды ладна, вядома, мне не шкада, — прамармытаў Стась. — Ешце ўжо, я ж не стану з рота ў вас выдзіраць... Але наступным разам лепш спытацца.

Віця развёў рукамі:

— Дык мы і хацелі дачакацца, але цябе ўсё не было і не было...

Праз пару дзён Стася на калідоры гістарычнага факультэта, дзе ён вучыўся, гукнуў невядомы хлопец у пацёртай джынсовай куртцы і з тоненькай палоскай светлых вусікаў пад кірпатым носам. Ён удакладніў, ці сапраўды Стась вучыцца на другім курсе, а пачуўшы пацвярджэнне, сказаў:

— Дык ты мне, можа, дапаможаш? Я вось не ўсё дакладна памятаю — паглядзі сюды.

Студэнт падышоў бліжэй і ў раскрытай кнізе пабачыў чырвонае пасведчанне з ціснёным надпісам «Камітэт дзяржаўнай бяспекі». Стась абмяк і пабялеў, але хлопец сказаў, што ўсё нармальна, ён хоча толькі паразмаўляць. На факультэце гэта рабіць нязручна, таму можна пайсці пасядзець на лавачцы ў парку Горкага — тут жа недалёка, праўда ж?

Вуліцай Кірава яны спусціліся да Свіслачы, якая навязліва пахла нясвежай рыбай, і знайшлі ў парку вольную лавачку. Валера (так прадставіўся хлопец) зноў папрасіў Стася

не хваляваецца. Часы зараз не тыя, што раней, — перабудова, галоснасць, новыя павевы ў грамадстве. Але сам ён яшчэ выхаваны ў вельмі савецкіх традыцыях і не ва ўсім паспявае разабрацца, таму просіць, каб Стасік, як чалавек малады і сучасны, яго пракансультаваў. Больш нічога.

Студэнту такая ўвага была даспадобы. Да таго ж новы знаёмец і напраўду нікуды не вербаваў, правакацыйныя пытанні не задаваў — проста распытваў, наколькі адпавядае праўдзе тое, што пішуць у тых ці іншых газетах. Пытаўся, чаму з надрукаванага вераць Стасевы сябры-аднакурснікі. На развітанне спытаўся, ці можна будзе падысці яшчэ раз...

Недзе на трэцяй-чацвёртай сустрэчы Валера ўжо амаль не распытваў Стася, а толькі слухаў: студэнт сам ахвотна расказваў, бо роля настаўніка, які нешта тлумачыць старэйшаму чалавеку, узвышала яго ў сваіх вачах.

А потым Валера запрасіў Стася да сябе ў госці. Звычайная «панэлька» ў далёка не элітным раёне, звычайная кватэра... Вось толькі размова ў іх атрымалася не зусім звычайная, бо Валера ультыматыўна запатрабаваў, каб Стась падпісаў згоду на супрацу з КДБ. Калі хлопец заўпарціўся, гаспадар кватэры паклаў перад ім стос сваіх рапартаў, кожны з якіх сведчыў, што Стась ужо супрацоўнічае з органамі і дае ім інфармацыю на сваіх аднакурснікаў.

Калі хлопец падпісваў паперу, вусны яго дрыжалі, быццам ён збіраўся расплакацца. Пабачыўшы гэта, Валера пабацькоўску паклаў яму далонь на плячо і сказаў:

— Ты мне яшчэ ўдзячны будзеш, што я цябе выцягнуў з гэтага смярдзючага гаўна!

І сапраўды, Стасева жыццё на факультэце пасля гэтага змянілася. На іспытах выкладчыкі яго не «завальвалі», а стараліся дапамагчы атрымаць як мага вышэйшую адзнаку. Намеснік дэкана на сходах казаў, што менавіта дзякуючы такім студэнтам ёсць надзея на далейшае развіццё навукі.

Праз некалькі гадоў ужо Стась замяніў Валеру на ролі куратара гістфака. Цяпер ужо ён хадзіў да таго самага намесніка дэкана з просьбай даць характарыстыкі на цікавых і перспектыўных для працы студэнтаў...

Калі-нікалі пры вярбоўцы новых студэнтаў увушшу Стася гучалі колішнія словы суседзяў па студэнцкім пакоіку: «Перажыве, халера яго не возьме».

І тады ён думаў: «Я-то перажыў! А вось што стала з вамі? Дзе вы цяпер? А Стасік, у якога вы без дазволу тырылі сала, цяпер мае такую ўладу, што кожнага з вас можа ў пыл сцерці. Бо за мной — уся магутнасць Камітэта!»

...На гэтым Стась зноў ачуняў і адчуў моцны боль у галаве. Паспрабаваў падняць рукі, але не змог — звязаныя за спінай, яны толькі бездапаможна торгаліся там. Ногі таксама былі звязаныя.

Разляпіўшы вочы, Стась пабачыў, што над ім схіліліся дзве фігуры. Калі б яму ў твар свяцілі ліхтарыкам, Стась бы не пазнаў іх. Але цемру навокал разганялі дзве тоўстыя свечкі, таму прынамсі аднаго чалавека можна было апазнаць — гэта быў журналіст Кміціч, на якога Стась апошнія тыдні вёў сваё прыватнае паляванне. Другога апазнаць ён не мог — твар гэтага быў схаваны пад маскай-балаклавай.

— Развяжыце мяне, — запатрабаваў кадэбіст, ледзь варушачы перасохлым языком, — вы абодва парушылі закон, напаўшы на супрацоўніка пры выкананні ім службовых абавязкаў. Але добраахвотная супраца з органамі правасуддзя будзе ўлічаная, і вам змякчаць пакаранне. Калі вы мяне не развяжаце, то зараз сюды спусцяцца мае напарнікі...

— Сціхні, — сыкнуў на яго чалавек у балаклаве. — Не спусціцца сюды ніхто, расслабся.

Ён матлянуў галавой у бок Кміціча:

— Пакуль ты пільнаваў яго, я вёў цябе. Так што не трэба ля-ля — адзін ты сюды прыйшоў.

Яны пасадзілі свайго палоннага, прыхінуўшы яго плячыма да халодных слізкіх камянёў сцяны. Стась прыклаў галаву да гэтых камянёў — здаецца, стала троху лягчэй, хаця думкі ўсё яшчэ блыталіся. Яму працягнулі пластыкавую бутэльку з вадой, і прагныя глыткі прынеслі яму асалоду, якой ён даўно не памятаў.

— Ну, расказвай, — сказаў Кміціч, забіраючы бутэльку.

— Што... расказваць?

— Навошта за мной сачыў? Як Рыбніка знайшоў? Усё расказвай, і хутчэй, бо часу ў нас мала.

— А... знайшлі што-небудзь? — Стась спрабаваў перахапіць ініцыятыву ў размове.

Кміціч цяжка ўздыхнуў:

— Слухай сюды. Мне напляваць, як цябе зваць, — у вашых органах імёны мяняюць як ношаныя шкарпэткі. І смярдзіць ад вашых імёнаў гэтаксама ж. Сёння ты Іван Пятроў, заўтра — Саламон ібн-Дауд, а паслязаўтра — Пятрас Мазецкіс... Мне проста цікава, як ты выйшаў на Рыбніка і што ты спадзяваўся знайсці.

— А калі я не скажу? — усё яшчэ не здаваўся Стась. — Ты ж інтэлігентны чалавек, ты не станеш мяне мучыць...

— Я не стану, але за яго, — журналіст для пэўнасці паказаў пальцам на свайго паплечніка, — я аж настолькі паручыцца не рызыкну.

Чалавек у балаклаве ўзважыў у руцэ бейсбольную біту, выгляд якой зусім не супакоіў палоннага. Эх, Стась, недаацаніў ты працаўніка! І за гэта зараз давядзецца заплаціць, дорага заплаціць.

Ён яшчэ прадумваў, якую долю праўды можна будзе сказаць, а ў чым схлусіць, калі адчуў, што з левай нагі сцягнулі красоўку. Удар бітай па мезенцы вырваў з яго горла дзікі крык.

— Ты што?! — схамянуўся Кміціч. Але ягоны напарнік рашуча сказаў:

— Зверху не чуваць, тут акустыка храновая. А нам цацкацца няма калі.

Стась адчуваў, што з ім вядуць старую як свет гульню ў добрага і злога следчага. Але зараз яму дасталася роля не загоншчыка і не паляўнічага — роля ахвяры выпала яму на гэты раз. Той самай ахвяры, пра якую на занятках казалі: абсалютная большасць пачынае давяраць добраму следчаму і расказваць яму ўсё...

І Стась расказаў, як курыраваў гістарычны факультэт і пачуў там, што Рыбнік носіцца як ашалелы з новай знаходкай, якую ён называў сенсацыяй. Што ўжо такога сенсацый-

нага можна раскапаць у гісторыі БНР? Сатлелыя факты, цікавыя толькі выкладчыкам гісторыі. Ну, вядома, яшчэ і якому-небудзь з палітыкаў — раз на год, калі набліжаецца чарговая гадавіна абвяшчэння БНР.

Але паводзіны Рыбніка былі настолькі незвычайнымі, што Стась імі зацікавіўся. Грандыёзная сенсацыя, кажаце? А калі дзеда прыцiснуць і цвёрда спытаць, каб раскалоўся? Органы маюць права даведвацца пра сенсацыі першымі! І Стась наведаў Рыбніка на кватэры пад выглядам журналіста.

Гісторык ахвотна распавядаў пра сваю працу. Згадаў і пра нядаўнюю паездку ў маскоўскія архівы, якая прынесла нечаканыя знаходкі. Маўляў, архівы беларускай эміграцыі з Прагі, якія спецслужбы забралі ў 1945-м, дагэтуль ляжаць там неразабраныя і неапісаныя. Ну, не дайшлі да іх рукі ў маскоўскіх архівістаў! А дакумент, які трапіўся ў рукі яму, Рыбніку, магчыма, зробіць такую ж сенсацыю, як славутыя залатыя статуі апосталаў са спадчыны Радзівілаў.

— Згадка пра золата яго і згубіла, — падсумаваў Кміціч. — Але навошта ты яго забіў?

— Дык я папрасіў «браткоў», якія ў нас на кручку віселі, дапамагчы выбіць з дзеда інфармацыю. Бо мне ён толькі сказаў, што ўсе дакументы сфатаграфаваў. Шукалі яны тую плёнку і не знайшлі. Са злосці перастараліся — занадта моцна стукнулі: не вытрымаў дзед, слабы...

— А ператрус у мяне на кватэры?

Стась энергічна закруціў галавой:

— Там я адзін быў, без браткоў. Яны ж безгаловыя! Прыстукнулі б цябе, а стужку зноў не знайшлі — мне тады ўсе пошукі нанова пачынаць? Ну, я і адмовіўся ад іх.

Кміціч з агідай плюнуў сабе пад ногі:

— Значыць, цішком ад начальства думаў пажывіцца залацішкам? І не атрыма-алася...

Стась з надзеяй і мальбой глядзеў на Кміціча, краем вока пільнуючы і чалавека ў балаклаве. Ён расказаў усю праўду і спадзяваўся, што цяпер яго адпусцяць.

Кміціч паглядзеў на напарніка:

— Што думаеш?
— Тое, што і раней, — змрочна адказаў той. — Гэты табе не даруе. Мяне шукаць ён замудохаецца, а цябе ведае.
Журналіст павярнуўся да звязанага кадэбіста:
— Выйсця ў нас няма — да заўтра мы цябе пакінем тут, а заўтра цябе вызваляць. Каб не сумна было, застанецца табе свечка — яе хопіць на 12 гадзінаў.
— Вы мяне хочаце пакінуць, каб я тут памёр ад голаду і смагі? — Стась не мог стрымаць істэрычных нотак у голасе.
— Навошта нам гэта? Твой расповед запісаны на дыктафон, пасведчанне тваё мы забралі, — Кміціч распавядаў спакойным, разважлівым тонам, быццам гаварыў з напалоханым дзіцем, якому тлумачыў, што ягоныя страхі — уяўныя і надуманыя. — Проста засцерагаемся ад тваіх непрадуманых дзеянняў.
І, быццам нешта ўзгадаўшы, дадаў:
— Шукаць мяне не пачынай — я з краіны з'еду. І адкажы мне яшчэ на такое пытанне: астатніх, акрамя Рыбніка, таксама вы збівалі?
Стась, які зразумеў, што яму выпаў шанец на жыццё, пасля гэтых словаў істэрычна захіхікаў:
— Сам даведвайся. Я гэтым не займаўся, а пра астатніх не магу сказаць, бо не ведаю.
Калі крокі сціхлі ў глыбі калідора, Стась агледзеўся навокал. У няяркім святле свечкі ён пабачыў тое, што раней ад яго закрывалі фігуры Кміціча і яго напарніка: выкапаная яма, на краі якой стаяў пусты куфар. Мужчына ўзгадаў, што ягоныя ка́ты сыходзілі ўлегцы, не абцяжараныя лішнім грузам, і радасць запоўніла яго: ім таксама нічога не дасталося!

З-пад асцярожна адсунутай пліты ў аршанскім касцёле выбраўся Павел Кміціч. Следам за ім, камечачы ў руках «балаклаву», падняўся Сяргей Рак. З калідорчыка яны зірнулі ў касцельную залу. Праз высокія вокны на падлогу клалася месячнае святло.
— Дзякуй, без цябе б я не справіўся, — Кміціч моцна пацiснуў таварышу руку. — Як змагу аддзячыць, нават не ўяўляю...

Рак пасміхнуўся, але голас яго гучаў трывожна:

— Табе зараз трэба думаць, як хутчэй з краіны зваліць, а не як аддзячыць. Спадзяюся, увечары ты ўжо будзеш перасякаць заходнюю мяжу нашай сінявокай, бо я ж паведамлю ксяндзу, што чуў галасы з падзем'я. А на свабодзе гэты дурань з арганаў можа адразу ўзняць трывогу.

— Ага, выбару ў мяне няма... Затое вывожу з краіны сенсацыю, хай сабе і без золата.

## ДЗЕ ЯНО, «ЗОЛАТА ЯКАБІНІ»? (ПАСЛЯСЛОЎЕ)

Сапраўды, неяк крыўдна закрываць апошнюю старонку кнігі, не атрымаўшы адказ на самае цікавае пытанне: куды падзеўся скарб, на які палююць журналіст Кміціч і кадэбіст Стасік? На гэта аўтар можа адказаць цікаўнаму чытачу толькі так, як любяць адказваць следчыя: ужо ёсць некалькі версіяў, і аўтар над імі працуе.

І, падумаўшы, аўтар дадае: перыяд 1917–1922 гадоў быў настолькі складаным, што безразважным было б выстаўляць абвінавачанні каму заўгодна без грунтоўных падставаў.

Іншы цікаўны чытач спытаецца, што напраўду дзеялася ў Воршы ў згаданы гістарычны перыяд. І на гэта аўтар мае дыпламатычны адказ: і кітайцы, і Першы беларускі конны полк, і леваэсэраўскае паўстанне былі насамрэч. Кітайцы, дарэчы, перажылі разам з аршанцамі індустрыялізацыю і рэпрэсіі 1930-х, вайну 1940-х, і большая іх частка выехала на радзіму на мяжы 60–70-х падчас «культурнай рэвалюцыі». Апошні кітаец дажываў свае дні ў 70-х гадах, гандлюючы на мясцовым базары маленькімі выразанымі з дрэва фігуркамі-нэцкэ. У Воршы дагэтуль можна пабачыць яго магілу...

Кожны, хто хаця б крыху сачыў за прэсай на пачатку 2000-х, прыгадае і масавую «эпідэмію» збіцця навукоўцаў і дзеячаў культуры. Словам, аўтар як мог датрымоўваўся праўды.

Калі аповесць ужо была дапісаная, аўтар знайшоў чарговую згадку пра Якабіні — у гістарычным артыку-

ле Уладзіміра Ляхоўскага. У снежні 1917 года дэлегаты Усебеларускага з’езда паручнік Васіль Русак і яфрэйтар Мікалай Шыла адправіліся ў Воршу да ротмістра Якабіні. Яны хацелі, каб Беларускі эскадрон (тады яшчэ не полк) арганізаваў ахову Усебеларускага з’езда. Падрабязнасці гэтай паездкі засталіся невядомыя, але ў кожным разе яна запазнілася: пакуль Русак і Шыла ездзілі, менскія бальшавікі разагналі Усебеларускі з’езд.

* * *

*Падзякі*

*Не магу не падзякаваць усім, чые веды і парады дапамаглі мне напісаць «Вуаерыста».*

*Першымі чытачамі аповесці сталі мае сябры Кацярына Барысенка і Віктар Сцяпанаў. Ім я ўдзячны за фактычныя, стылёвыя ды іншыя заўвагі, якія дапамаглі палепшыць твор.*

*Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — мая падзяка за тое, што зберагла нумары газеты «Оршанский вестник» за 1917–1918 гады.*

*Сяргею Шупу — за тыя звесткі пра ротмістра Якабіні, якія ён абнародаваў у зборніку «Архівы БНР».*

*P. S. За ўсе памылкі, хібы і недакладнасці нясе адказнасць аўтар і толькі аўтар. Але пры гэтым ён нагадвае, што гэтая кніга — не болей чым мастацкі твор, а супадзенні літаратурных герояў з рэальнымі асобамі практычна нічым не пацверджаныя.*

# ЗМЕСТ

На апошняй старонцы вокладкі выкарыстаны фотаздымак Зміцера Дзядзенкі (аўтар Юлія Дарашкевіч)

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 67

**Дзядзенка** Зміцер Віктаравіч

**Гісторыі ў прыцемках**

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алесь Пашкевіч
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктура Наталлі Кучмель

Падпісана да друку 29.10.2015. Фармат 84x108 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 7,77. Ул.-выд. арк. 6,37.
Наклад 250 ас. Зак. 460.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.